## ЗМЕСТ





**Андрэй Мельнікаў**

# АНАТОЛЬ СЫС – ПСАЛЬМЯР ДЭФАРМАВАНАЙ БЕЛАРУСІ

**Анатоль Сыс (1959 – 2005) – буйнакаліберны беларускі паэт. Пры жыцці свет пабачылі тры зборнікі яго вершаў: “Агмень”, “Пан Лес” і “Сыс”. Спрабаваў сябе ў публіцыстыцы, найлепей пачуваўся на сцэне. Яго любілі і спрабавалі кахаць многія жанчыны. А ён найболей любіў маці і паэзію.**





## Пасля скону

**Ёсць дзіўны феномен: бывае, памёрлы збірае людзей, спачатку на сваё пахаванне, а пасля на памінкі і адзначэнне датаў памяці –і прастора вакол яго робіцца святлейшай, людзі чысцейшымі, а стасункі між імі выпраўляюцца, развязваюцца даўнія вузельчыкі і непаразуменні…**

**Штось падобнае адбылося і з Сысам. Не адразу і ня проста, але паступова адпала многае другаснае шалупінне, спраміліся ды выпрасталіся недарэчныя крывуліны-загагуліны… Некалькі разоў на год Анатолеву хату і могілкі наведваюць тыя, каму быў дарагі ён, і хто цэніць ягоную творчасць. Выдаюцца нанова яго ранейшыя і зноў адкрытыя вершы, успаміны пра яго, паўстаў на магіле густоўны помнік, частка якога таямнічым для прысутных чынам застаеца сухой нават у вельмі вільготнае надвор’е. Аўтар помніка – Генэк Лойка, грошы на выраб і ўзвядзенне збіралі талакою і мінскія сябры і сябры ды прыхільнікі з іншай Беларусі.**

**Галоўнай кнігай Анатоля, мяркую, застаецца яго апошні прыжыццёвы зборнік – “Сыс” – беларускі псалтыр, над якім шчэ доўга можна разважаць тым, хто жадае спасцігаць Беларусь і яе месца ды прызначэнне ў свеце. Прарок Анатоль Сыс зрабіў хай і значна меней, чым яму было дадзена звыш, але і за тое будзьма яму ўдзячнымі і, наколькі здольныя, пастараемся скарыстацца найлепшым чынам тым, што ён нам пакінуў.**

**Прыжыццёвыя зборнікі Анатоля Сыса: “Агмень”, “Пан лес”, “Сыс”.**

**Зборнікі Анатоля Сыса, выдадзеныя пасля яго смерці: “Алаіза”, “Лён”, “Берагі майго юнацтва”.**

**Найбольш поўную бібліяграфію публікацый Анатоля Сыса на сённяшні дзень склаў Сяргей Сыс.**

**Па тэлефоне спадарожніца Сыса распавяла, што паэт яе не даставаў і праспаў усю дарогу. Праўда тое, ці ня праўда, але голас у дзяўчыны быў спакойным.**

## Без маці

**Маці Анатоля памёрла амаль адразу пасля з'езда пісьменнікаў.**

**І болей мы з ім жывым не бачыліся. Агульны сябра-бізнесовец (між іншым, той самы, які пазней здасць адну са сваіх кватэраў – на мінскай Чырвоназорнай ля шпіталя МУС - "Ляпісу Трубяцкому" і тыя зробяць на ёй альбом "Капітал") прымаў Сыса ў сваім офісе, абараняў ад крытыкаў і наездаў, карміў, паіў і слухаў вершы. Але ягоны бізнес імкліва накрываўся… З таго перыяду да мяне дайшлі некалькі фотак Анатоля ў асяроддзі ды інтэр'еры. Сустракацца з ім не было ні жадання ні матывацыі…**

**У 2003-м Сыс шчэ выбухнуў вершам "Пчаліная матка", які неўзабаве стаў крыніцай натхнення для мастака Алеся Квяткоўскага: з часу знаёмства з вершам пачалася ягоная "мядовая сэрыя" карцін, што цягнецца дагэтуль…**

**А напачатку мая 2005-га прыйшла сумная вестка…**







## УСТУП

**Ён нарадзіўся ўначы. Самая старэйшая з яго сясцёр, Тамара, лічыць, што ўначы і сканаў, бо неяк вельмі яскрава і своеасабліва завітаў да яе ў сне, а яна прачнуўшыся зафіксавала час. І праз больш чым дзесяцігоддзе са скону Анатоль працягвае завітваць да Тамары ў снах, а яна жыве ў старым бацькоўскім доме і даглядае за ім – за тым, што паступова ператвараецца ў грамадскі музэй паэта са сваімі экспанатамі, традыцыйнымі датамі наведвання, прыхільнікамі і легендамі….**

***

**Дата народзін Анатоля Сыса – 26 кастрычніка 1959-га. Калі больш дакладна – ён нарадзіўся ля апоўначы, а таму і дзень народзін пачынаў святкаваць ужо з вечара 25-га. Афіцыйная дата скону – 4 мая 2005–га. Дзесь ля апоўначы, і быць можа, 5-га ён сустрэў шчэ жывым.**

**Паміж датамі – зямное жыццё таго, хто называў сябе сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча. Таго, хто пры жыцці быў прызнаны ў літаратурным асяродку класікам беларускай паэзіі.**

**З паэтам Анатолем Сысам калегі вазіліся шмат: многія лічылі сябе яго сябрамі, многія – апекунамі, многія – цаніцелямі, многія – вучнямі і паслядоўнікамі. Па факту, многія аказаліся магільшчыкамі: хтось дапамог спіцца, хтось – здэградаваць у паводзінах, хтось – згубіць стасункі… Анатоль апошнія гады баяўся адзіноты, але паміраў насамоце доўга і пакутліва, ад страўнікавага крывацёку пры запаленым у кватэры святле, уключаным тэлевізары і адсутнасці тэлефона. Паверхам ніжэй жыла сяброўка Ганна Канапелька, але да яе шчэ трэба было дабрацца. Ён здолеў дапаўзці толькі да сваёй вітальні, адчыніць дзверы ўжо не было моцы…**

**Кватэру ўскрылі праз некалькі сутак. Святло гарэла, тэлевізар работаў… Паталагаанатамы вызначылі прыблізны час смерці: ноч з 4 на 5 мая. Афіцыйна прычынай скону запісалі сардэчны прыступ, а датай – 4-га – дзень, калі яго апошні раз бачылі жывым. Праз некалькі гадоў старэйшая за Анатоля на шэсць гадоў сяcтра Валянціна прадала яго мінскую кватэру на вуліцы Крапоткіна чужым.**

**Хавалі Анатоля на могілках роднага “горада-героя-Гарошкава” – населенага пункта з падняпроўскага пасa паселішчаў, што цягнуцца ўздоўж правага берага вялікай ракі дзесяткі кіламетраў ад вёскі Ўнорыца**





**ўсё само зменіцца з часам. Рабі што вінен, а будзе ўсё адно тое, што будзе.**

## Апошняя сустрэча

**Глыбокай восенню 2002 года Анатоль апошні раз завітаў да нас у гомельскую кватэру. У пінжаку і нясвежых трэніках з лампасамі. Выглядаў некалькі выпіўшым. Мацярыўся, нягледзячы на малых у кватэры і шматлікія заўвагі. Ды было тое, хоць і гучна, але без агрэсіі, як у нявыхаванага падлетка…**

**Урэшце, я правадзіў яго на чыгуначны вакзал. Гучны Сыс і тут умудрыўся патрапіць у перабрэх з міліцыянтам і яго пацягнулі на тутэйшы апорны пункт…**

**Я стаў даводзіць мянтам, што перад імі – вялікі паэт. Мы знайшлі Анатолеву “корачку” Саюза Пісьменнікаў. Толькі ў адрозненне ад савецкіх і апошніх гадоў мінулага тысячагоддзя, гэтая “ксіва” цяпер ужо мала спрацоўвала – міліцыянеры глядзелі на яе досыць абыякава і, не сказаць каб прыязна на мяне – непатрэбнага сведку…**

**Анатолю ж карцела праявіць сцэнічную магію. Ён стаў голасна і з прывычнымі целарухамі чытаць свой верш… Мянты засталіся знешне такімі як і былі. Магія мастацкага беларускага слова ад аўтара не спрацавала… Спрацаваў квіток на цягнік, на які надышоў час пасадкі, і я неяк пераканаў доблесных супрацоўнікаў у тым, што на цягнік нас варта адпусціць, тым больш, што там, у Мінску Сыс ехаў на чарговы з’езд пісьменнікаў…**

**На пероне Анатоль даводзіў, што ён выйдзе на з’ездзе і скажа: “Галоўнае – што маці жывая!”. Я пераконваў, што ня варта таго рабіць – блытаць маці са сцэнай, ня трэба спакушаць лёс…**

**У Анатолевым купэ была дзяўчына студэнцкага ўзросту. Перажываючы, што з такім неспакойным суседам ехаць будзе складана, я папрасіў у яе нумар хатняга тэлефону (мабілкі тады тут яшчэ былі рэдкімі і дарагімі), даў свой і папрасіў затэліць мне па прыездзе ў Мінск. Сказаў, што гэта вялікі паэт.**

**А дзяўчыны не былі ўжо тады для Сыса “яго” публікай. Ён сцішыўся на паліцы купэ, і як мне падалося, іранічна паглядаў на мае клопаты…**

Патоп спадаў, і вецер, як пергамент,
сушыў палі і ажыўляў лугі,
птушыны шлях — начных нябёс атрамант —
шукаў бароznаў новыя кругі.

і
Нізка абаранкаў
*быль, якая здарылася са мною*

Павесіў на шыю нізку абаранкаў, бацьку купіў катанкі і пешкам цераз усю Беларусь іду да Айчыны. Пад Ваўкавыскам у пагудастай баравіне сустрэў бабульку, зарослую вехатнікам і вужоўцам, з цяжарнаю ваўчыцай пад лядачым крысом.

—Хто гэта выў? — пытаю палажніцу.

— Мы, — сказала ваўчыца і пяшчотна злізала самасейку-слязу з бабульчынай шчакі.

— Пэўна, галодныя. Калі апошні раз сілкаваліся?

— На пахаванні Вячкавым, — адказала ізноў ваўчыца.

Шкада дрымучую бабульку, шкада цяжарную ваўчыцу, анёж шкада і нізкі абаранкаў, што нясу матулі. Але зняў яе з шыі і паклаў каля жывога чэрава.

— Як назавеш дзіцёнка?

— Імя яму дасць народ наш.

— А дзе ён, народ ваш воўчы?

— Паснуў па бярлогах ды логвах.

— Ну, бывайце! І мне вельмі трэба паспець да сваёй Айчыны.

Ці доўга ішоў, ці мала, але на паўдарозе сустрэў босую падчарку, яна, прытуліўшыся да заблуднай цялушкі, грэла маленькае цельца. Прыйшлося і яе абуць у катанкі, што купіў бацьку.

А вось і Айчына, а каля яе рыпучых весніцаў стуленыя бацька з маці, як тыя два птахі пад кастрычніцкімі зябамі.

— Матуля, нёс я табе на шыі нізку абаранкаў — не данёс. Бацька, нёс я табе цераз плячо катанкі — не данёс. Колькі было веставых крыжоў на шляху, столькі сустрэў пакутнікаў. А вы ж самыя ўсё жыццё мяне вучылі: не абміні гаротніка.

Псальмяр заклікае Госпада на дапамогу ў час смутку. Беларус проста верыць у цыклічнасць – у тое што





з поўначы Рэчыцы да вёскі Холмеч на Лоеўшчыне. Тут здаўна сяліліся людзі чуждыя прыгонніцтву, якія любілі свабоду і самастойнасць – такія сацялрэвалюцыянеры, эсэры па ментальнасці. Паэтка Ларыса Раманава, шматгадовая і апошняя па часе з Анатолевых сяброўак (яе аблічча можна пазнаць на апалагетычным, у антычным стылі, партрэце Сыса работы Алеся Квяткоўскага па правую руку ад паэта), лічыць, што і цяпер мясцовыя заўважна адрозныя ад жыхароў суседніх рэгіёнаў, нават, знешне…



У менскім Доме Літаратара з Анатолем развітваліся 9 мая 2005 года, калі з медыяў традыцыйна лілося “этат дзень мы прыбліжалі как маглі” і мэсыдж горказдзеклiва перагукаўся з тым, што многія з калегаў і знаёмцаў Сыса тады сапраўды лічылі: паэт ужо сказаў ўсё вартае, што сказаць быў здольны і сваім фізычным жыццём хутчэй ганьбіць хоць і нязначны, але ўсё ж

заўважны імідж беларускай літаратуры…

З развітальных надрукаваных словаў асабіста мне найбольш адгукнулася некляеўскае. У “вольным перакладзе” ўласнай памяці яго сэнс такі: “нам падавалася, што мы апякаем і ратуем Сыса, насамрэч жа мы грузілі на яго нашыя праблемы ды комплексы…

Наступным ранкам з Мінска ў Гарошкаў на пахаванне паэта паехалі адно сябры Эдуард Акулін, Алесь Наварыч, Андрэй Федарэнка, Было шмат землякоў – ад Светлагорска да Веткі з Гомелем уключна… Вясновае надвор’е спрыяла…

---

У значнай ступені – гэтая кніга – кампіляцыя. Пра Сыса напісана шмат, падрабязна і многімі. Аўтар успамінамі многіх (у тым ліку, надрукаваных у часопісах “Крыніца” і “Дзеяслоў”), апроч успамінаў уласных, і карыстаўся. Вялікая падзяка гэтым людзям: Уладзімеру Адамчыку, Эдуарду Акуліну, Алесю Аркушу, Уладзімеру Арлову, Алесю Бяляцкаму, Ірыне Вабішэвіч (Заранок), Вінцуку Вячорку, Леаніду Галубовічу, Сяргею Дубаўцу, Ганне Кісліцынай, Алесю Ліпаю, Яўгену Рагіну, Бэле Сасноўскай, Міколу Сцепаненку, Сяргею Сысу, Вітаўту Чаропку, Ніне Шкляравай, Віктару Шніпу, Івану Штэйнеру, Вользе Шынкарэнцы і ўсім неназваным, па магчымай нядбайнасці, тым, хто пабачыць тут сярод аўтарскіх і свае радкі. Анатоль Сыс умеў яднаць людзей. Хай і гэты твор стане прыкладам чалавечага яднання ў вартай справе.

## *Частка I.*СЫС-ЭСЭР

### Дзяцінства і перад ім

Анатоль Сыс – другі сын і пяты дзіцёнак у сям’і Ціхана Цярэнцевіча Сыса і Марыі Іванаўны (у дзявоцтве Гапоненка). Як лічылі ўсёзнаючыя аднавяскоўкі, ён





рагам,

6. дык няхай вораг перасьледуе душу маю і дагоніць, і жыцьцё маё хай удратуе ў зямлю, і славу маю хай аберне ў нішто. <Сэла>

7. Устань, Госпадзе, у гневе Тваім; паўстань супраць шаленства маіх ворагаў, прачніся дзеля мяне на суд, які Ты прызначыў,

8. сьціжма людзей стане навокал Цябе; над ёй падыміся ў вышыні.

9. Гасподзь судзіць народы. Судзі мяне, Госпадзе, паводле праўды маёй, паводле беспахібнасьці маёй.

10. Хай суймецца злосьць бязбожных, а справядлівага ўмацуй, бо Ты выпрабоўваеш сэрца й нутрыну, праведны Божа!

11. Шчыт мой у Богу, Які шчырых сэрцам ратуе.

12. Бог – судзьдзя справядлівы і Бог - кожны дзень спаганяе сурова,

13. калі хто не навяртаецца, Ён вострыць Свой меч, напінае Свой лук і цаляе зь яго;

14. рыхтуе яму прылады сьмерці, і вагністымі робіць стрэлы Свае.

15. Вось напраўду зачаў бязбожны, зацяжарыў крыўдаю і ману сабе спарадзіў,

16. капаў дол і выкапаў яго, і ўпаў у яму, якую выкапаў:

17. абернецца злосць ягоная на ягоную галаву, і зладзейства ягонае на цела ягонае ападзе.

18. Слаўлю Госпада па праўдзе Ягонай і спяваю імю Госпада Ўсявышняга.

Анатоль Сыс. ***
Мой радавод вёў летапіс свой плугам.
І, як радком чырвоным, баразной
мядзяны конь ішоў адвечным кругам
пад Князем-Сонцам, Поўняю-Княжной.
На мокрай грыве крумкачы драмалі
ды прагнулі гарачае крыві,
і ваўкалакі з лесу цікавалі,
каб баразну мядзяны конь скрывіў.

Былі сухмені, і былі залевы,
і стрэхі хат, як прывіды, плылі,
тагды алені, журавы і дрэвы
да астравоў мой радавод вялі.

у смузе, як у сяйве,
сын яму ўлюбёны сніўся.

і ***

Пад бярозаю косці…
Пад бярозаю косці,
а ў кроне гняздо птушка мосціць,
тут вячыста — надзіва — здаецца:
я сам тут ляжу —
на вясковым пагосце
збаўляюцца людзі ад злосці,
ён, як гай запаветны, здзіўляе спакоем душу.

*ПСАЛТЫР: Малітва грэшніка, які каецца*
*Кіроўцу хору. На васьміструнным. Псальма Давідава.*

*2. Ня ў ятры Тваёй выкрывай мяне, Госпадзе, і ня ў гневе Тваім карай мя.*

*3. Умілажалься зь мяне, Госпадзе, бо я нямоглы; дай мне гаеньня, Госпадзе, бо косьці мае растрывожаныя,*

*СЫС: Бацька так і не ссівеў,*
*хоць гадоў было парадкам,*
*у смузе, як у сяйве,*
*на клады пралегла кладка.*

Псальмяр прагне сказаць словы раскаяння ў зробленым нядобрым шматкроць, галасна і публічна. Ці паспявае пакаяцца да смерці беларус – збольшага застаецца таямніцаю нават для ягоных сваякоў.

## ПСАЛЬМА 7

### Малітва ў смутку

Песня-плач, якую Давід спяваў Госпаду ў справе Хуса, з племя Веньямінавага.

2. Госпадзе Божа мой! на Цябе спадзяваньне маё; уратуй мяне ад усіх маіх ганіцеляў, і вызвалі мяне;

3. хай ня вырве ён душы маёй, быццам леў, які турзае, калі збаўцы няма.

4. Госпадзе Божа мой! калі што я зрабіў, калі ёсьць няпраўда ў руках маіх,

5. калі я ліхам плаціў таму, хто быў у згодзе са мною, - а я ж ратаваў і таго, хто бяз прычыны стаўся маім во-





вінен быў нарадзіцца мёртвым, а калі і жывым, то слабенькім і кароткага веку. Народжаная за два гады да Анатоля, яго сястра Людміла пражыла тры месяцы і памёрла на руках у маці і на вачох у самай старэйшай з дзяцей – Тамары. За некалькі тыдняў да мяркуемых народзін Анатоля, яго маці апынулася ў эпіцэнтры пажару, які пыхнуў, верагодна, ад памылкі з палівам: у каністры, дзе чакалася быць газа, аказаўся якасны бензін, які пры запальванні “керасінкі” моцна апаліў гаспадыню хаты, маці шасцёх дзяцей і тая неўзабаве памёрла. Цяжарная Марыя Іванаўна была ў той хаце госцяй і атрымала моцныя апёкі твару, грудзей і рукі; ад большага выратавала куфайка.

*Як святарны абраз людзі вынеслі маці з пажару…* напісаў Анатоль праз дзесяцігоддзі. Прынамсі, яму карцела ў тое верыць, і хацелася, каб у тое паверылі іншыя…

Насуперак прагнозам вясковых “прарочыцаў”, Анатоль нарадзіўся і рос здаровым. Людміла аказалася адзіным сярод “цішак” (так “ахрысцілі” па-бацьку Ціхану землякі ўвесь пайшоўшы ад яго род) нябожам на тры дзесяцігоддзі. Тры дзесяцігоддзі, нягледзячы ні на што, лёс абараняў гэтую сям’ю ад трагедый. Да смерці патрыярха-заснавальніка.

Бацька паэта – Ціхан Сыс – меў праблемы з алкаголем. Залежнасць, якая перадалася па спадчыне Анатолю і ўрэшце паспрыяла заўчаснаму сыходу паэта з жыцця. Але, у адрозненне ад малодшага сына, Ціхан Сыс не дэманстраваў ні патрэбы ні жадання прабівацца ў творчую эліту. Яму хапала надзейна занятага месца ў “эліце” Гарошкава і ваколіц: фізічна моцнага, са стрыжнем, воляй і здольнасцю разумець, чаго хочуць людзі, з яго заліхвацкай манэрай вадзіць матацыкл і з густам апранацца, шафёра Ціхана, тутэйшыя цанілі і паважалі. Напэўна, хтось і любіў. “Блазнавата-хітрую ўсьмешку Цішкі” будзе ўзгадваць будучы сябар Анатоля

Эдуард Акулін, гледзячы на жыццярадасную ўсмешку іншага іх агульнага сябра Алеся Бяляцкага.

Нягледзячы на п’янства, Цішка Першы паражыў за семдзесят гадоў і сканаў напрыканцы 1987-га, зусім крыху не заспеўшы мінскага трыюмфу малодшага сына.

***

Адкуль пайшло прозвішча Сыс?

Вось як тлумачыць яго якуцка-рускі слоўнік:Сыс – 1) бить, колотить *кого-л.*; 2) перен. дробить, раздроблять, разбивать; сымара тааһы үлтү сыс= раздробить каменную глыбу; түннүк тааһын үлтү сыс= разбить стекло; 3) молотить; бурдугу сыс= молотить хлеб; 4) *в сочет. сдеепр. на* =а, =ыы *употр. как служебное слсознач.* чуть, едва; охтосыстымя чуть не упал;барасыста он едва не ушёл.

*Якутско-русский словарь. - М.: Советская Энциклопедия. К.К.Юдахин. 1965.*

Беларускія знаўцы і сам Анатоль, выводзілі прозвішча з іншага: ад сысуноў – ёсць такі біялагічны панятак – самага развітага, па Дарвіну, класа жывёлаў, да якіх Дарвін адносіў і чалавека. Біялогію, людзям якія нарадзіліся ў СССР выкладалі выключна па Дарвіну. Сыс, маўляў, той дзіцёнак, якога доўга не адымалі ад матчыных цыцак, да даволі вялікага ўзросту…

***

Таленавіты і часам вельмі ўважлівы да дэталяў паэт Міхась Скобла – адзін з нямногіх маладзейшых за Анатоля калегаў, да думкі якога Сыс ставіўся амаль з нязменнай павагай – вынайшаў у радавой хаце “цішак” на пабеленай печы барэльеф сэрца. Барэльеф той з ранняга дзяцінства ня мог ня бачыць Анатоль. Побач ён гадаваўся, побач з ім прайшлі яго першыя гады. Сэрца, якое сустракала паэта, калі ён расплюшчваў вочы пасля сну і на якое ён пазіраў перад тым як пакласціся





Кіроўцу хору. На васьміструнным. Псальма Давідава.

2. Ня ў ятры Тваёй выкрывай мяне, Госпадзе, і ня ў гневе Тваім карай мя.

3. Умілажалься зь мяне, Госпадзе, бо я нямоглы; дай мне гаеньня, Госпадзе, бо косьці мае растрывожаныя,

4. і душа мая моцна ўстрывожаная; - а Ты, Госпадзе, дакуль?

5. Павярніся, Госпадзе, душу маю выратуй, уратуй мяне дзеля ласкі Тваёй,

6. бо ў смерці няма пра Цябе памятаньня: у магіле хто Цябе славіць будзе?

7. Стаміўся я ад зітханьняў маіх: кожнае ночы я ложак свой абмываю, сьлязьмі маімі пасьцель акрапляю маю.

8. Высахла ад маркоты вока маё, пастарэла яно праз маіх ворагаў.

9. Адступецеся ад мяне, усе ліхадзеі, бо пачуў Гасподзь голас плачу майго,

10. пачуў Гасподзь маленьне маё; Гасподзь прыме малітву маю,

11. хай усе мае ворагі пасаромлены і моцна настрашыны будуць; хай вернуцца – і пасаромеюцца імгненна.

Анатоль Сыс. ***
Бацька так і не ссівеў,
хоць гадоў было парадкам,
у смузе, як у сяйве,
на клады пралегла кладка.

Кладка, хісткая яна,
толькі целу ўжо не мулка,
калдыбалася труна
на плячох сыноў і ўнукаў.

Быццам пчолаў яго мёд,
быццам жвір яго магілы —
рушыў русы радавод —
за труной ішоў пахіла.
Бацька так і не ссівеў,
бацька так і не нажыўся,

***сказаць яму яшчэ учора.***

**Псальмяр асацыюе беззаконнікаў і ліхадзеяў з чужымі, беларус разумее сваю немач у любові да жывых, гэта вельмі блізка да гатоўнасці да пакаяння. Але штось усё ж перашкаджае пакаяцца перад жывымі – можа недавер, можа страх перад імі, а можа і тое і тое пры іх жыцці…**

**ПСАЛТЫР: 8. А я, зь вялікай ласкі Тваёй, увайду ў харомы Твае, пакланюся храму сьвятому твайму богабаязна.**
**9. Госпадзе! вядзі мяне па дарозе ў праўдзе Тваёй, на супастатаў маіх; спраступй перада мною дарогу Тваю.**
**10. Бо ў іх вуснах праўды няма: сэрца іхняе - згубнасьць, горла іхняе – дамавіна адчыненая, лісьлівяць яны языком сваім.**
**11. Асудзі іх, Божа! Няхай прападуць ад намыслаў сваіх; за ліхадзействы вялікія адкінь іх, бо яны ўзбунтаваліся на Цябе.**
**12. А ўсе, хто на Ця спадзяецца, будуць радавацца вечна; і Ты будзеш іх асланяць; і будуць хваліцца Табою тыя, хто любіць імя Тваё.**
**13. Дабраслаўляеш Ты, Госпадзе, праведніка; упадабаннем, нібы шчытом, ахінаеш яго.**
***СЫС: Жыве старэнькая бабулька каля самых***
***могілак. Яна іх называе не інакш як***
***раем і ўсё часцей і часцей думае***
***пра яго. «Чаму?» — неяк запытаўся ў***
***яе. «Таму што ў пекле ўжо нажылася».***

**Псальмяр адчувае сябе ў пастаяннай апазіцыі з ворагамі і звяртаецца па дапамогу да Бога тут і цяпер. Беларус прымірыўся з немагчымасцю перамогі ў гэтым жыцці і разлічвае на супакой ад ворагаў у жыцці па фізычным сконе. І на супакой побач з магіламі тых сваіх, што ўжо сканалі.**

## ПСАЛЬМА 6

**Малітва грэшніка, які каецца**





**ў ложак… Скобла выказаў думку, што можа менавіта пад уплывам тога вобраза-барэльефа ў вершах Сыса слова СЭРЦА будзе сустракацца часцей за абсалютную большасць словаў, ну можа апроч МАЦІ, СЛЁЗЫ і КРОЎ.**

**Спасцігаючы пабачанае Міхасём, прыкладаючы да свайго вопыту, мушу пагадзіцца. У мяне над дзіцячым ложкам вісеў традыцыйны для тога часу дыванок з канямі, барадатымі вершнікамі і белацелай князёўнай на тле начнога паўднёвага пейзажу. І ў маёй душы, жыцці, ды і творчасці пасля той сюжэт і тыя персанажы вельмі нават адлюстраваліся. А вось сэрца на дыванку не было…**

**Адзін з ранніх дзіцячых успамінаў Анатоля – як бацька разжоўвае яечню, а пасля дае яму, малому. На стале стаіць бутэлька самагонкі…**

***А я помню, як мяне хрысцілі…***

***як папа ў госці запрасілі,***

***пілі-елі, потым елі-пілі…***

***хроснага і хросную спаілі,***

***адхадную бацюшку налілі,***

***пад дубовай лавай крыж згубілі,***

***ні мяне, ні крыжа не знайшлі***

***і шукаць у белы свет пайшлі…***

***а я ў роднай хаце ціха долі***

***з крыжам, быццам з цацкаю, гуляў.***

**Анатоль, да войска устрымваўся ад алкаголю (сам казаў – да 26 гадоў – да пераезду ў Мінск). У Гарошкаве паэт бачыў, што алкаголь хутчэй перашкаджае чым дапамагае шчасцю жыцця, далейшая вучоба ў Гомелі, войска, ды работа ў Веткаўскай раёнцы толькі пацвярджалі тое. У Мінску ўжыванне алкаголю стала**

**важным для стасункаў з пэўнымі людзьмі, далей – проста прывычным і ўрэшце перайшло ў залежнасць.**

**Ад сям'і Анатолю дасталася вельмі вартая рыса: для радасці і шчасця "цішкам" дастаткова было мінімальнага камфорту, яны не сталі разбэшчанымі ў побытавым сэнсе. У жыцці і творчасці паэта гэтая акалічнасць потым адбілася амаль напоўніцу станоўча, дапамагла паразумецца і пасябраваць з безліччу людзей, ды і не ахвяраваць адказнасцю перад паэзіяй дзеля ўласнага дабрабыту.**

**Першыя школьныя гады Анатоль вучыўся ў Гарошкаўскай школе. З беларускай мовай навучання. Пад гэты жа час – у 9 гадоў, са словаў самога паэта – ён напісаў свой першы верш на роднай мове.**

**У некалькіх сотнях метраў ад хаты "цішак", праз дарогу – гарбыль Гарошкаўскага гарадзішча – помніка культуры бронзавага веку – Зарубінецкай і Мілаградскай культураў. На тым гарадзішчы мясцовая дзятва ладзіла гульні, паліла вогнішчы, шукала прыгодаў. Ціхан з Марыяй шчэ ў 50-я гады дапамагалі там на раскопах археолагу прафесару Мельнікоўскай. Дзесяцігоддзем пасля ўжо і сам Анатоль знаходзіў там чарапкі, маністы, наканечнікі стрэлаў і адносіў у мясцовы краязнаўчы музэй. Знаёмцам пазней, часам, хваліўся, што на гарадзішчы неяк знайшоў свой самы галоўны археалагічны артэфакт – маленькага глінянага кяня з дагістарычнай даўніны (іншым знаёмцам, ці больш шчыра, ці наадварот, даводзіў, што тога глінянага каня знайшла маці, а мо і хто іншы, але на іх "цішкавым" гародзе, а пасля ад знаходкі пайшоў герб "Пагоня"). У 2002-м фотка каня, які быў ці то з гарадзішча ці то з гарода, але гарошкаўскі, разам з партрэтамі самога паэта ўпрыгожыла вокладку зборніка "Сыс".**

**У 1971-м Гарошкаўскую школу зачынілі. Давялося працягваць вучобу за некалькі км ад хаты ў вёсцы Броннае. Тамтэйшая школа была рускамоўнай. Цяпер**





**стэрылізацыі ад дрэваў і агароджаў. Тут значна больш прасторы, тут прыемна замест клопату надзённага дня аддавацца светлым успамінам. Тут на магілах пакідаюць пачастункі, якіх хапае і жывым і памёрлым. Ну чым не рай для птушак?! Чым не радасць для беларусаў-паэтаў?!**

***ПСАЛТЫР: 3. Дай увагі енку скаргі маёй, Цару мой і мой Божа! Я малюся Табе.***
***СЫС: а ў душах маіх спрахлых дзядоў. Яны ж,***
***як сведчыць тутэйшы народ, былі***
***самымі жыццярадаснымі і жартаўлівымі***
***людзьмі на Палессі.***

**Псальмяр звяртаецца да Бога з енкамі, скаргамі і просьбамі. Беларус звяртаецца да душаў продкаў; што яднае яго, да прыкладу, з кітайцамі.**

***ПСАЛТЫР: 4. Госпадзе! раніцай голас пачуй мой, - раніцай стану прад Табою і буду чакаць.***
***СЫС: І бярозы тут самыя белыя...***
***Такія белыя, што ўначы здаюцца***
***прывідамі. Дзяды і нават божышчы***
***маіх дзядоў, як тварамі, так і думамі,***
***былі такімі ж светлымі***

**Псальмяр, адпаведна Закону, захоўвае пэўную рытміку ў маленнях, чакае раніцы дзеля пэўных просьбаў. Беларус можа звярнуцца па дапамогу да продкаў калі заўгодна – нават у начы, бо верыць у веліч і чысціню памерлых. На жаль, у перашкоду да аберагання жывых.**

***ПСАЛТЫР: 5. Бо Ты, Божа, беззаконьняў ня любіш; ліхадзей пры Табе не аселіцца;***
***6. бязбожнікі прад вачыма Тваімі ня выстаяць: Ты ненавідзіш усіх ліхадзеяў.***
***7. Ты загубіш усіх ашуканцаў; крыважэрцамі і падступнымі Гасподзь пагарджае***
***СЫС: І толькі жвір на вясковых могілках***
***калючы і цяжкі, калі прыходзіцца кідаць***
***свае тры жмені наўслед нябожчыку, як***
***самыя важныя словы, якія не паспеў***

**13. Дабраслаўляеш Ты, Госпадзе, праведніка; упадабаннем, нібы шчытом, ахінаеш яго.**

**Анатоль Сыс. РАЙ**
**Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі –**
**на вясковых могілках. Напэўна, таму,**
**што і днююць і начуюць не ў гнёздах**
**а ў душах маіх спрахлых дзядоў. Яны ж,**
**як сведчыць тутэйшы народ, былі**
**самымі жыццярадаснымі і жартаўлівымі**
**людзьмі на Палессі.**

**І бярозы тут самыя белыя...**
**Такія белыя, што ўначы здаюцца**
**прывідамі. Дзяды і нават божышчы**
**маіх дзядоў, як тварамі, так і думамі,**
**былі такімі ж светлымі.**
**І толькі жвір на вясковых могілках**
**калючы і цяжкі, калі прыходзіцца кідаць**
**свае тры жмені наўслед нябожчыку, як**
**самыя важныя словы, якія не паспеў**
**сказаць яму яшчэ учора.**

**Жыве старэнькая бабулька каля самых**
**могілак. Яна іх называе не інакш як**
**раем і ўсё часцей і часцей думае**
**пра яго. «Чаму?» — неяк запытаўся ў**
**яе. «Таму што ў пекле ўжо нажылася».**

**У адрозненне ад большасці эўрапейскіх народаў, свет памёрлых – беларусаў не страшыць. Наадварот – сканалыя продкі прадстаўляюць жыццё бліжэйшае да раю – і часова і стылёва. Могілкі – месца яднання сем'яў, многія з якіх і збіраюцца разам хіба што ў памінальныя дні.**

***ПСАЛТЫР: Ранішняя малітва Давідава***
***Кіроўцу хору. На духавых. Псальма Давідава.***
***2. Пачуй, Госпадзе, словы мае, зразумей мае помыслы.***
***СЫС: РАЙ***
***Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі –***
***на вясковых могілках. Напэўна, таму,***
***што і днююць і начуюць не ў гнёздах***

**Вясковыя беларускія могілкі ў Беларусі, у адрозненне ад гарадскіх, шчэ непадуладны ўніфікацыі ды**





**там ладны двухпавярховы будынак. Школа мае свой музэй, дзе ёсць экспанаты, прысвечаныя Анатолю Сысу.**

**У Броннае і стуль Толік дабіраўся збольшага пешкам. Часам траплялася папутная фурманка ці падвозіў бацька-шафёр.**

**У школьныя гады, апроч раскопак гарадзішча, будучы паэт захапляўся літаратурай ды гісторыяй.**

**У 1974 годзе дэбютныя творы Сыса надрукавала рэчыцкая раёнка «Дняпровец».**

## Спроба сцэнічнай адукацыі

**Па сканчэнні дзесяцігодкі Анатоль паспрабаваў паступіць у Мінск, на акторскае аддзяленне тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў), каб у далейшым апынуцца на сцэне Купалаўскага тэатра. Кірунак, адзначым, адпавядаў і яго здольнасцям і яго складу душы. Але не адпавядаў поглядам прыёмнеай камісіі інстытута…**

**Стань ён мінскім студэнтам-тэатралам – верагодна яго лёс склаўся б па іншаму. Тэатральная супольнасць – досыць замкнёная. Рэалізацыя на сцэне ў сваёй прафесіі часцяком робіцца прафілактыкай ад іншых публічных праяваў чалавека ў грамадстве… Хаця… Менавіта ў тыя часы, калі Анатоль скончыў школу, уваходзіў у вялікую палітыку досыць зрэалізаваны як актор, будучы найвялікшы прэзыдэнт Злучаных Штатаў Амерыкі канца XX стагоддзя Рональд Рэйган.**

## Сыс і ўнівер

**У 1977-м Анатоль паступіў на беларуска-рускае аддзяленне гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага ўніверсітэта (цяпер імя Ф.Скарыны).**

Ці не ад пачатку вучобы і да скону ён зваў той універ універмагам, а пра навучанне там узгадваў, як пра штосьці важнае для факта ў біяграфіі, але нявартаснае змястоўна.

Тым не менш, менавіта газэта гомельскага універа змясціла на сваіх старонках унікальны прыклад мастацкай прозы Анатоля Сыса (апавяданне “Вяселле” – “Гомельскі ўніверсітэт” ад 18 сакавіка 1978-га). Больш тэкстаў яго мастацкай прозы (пры тым, што пра жаданне яе пісаць паэт казаў шматразова) нам невядома. Пакуль? (У адным з лістоў з войска Анатоль узгадвае, што *“ва ўніверсітэце быў пачаў пісаць аповесць, ды кінуў – адчуваю рана”*).

Газэта “Гомельскі ўніверсітэт” і пасля друкавала Сыса. Паэзію. Сам паэт адлічваў час, з якога паэзія яму *“перашкаджае жыць, як усе людзі”* з 1977-га. Можам паспрабаваць удакладніць: АД НЕПАСТУПЛЕННЯ Ў ТЭАТРАЛЬНЫ. Паэт Анатоль Сыс нарадзіўся тады, калі быў “забіты” перспектыўны прафесійны актор Анатоль Сыс.

Жыў Сыс тады ў абшчазе на гомельскай вуліцы Кірава. Па ўспамінах пэўных студэнтак, часам бараніў іх ад занахабных кавалераў (па ўзгадках жа Алеся Бяляцкага, з жанчынамі быў жорсткі). Бывала, некалькі дзён запар хадзіў і штось бубнеў сабе пад нос, пакуль не даходзіў да нейкага выніку ў фразе, які яго задавальняў. Выў па-ваўчынаму, што асабліва эфектна гучала на лесвічных пралётах з іх акустыкай. Любіў граць цэнтральную і заўважную ролю “свата” на гульнёвых студэнцкіх “вяселлях”, якія, традыцыйна не суправаджаліся аніякімі юрыдычнымі абавязкамі, а проста рабіліся нагодаю для адносна бессаромнай рэалізацыі кахання…

Каб выглядаць адметна ў новым для сябе асяродку, Сыс пэўны час наведваў пэўныя лекцыі ў “куфайцы”. Сапраўды, гэта стала адметным, але эфект падаўся





*Вось поле б змагці наўпрост*
*да пчол у глухіх калодах.*
*Там пахне не кнотам воск,*
*а мёдам.*

Псальмяр абапіраецца на ўласную веру ў Бога і верыць у сваю бяспеку з ім. Беларус абапіраецца на вопыт продкаў; лад ягонай веры ў многім ускосны (вось бы, калі б…), жыццё часцяком – уцёкі (у працу, у рыбалку, у бадзянні, у гульні, у п’янкі…)

## ПСАЛЬМА 5

### Ранішняя малітва Давідава

Кіроўцу хору. На духавых. Псальма Давідава.

2. Пачуй, Госпадзе, словы мае, зразумей мае помыслы.

3. Дай увагі енку скаргі маёй, Цару мой і мой Божа! Я малюся Табе.

4. Госпадзе! раніцай голас пачуй мой, - раніцай стану прад Табою і буду чакаць.

5. Бо Ты, Божа, беззаконьняў ня любіш; ліхадзей пры Табе не аселіцца;

6. бязбожнікі прад вачыма Тваімі ня выстаяць: Ты ненавідзіш усіх ліхадзеяў.

7. Ты загубіш усіх ашуканцаў; крыважэрцамі і падступнымі Гасподзь пагарджае.

8. А я, зь вялікай ласкі Тваёй, увайду ў харомы Твае, пакланюся храму сьвятому твайму богабаязна.

9. Госпадзе! вядзі мяне па дарозе ў праўдзе Тваёй, на супастатаў маіх; спрастуй перада мною дарогу Тваю.

10. Бо ў іх вуснах праўды няма: сэрца іхняе - згубнасьць, горла іхняе – дамавіна адчыненая, лісьліваць яны языком сваім.

11. Асудзі іх, Божа! Няхай прападуць ад намыслаў сваіх; за ліхадзействы вялікія адкінь іх, бо яны ўзбунтаваліся на Цябе.

12. А ўсе, хто на Ця спадзяецца, будуць радавацца вечна; і Ты будзеш іх асланяць; і будуць хваліцца Табою тыя, хто любіць імя Тваё.

**далучаныя, але ўсё адно яны больш і абраныя і заслужаныя.**

***ПСАЛТЫР: 5. У гневе грахоў не рабеце: на ложках сваіх развакайце ў сэрцах сваіх, і суцешыцеся! <Сэла>***

***СЫС: Масніцы на сто сукоў***
***скрыпяць пад яго нагамі,***
***кашара на трох быкоў —***
***бярыце, ваўкі, быкамі,***

***пакіньце яго сляды —***
***чаўны пагудастых кроснаў.***
***Кажух, як алень руды,***
***маячыць у шчыльных соснах.***

***За лесам па пояс снег,***
***за лесам поле памерла.***

**Псальмяр павучае сыноў людзей. Беларус павучае жывёлаў; альбо тых каго лічыць роўнымі з жывёламі. Псальмяр раіць сваім павучаемым супакоіцца на ложках сваіх. Для беларуса ложак – гэта і поле і лес і снег…**

***ПСАЛТЫР: 6. Ахвяры праўды прыносьце і майце надзею на Бога.***
***7. Многія кажуць: «Хто нам пакажа дабро?» Пакажы нам, Госпадзе, сьвятло аблічча Твайго!***
***8. Ты напоўніў радасцю сэрца маё з той пары, як пабалела ў іх хлеба й віна.***
***9. Я спакойна кладуся і сплю, бо Ты, Госпадзе, адзін даеш мне жыць у бяспецы.***

***СЫС: Ваўчыцы галоднай смех***
***у гурбах захрас па горла.***

***А ён,як у сенакос***
***свой клін адбрыдаў калісьці,***
***над снегам нагу занёс,***
***над полем наспех памаліўся.***

***Дарога у белы свет —***
***уцёкі ад шэрай ваўчыцы,***
***што носам у цёплы след,***
***бы лапамі ў куст чарніцы.***





**паэту невялічкім.**

***Расейцаў можаш не любіць, а можаш быць у іх за блазана*** **– напіша Анатоль праз шмат гадоў. Ён не жадаў быць блазанам для расейцаў. Але яму карцела пагуляць у блазана для беларусаў. Блюзнерства збівала з супольнасці напругу, пыху, закамплексаванасць, сарамлівасць… шмат чаго збівала і выконвала такую рытуальна-яднаючую ролю. Анатолевы жарты, часам банальныя, кшталту замыкання дзяўчатаў у пакоі і палоханні іх там да дрыжыкаў, часам кашчунныя, кшталту пахавання Старога года 13 студзеня, у вечар калядавання, з адключэннем святла і бадзяннем па калідорах са свечкай, кадзілам і, быццам бы, нябожчыкам у прасціне, бывала, што мала каго і ядналі, але матывацыя ў яго, апроч падурэць, была і пасумовіцца.**

**Хлопцаў, якія прагнулі быць у цэнтры ўвагі ды муціць прыкольныя рэчы ў абшчазе хапала. Але ў Анатоля меўся шчэ адзін, бадай, непераможны козыр – ён класна выконваў свае вершы, і вершы тыя былі сапраўднымі.**

**У 79-м на беларускае аддзяленне Гомельскага філфаку прыйшлі таленавітыя энергічныя хлопцы:з іх сёння шырока вядомыя ў свядомых нацыянальных колах праваабаронца і літаратуразнаўца Алесь Бяляцкі, паэт Эдуард Акулін, зямляк Анатоля з суседняй Заспы і складальнік яго бібліяграфіі літаратар Сяргей Сыс. На год пазней туды ж паступіў будучы пісьменнік Анатоль Казлоў.**

**Тыя, хто завітваў на паседжанні літаб’яднання “Крыніца” (ці “Крынічка”, наведвальнікі ўзгадваюць абодва варыянты), якое вёў выкладчык кафедры беларускай літаратуры сябра паэта Алеся Разанава таксама паэт Віктар Ярац (абодва студэнтамі былі выключаны ў 1969 годзе з БДУ з ярлыкамі “нацыяналістаў”, фактычна, за ініцыятыву дасылання**

ліста ў ЦК кампартыі Беларусі з патрабаваннем вяртання правядзення заняткаў на беларускай мове), бачылі там іншага Анатоля Сыса, чым у студэнцкай абшчазе – сур’ёзнага, чулага і глыбокага. На літаб’яднанні ён ня толькі чытаў свае вершы, ён дабразычліва і ўважліва ставіўся да вершаў іншых – незалежна ад іх узроўню і мовы, на якой яны пісаліся. Там было бачна – у паэзіі Сыс дбайна прагне стаць прафесіяналам.

Літаб’яднанне, апроч Анатоля Сыса, на той час наведвала розная пішучая моладзь: рускамоўныя Ірына Грабянюк, Сяргей Сцешац, беларускамоўныя Сяргей Сыс, Бяляцкі, Акулін, з 1980-га – дадаліся Казлоў, Вольга Куртаніч…

Па ўспамінах Бяляцкага, менавіта з запрашэння на “Крынічку” і пачалося іх з Едрусем Акуліным знаёмства з Анатолем Сысам у 1979-м:

*…на пачатку першага курсу. На перапынку да нас зайшоў нейкі сьветлы хлапец у сінім летніку і, гледзячы трохі вырачынымі вачыма, здаецца некуды па-за нас, павольна гэтак, акцэнтуючы кожнае слова, аб’явіў аб тым, што… некалі там… адбудзецца “Крынічка”, і што ўсе паэты запрашаюцца на яе… такі заклік мяне трохі пакрыўдзіў… Сядзелі мы побач з Едрусем, хлопец той нам падаўся сьмешным, але на “Крынічку” мы вырашылі пайсьці, тым больш, што туды ж запрашаў нас і Ярац.*







*ПСАЛТЫР: 2. Калі клічу я, - пачуй мяне, Божа праўды маёй! Ты даваў мне прастору ў цясноцьці. Умілажалься зь мя і пачуй малітву маю.*

*СЫС: Ён свае ногі дажыў,*
*сляды, як сліну ваўчыцы,*
*скаўталі снягі, лаўжы –*
*маўчыце пра гэта, ваўчыцы.*

Псальмяр дзякуе Богу за дараванне прасторы ў цеснаце. Беларус канстатуе чалавечую абмежаванасць, асабліва – з узростам.

*ПСАЛТЫР: 3. Сынове людзкія! дакуль ганьбавацьмецца слава мая? Дакуль марнасьць любіць будзеце, дакуль няпраўды шукацьмеце? <Сэла>*

*СЫС: Маўчыце, як пахне ён,*
*не рушце зубамі полы –*
*матуля трапала лён,*
*каб справіць чугай да Міколы.*

Псальмяр лічыць, што мае права крытыкаваць і выкрываць людзей, што мае права даводзіць да іх тое, што, быццам – ад Бога. Беларус звяртае свае загады да нелюдзяў, для яго натуральна кіраваць жывёльным светам, але і тут ягоныя загады мяжуюць з просьбамі, камандуючы, ён і жывёлам прагне патлумачыць матывацыю.

*ПСАЛТЫР: 4. Ведайце, што сьвятога Свайго Гасподзь Сабе вылучыў, чуе Гасподзь, калі я клічу Яго.*

*СЫС: Забудзьце, як пахне ён,*
*карстагі – яшчэ карыты,*
*прысніце, ваўчыцы, сон,*
*што вы на зіму ўсю сыты.*

*Не слухайце поўсцю лес,*
*ён вам цераз поле не чутны,*
*ён толькі што з крушвіцы злез,*
*такі барадаты і цудны.*

Псальмяр адчувае сваю абранасць, сваю далучанасць да Мэсыі. Для беларуса – далучаныя да святасці ўласныя продкі, у дадзеным выпадку – дзед; а можа і не

ён вам цераз поле не чутны,
ён толькі што з крушвіцы злез,
такі барадаты і цудны.

Масніцы на сто сукоў
скрыпяць пад яго нагамі,
кашара на трох быкоў —
бярыце, ваўкі, быкамі,

пакіньце яго сляды —
чаўны пагудастых кроснаў.
Кажух, як алень руды,
маячыць у шчыльных соснах.

За лесам па пояс снег,
за лесам поле памерла.
Ваўчыцы галоднай смех
у гурбах захрас па горла.

А ён,як у сенакос
свой клін адбрыдаў калісьці,
над снегам нагу занёс,
над полем наспех памаліўся.
Дарога у белы свет —
уцёкі ад шэрай ваўчыцы,
што носам у цёплы след,
бы лапамі ў куст чарніцы.

Вось поле б змагці наўпрост
да пчол у глухіх калодах.
Там пахне не кнотам воск,
а мёдам.

*ПСАЛТЫР: Вечаровая малітва Давідава*
*Кіроўцу хору. На струнных інструмэнтах. Псальма Давідава.*

*СЫС: ДЗЕД ПЕРАД СМЕРЦЮ*
*Ён сваe ногі дажыў…*
Са слоў майго бацькі
Вечар і стан перад смерцю вобразна падобныя.



Анатоль Сыс—псяльмар дэфармаванай Беларусі ● *А. Мельнікаў*

*На першым курсе, а Анатоль быў тады на трэцім, у нас былі толькі асобныя сустрэчы… звычайна на “Крынічцы”. Памятаю, ці не на першым пасяджэньні абмяркоўвалі яго вершы, і тады… вершы падаліся мне нейкімі дзіўнымі, хваравітымі, ці што… ішоў пошук на ўзроўні свайго развіцьця, пачварна няроўнага, дзе некаторыя эстэтычныя крытэрыі былі ссунутыя… гэта добра, але недасканала, хаця лепш, чым у каго.*

*…уражвала агромністая праца, зробленая ім. Ён першы даваў нам прыклад адказных адносінаў да літаратуры, паказваючы, што пісаньне, гэта ў першую чаргу праца.*

Пэўнае супрацьстаянне беларускамоўных з рускамоўнымі было, але сыходзіла яно не ад Анатоля, хоць ён і быў беларускамоўным паэтам. У жыцці Сыс доўгі час размаўляў на “трасянцы”, а рускай паэзіяй і цікавіўся і чамусь стуль вучыўся.

Гомель сярэдзіны-канца 70-х меў у сваіх нетрах супольнасць цікавых рускамоўных паэтаў, падобную маскоўскай, якую апісаў у сваёй апошняй кнізе “Таинственная страсть” Васілій Аксёнаў. Супольнасць, у адрозненне ад “Крынічкі” была нефармальнай і неафіцыйнай, але 28 лістапада 1976-га ёй удалося правесці вялікі паэтычны вечар на сцэне Гомельскага ўнівера. Акампанаваў на піяніна будучы буйны гомельскі бард Аляксандр Валошын (загіне ў Крыме напачатку 90-х), чытаў вершы Віктар Пеўзнер (аўтар, бадай, лепшага перакладу на рускую мову славутага апошняга чатырохрадкоўя Максіма Багдановіча. У Пеўзнера яно такое:

Здесь – в белом доме у синей бухты,

Где умираю, где жить – полмига,

Я не печален, со мною книга

Печатни пана Мартина Кухты

**Пеўзнер, як і Багдановіч, сканаў нястарым, ад хваробы сэрца. Чыталі вершы Валеры Окунь, Генадзь Лапацін. Вершы Бэлы Сасноўскай чытала сяброўка, а Бэла проста прысутнічала.**

**Анатоль сябраваў з Бэлай і Віктарам. Нярэдка завітваў да Бэлы ў яе дамок у бандыцкі тады гомельскі раён Забег і яны разам ішлі да Пеўзнера на Рагачоўскую. У Бэлы ж і тады і пасля, то ў дамку, то ў яе садзе ля дома, збіарлася тая паэтычная супольнасць, падобная да маскоўскай.**

**Найбольшае ўражанне паэзія Анатоля аказвала на студэнтак: маладыя дзяўчаты закохваліся ў Сыса і жадалі блізкасці з ім. А ён успрымаў такія прыгоды проста як другасныя эпізоды жыцця. Сведчыў у лісце да сябра з войску: *"я раўнадушны да жаночай паловы. Так, бывала на ноч…"***

**Ды… Ня ўсё так адназначна. У іншым лісце з войску Анатоль піша: *"дзяўчат тут не хапае. Здаецца, адзін бы дотык самай непрыгожайдзяўчыны нашага факультэту спаліў бы мяне. Хаця многа энергіі спатрэбілася б – я ўжо важу амаль 90 кг".***

**Выкладчыкі не асабліва прыдзіраліся да адметнага фацата з філфаку, па вялікім рахунку, не з-за яго паэтычнага дара. Галоўнай прычынай, верагодна, было тое, што, хлопцаў на падобных факультэтах мала і іх неяк аберагаюць, намагаюцца давесці да пасьпяховых вынікаў.**

**Кафедрай беларускай літаратуры пад час першых трох курсаў навучання Анатоля ў Гомельскім ўніверы кіраваў прафесар Мікола Грынчык (у далейшым ён пераехаў у Мінск) – паляшук- заходнік (з пад Івацэвічаў), інвалід вайны, дбайны прапагандыст беларушчыны. Яго і дасюль памятаюць у Гомельскай "Скарыне". Намаганнямі Грынчыка і па яго запрашэнні Гомель наведвалі значныя беларускія пісьменнікі, ён "узяў пад**



Анатоль Сыс—псяльмар дэфармаванай Беларусі ● *А. Мельнікаў*

## ПСАЛЬМА 4

**Вечаровая малітва Давідава**

**Кіроўцу хору. На струнных інструмэнтах. Псальма Давідава.**
**2. Калі клічу я, - пачуй мяне, Божа праўды маёй! Ты даваў мне прастору ў цясноцьці. Умілажалься зь мяне і пачуй малітву маю.**
**3. Сынове людзкія! дакуль ганьбавацьмецца слава мая? Дакуль марнасьць любіць будзеце, дакуль няпраўды шукацьмеце? <Сэла>**
**4. Ведайце, што сьвятога Свайго Гасподзь Сабе вылучыў, чуе Гасподзь, калі я клічу Яго.**
**5. У гневе грахоў не рабеце: на ложках сваіх развважайце ў сэрцах сваіх, і суцешыцеся! <Сэла>**
**6. Ахвяры праўды прыносьце і майце надзею на Бога.**
**7. Многія кажуць: «Хто нам пакажа дабро?» Пакажы нам, Госпадзе, сьвятло аблічча Твайго!**
**8. Ты напоўніў радасцю сэрца маё з той пары, як паболела ў іх хлеба й віна.**
**9. Я спакойна кладуся і сплю, бо Ты, Госпадзе, адзін даеш мне жыць у бяспецы.**

**Анатоль Сыс. ДЗЕД ПЕРАД СМЕРЦЮ**

***Ён свае ногі дажыў…***
***Са слоў майго бацькі***

**Ён свае ногі дажыў,**
**сляды, як сліну ваўчыцы,**
**скаўталі снягі, лаўжы –**
**маўчыце пра гэта, ваўчыцы.**

**Маўчыце, як пахне ён,**
**не рушце зубамі полы –**
**матуля трапала лён,**
**каб справіць чугай да Міколы.**

**Забудзьце, як пахне ён,**
**карстагі – яшчэ карыты,**
**прысніце, ваўчыцы, сон,**
**што вы на зіму ўсю сыты.**
**Не слухайце поўсцю лес,**

*Я гэта адчуваў,*

**Жыццё псальмяра абароненае Госпадам, з гэтым ён кладзецца і ўстае. Жыццё беларускага паэта абараняе маці і яе пакуты. Ці пакуты іншае жынчыны. А пакуты жанчынам, у беларускім уяўленні ідуць, канешне ж ад Вечнага.**

***ПСАЛТЫР: 7. І не збаюся я процьмы людзей, што адусюль аблажылі мя.***
***СЫС: а ўразумець***
***яшчэ ня мог – дзіцём шчапаў лучыну,***
***каб хворую матулю адагрэць***

**Што дапамагае беларусу не збаяцца? Неразуменне небяспекі, работа і клопат пра маці. А можа і работа для ды клопат пра іншых блізкіх людзей. Лепшыя рысы беларускага характару часцяком менавіта так і праяўляюцца: выкананнне абавязкаў і клопат пра тых, каго апякуеш да канца, да ўласнага скону, нягледзячы ні на якое мноства паперэджанняў і шанцаў на самотнае выратаванне.**

***ПСАЛТЫР: 8. Паўстань, Госпадзе! ацалі мяне, Божа мой! бо Ты б'еш маіх ворагаў па шчацэ, зубы грэшнікам крышыш.***
***СЫС: і разам з ёй да позняе гадзіны***
***мы слухалі трывожна крыгалом,***

**Псальмяр кліча Госпада на дапамогу і ў небяспецы ад людзей і ў хваробе. Традыцыйны беларус спадзяецца на тое што любыя небяспекі можна перачакаць, а дапамога можа прыйсці хіба што ад блізкіх сваякоў.**

***ПСАЛТЫР: 9. Ратунак у Госпадзе. Над народам Тваім дабраслаўленьне Тваё.***
***СЫС: не ведаў я, што грэў тады Радзіму***
***і не падманным, а жывым агнём.***

**Псальмяр верыць, што і ўласны ратунакі ратунак народа – у Госпадзе і Яго Багаславеннях. Беларус разлічвае на свае моц і цяпло і ў справе ўласнага ратавання і ў справе ратавання Радзімы.**





**крыло" і надзейна працаўладкаваў на сваёй кафедры "нацыяналіста" Яраца, яму студэнт Анатоль Сыс (тады гарачы прыхільнік "трасянкі") прапаноўваў узбагачаць беларускую мову палескімі ды віцебскімі гаворкамі… І праз шмат гадоў, і тады калі Грынчыка ўжо ня будзе ў свеце жывых, Анатоль стане перадаваць ужо цяперашняму кіраўніку кафедры прафесару Штэйнеру "прывітаньне ад Грынчыка". Ускосна, гэта можа сведчыць пра моцны адбітак, які пакінула ў памяці паэта магутная асоба. Але які канкрэтна – пытанне, імаверна, для навукоўцаў.**

**Курсавую работу 1980-га года Анатоль пісаў па творчасці Някляева, Пашкова і Разанава – ён лічыў іх тады самымі перспектыўнымі з маладых паэтаў. Някляеў у 80-м і сам наведаў Гомель – ёсць здымак-сведчанне, дзе ён там у атачэнні "тройцы": Сыса, Бяляцкага, Акуліна.**

**Тым жа летам "тройца" апынулася ў будатрадзе "Пунсовыя ветразі" ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна (цяпер там адселеная пасля Чарнобыля зона). Пра Сыса там – ізноў звярнемся да ўспамінаў Бяляцкага:**

***…ужо тады яго Асоба мела прыцягальную сілу. Людзей проста цягнула да гэтага чалавека. Абсалютна спакойны, дабразычлівы, аматар хохмаў і кпінаў, ён любіў тых, што любілі яго…***

***Там, у будатрадзе, мы і пазнаёміліся па-сапраўднаму, сышліся, хаця гады, розьніца ў іх, была адчувальнай. Ён… зьведаў багата такога, да чаго мы яшчэ не падышлі…***

*******

**У час студэнцтва адбыўся ў Анатоля і пэўны грамадскі поспех, звязаны з родным Гарошкаўскім гарадзішчам. Сыс абараніў яго ад вынішчэння – калі стуль пачалі браць пясок на будоўлю, звярнуўся ў музей, да ўладаў. Яго паслухалі: паставілі ахоўны знак. Іх і цяпер можна**

ў Гарошкаве пабачыць: і знак і гарадзішча, хаця і крыху “сплошчанае”.

***

Беларускі патрыятызм Сыса часоў універа – шчэ выразна савецкі. Маладзейшыя за Анатоля студэнткі ўзгадвалі, што Анатоль мог спыніць на дыскатэцы, напрыклад, папулярны тады “Чынгіс-Хан” і пачаць спяваць “Мы, беларусы…” ды махаць пры гэтым БССРаўскім чырвона-зялёным сцягам... і былі ў яго тады шчэ некалькі хлопцаў-падпявалаў… Эдуард Акулін распавядаў, як, аднойчы, перад чарговымі танцамі ў абшчазе, Анатоль перагарадзіў на іх уваход са сцягам БССР: маўляў, хто хоча прайсці на дыскацеку – цалуйце сцяг. Абышлося для Сыса пераможна – сцяг цалавалі і праходзілі.

***

Годзе ў 1981-м, Анатоль даслаў у Беларускі Саюз Пісьменнікаў на рэцэнзію свой, падрыхтаваны да друку машынапісны паэтычны зборнік пад назвай “Берагі майго юнацтва”.

Рэцэнзія ад СП, падрыхтаваная Фёдарам Яфімавым, аказалася адмоўнаю.

Яфімаў быў для беларускай пісьменніцкай арганізацыі постаццю ня проста нетыповай. Ён быў пісьменнікам-дысыдэнтам, якога ў 1968 годзе выключылі з КПСС за выступ на аб’яднаным партсходзе творчых саюзаў БССР супраць савецкага ўмяшання ва ўнутраныя справы іншых сацыялістычных краін і супраць цэнзуры. Пазней звяртаўся з пісьмовым пратэстам у сэкрэтарыят Саюза пісьменнікаў СССР супраць ганенняў на Салжаніцына, падтрымваў пісьменніцу Вакулоўскую, якую абвінавачвалі ў антысаветызме…

Пра сустрэчы з Яфімавым з цеплынёй узгадваў Уладзімір Някляеў. Маўляў, моцны і духам і характарам быў чалавек, праўда, няслаба пітушчы.





рус, хоць і адчувае магчымую небяспеку і ад пчолаў і ад ветру, але разумее і магчымую карысць ад іх: мёд і прахалоду, адчувае ласкавасць наваколля…

*ПСАЛТЫР: 3. Шмат каторыя кажуць душы маёй: <Сэла*> «Няма яму ў Богу ратунку!»*
*СЫС: страшна страшна страшна вее вее вее*

Тут пагрозлівы тон Псалтыра і душа беларускага паэта набліжаюцца да ўнісону. Толькі пагроза Давіду канкрэтная: яму пагражае страта даверу да Бога, да Ягонай Магуты. Беларус адчувае страх перад магутай невядомага.

*ПСАЛТЫР: 4. Але Ты, Госпадзе, - шчыт перада мною, слава мая, і Ты ўзносіш маю галаву.*
*СЫС: жоўтым жоўтым жоўтым ветрам ветрам ветрам*

Псальмяр давярае свайму абаронцу-Богу і з адчуваннем Ягонай абароны ўзнімае галаву. Беларус проста сузірае стыхію.
*ПСАЛТЫР: 5. Сваім голасам клічу да Госпада, - і Ён чуе мяне са сьвятое гары Свае. <Сэла>*
*СЫС: ходзіць ходзіць ходзіць полем вечнасць*

Псальмяр звяртаецца да далёкага Бога і верыць у тое, што Бог яго чуе. Беларус канстатуе, што Бог – вечнасць – прысутнічае тут, побач.

*ПСАЛТЫР: 6. Кладуся я, сплю і ўстаю, бо Гасподзь абараняе мя.*
*СЫС: вечнасць пчолы пчолы пчолы джаляць маці*
*маці*
*ў вочы вочы вочы*
*па шчоках сцякаюць слёзы слёзы слёзы слёзы*
*слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы*
*слёзы слёзы*
*****
*Радзіма пачынаецца з жанчыны*

жоўтым жоўтым жоўтым ветрам ветрам
ветрам
ходзіць ходзіць ходзіць полем вечнасць
вечнасць пчолы пчолы пчолы джаляць маці
маці
ў вочы вочы вочы
па шчоках сцякаюць слёзы слёзы слёзы слёзы
слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы
слёзы слёзы

і

***

Радзіма пачынаецца з жанчыны
Я гэта адчуваў, а ўразумець
яшчэ ня мог – дзіцём шчапаў лучыну,
каб хворую матулю адагрэць,

і разам з ёй да позняе гадзіны
мы слухалі трывожна крыгалом,
не ведаў я, што грэў тады Радзіму
і не падманным, а жывым агнём.

*ПСАЛТЫР: Нягоды Давідавыя*
*Псальма Давіда, калі ён уцякаў ад Авэсалома, сына свайго.*
*СЫС: Поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў*

Цар Давід-псальмяр канкрэтна ўцякае ад свайго старэйшага сына. А што робіць беларус у сланечнікавым полі? Хаваецца? Радуецца жыццю? Бяжыць? Ляжыць? Сядзіць? Стаіць? Ходзіць? Ды што заўгодна! Паколькі беларус не цар і царом быць не прэтэндуе, дык і змагацца яму асабліва за сваё жыццё і свабоду, як цару Давіду, не выпадае.

*ПСАЛТЫР: 2. Госпадзе! – як пабольшала ворагаў маіх! як многа іх на мя паўстае!*
*СЫС: жоўты жоўты вецер пчолаў лашчыць лашчыць*

Псальмяр адчувае шматлікасць сваіх ворагаў. Бела-





Фёдар Яфімаў таксама выйшаў з вёскі. Але… Тая вёска знаходзілася ў Варонежскай вобласці і хоць Яфімаў і засвоіў беларускую мову – пісаў ён пераважна па-руску. Таму, натуральна, беларускія, ментальна, вершы Сыса маглі і не знайсці ні водгука ні дастатковага паразумення ў яго душы.

І на іншы магчымы аргумент адмоўнай рэцэнзіі Яфімава, звярну ўвагу, спасылаючыся на Ірыну Забаўчык, колішнюю наведвальніцу літаб’яднання “Крыніцы”. У сваіх успамінах у часопісе “Дзеяслоў” пра Анатоля Сыса, яна ўзгадвае, як запыталася ў паэта, а для чаго ён піша вершы. “А я так самарэалізуюся, у людзі выбіваюся”.

“Выбіванне ў людзі” ў відавочна таленавітага хлопца, магчыма і прасёк у ранніх вершах шматвопытны Яфімаў.

Сябрам Анатоль казаў пасля, у Мінску, што юнацкія вершы папаліў. Але ўвосень 2010-га падчас штогадовага паэтычнага свята памяці Сыса ў Гарошкаве, яго сястра Тамара распавяла даўнім братавым сябрам Бяляцкаму і Сяргею Сысу пра існаванне неразабранага архіва, а ўвёсну 2011-га, калі да кампаніі далучыўся і трэці сябра Анатоля Эдуард Акулін – перадала яго для азнаямлення. І… высветлілася, што ў тым архіве больш за сотню юнацкіх вершаў Анатоля, у тым ліку машынапісны зборнік, які дасылаўся на рэцэнзію, разам з адказам ад Яфімава.

У 2016-м зборнік знойдзеных ў архіве Сыса яго вершаў выйшаў пад назовам “Берагі майго юнацтва” у выдавецтве “Галіяфы” з прадмовай Алеся Беляцкага. Чытаць варта.

***

Чацверты курс універа для Анатоля і другі для яго сяброў, быў адзначаны, па ўспамінах Бяляцкага, наступным:

Анатоль ухваліў першае Алесева апавяданне, параіўшы больш чытаць па-беларуску. Жорсткай крытыкай і дбайным разборам прымусіў Едруся так працаваць над вершамі, што Акулін імкліва вырас у моцнага паэта. Гэта з плюсаў.

Але ў запісах Бяляцкага пра Сыса тога часу ёсць і такое:

*…не хаваў свае благія рысы (багемнасцьць, страшэнны эгаізм… манера апашляць усё), але яны ў сумесі і адначасова з альтруізмам, таварыскасьцю, праўда, тады страшэнна няпэўнай, спакоем, дабрадушшам, праўдзівасцю, нейкай безабароннасьцю і давалі той надзвычай супярэчлівы сплаў характару, які можна назваць Сысам. Таму да яго адносяцца такія супярэчлівыя ацэнкі іншых як: "дурань", "ненармальны", "трохі вальтануты", "сапраўдны сябра", "таленавіты паэт", "чоткі хлопец"… Асоба. Надзвычай анархічная і свавольная, ня звыклая падпарадкоўвацца нікому. Анархіст.*

*…уплыву анархізму не пазбеглі і мы… я пачаў заўважаць, што гэта дае і душэўную жорсткасць, зьневажае людзей… Тэорыя элітарнасьці, бліскуча прадэманстраваная Сысам, замацавалася і дала нечаканыя парасткі. А спачатку гэта ўсё было арыгінальнічаньнем. Поўная безадказнасьць за дзеяньні і словы – асноўная рыса. Сыс мог прыгалубіць, прыгрэць, а потым даць высьпятка. Ён яшчэ не лічыў нас роўнымі.*

*Гэты чалавек прыносіў і добрае і нядобрае. Яму не было роўных, таму ён і вырас такім, да ўсяго даходзіў сам, таму надзвычайныя здольнасьці і адчуваньне самай складанай філасофскай паэзіі ў яго жывуць побач з прымітыўнымі ўяўленьнямі аб некаторых рэчах. Ды гэта заўважна і ў яго паэзіі.*

У адносіны "тройцы" прыйшоў крызіс, разлад. Бяляцкі прызнаецца, што тады ён адхіснуўся ад





*ПСАЛТЫР: Шчасныя ўсе, хто на Яго спадзяецца.*
*СЫС: Іх згубіла перапёлка,*
*калі нагнулася расы папіць…*

Псальмяр абяцае шчасце ўсім, хто спадзяецца на Мэсыю. Беларус-паэт мэдытуе над пацеркамі і медытуючы знаходзіць новыя падрабязнасці пра іх і маленькую, з песні, перапёлку…

Якія тут высновы? У мяне, шчыра кажучы, пакуль ніякіх((

## ПСАЛЬМА 3

### Нягоды Давідавыя

Псальма Давіда, калі ён уцякаў ад Авэсалома, сына свайго.

2. Госпадзе! – як пабольшала ворагаў маіх! як многа іх на мя паўстае!

3. Шмат каторыя кажуць душы маёй: <Сэла*> «Няма яму ў Богу ратунку!»

4. Але Ты, Госпадзе, - шчыт перада мною, слава мая, і Ты ўзносіш маю галаву.

5. Сваім голасам клічу да Госпада, - і Ён чуе мяне са сьвятое гары Свае. <Сэла>

6. Кладуся я, сплю і ўстаю, бо Гасподзь абараняе мя.

7. І не збаюся я процьмы людзей, што адусюль аблажылі мя.

8. Паўстань, Госпадзе! ацалі мяне, Божа мой! бо Ты б'еш маіх ворагаў па шчацэ, зубы грэшнікам крышыш.

9. Ратунак у Госпадзе. Над народам Тваім дабраслаўленьне Тваё. <Сэла>

** Сэла ёсьць музычны знак, што паказвае быццам crescendo*

Анатоль Сыс. ***
Поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў
жоўты жоўты вецер пчолаў лашчыць лашчыць
страшна страшна страшна вее вее вее

***6. «Я памазаў Цара Майго над Сіёнам, сьвятою гарою Маёю.***
***7. Я абвяшчу пастанову: Гасподзь сказаў Мне: «Ты Сын Мой; Я сёньня Цябе спарадзіў;***
***8. прасі ў Мяне, і дам народы ў спадчыну Табе, і ўладаньні Твае – аж па край зямлі!***
***9. Ты паб'еш іх жалезным жазлом, патаўчэш іх, як посуд ганчарны».***
***СЫС: а там немаўлячы беларусік у прыполе***
***сівой бабулі гуляе бурштынавымі маністкамі.***
***– А ў перапёлкі галоўка баліць… -***
***Замест калыханкі спявае яму бабуля.***
***– А ў перапёлкі ручкі баляць…***

**Псальмяр чуе абяцанне Госпада даць свайму Сыну магуту аж па крайц зямлі. Беларускі паэт слухае медытатыўную народную песню-калыханку.**

***ПСАЛТЫР: 10. Дык вось – урымсціцеся, цары; навучэцеся, судздзі зямныя,***
***11. служэце Госпаду богабаязна, і радуйцеся з трымценьнем.***
***СЫС: Хлапчанё засынае і ўсё жыццё***
***Задумваецца пра гаротніцу-перапёлку.***

**Псальмяр заклікае валадароў зямлі ўрымсціцца, вучыцца, служыць Госпаду з радасцю і трымценнем. Беларус папросту засынае і на ўсё жыццё канцантруецца на дробным.**

***ПСАЛТЫР: 12. Ушануйце Сына, каб Ён не загневаўся, і каб не загінуць вам у дарозе вашай, бо гнеў Ягоны загарыцца неўзабаве.***
***СЫС: …Гэныя драўляныя пацеркі насампраўдзе***
***бурштынавыя.***

**Псальмяр прарочыць надыход Мэсіі неўзабаве і кажа пра важнасць падрыхтоўкі да Яго. Беларус выртаецца да сазярцання сваёй “прэлесці”.**





**Сыса:**

***…Ён ішоў ня тым шляхам, па якому трэ было ісьці. Мы самі, багата ў чым, пракладвалі сабе шлях. Гэта надало нам самастойнасці. Гэта прымусіла нас больш сур'ёзна ставіцца да жыцця, чым гэта рабіў ён.***

***І калі ён запрасіў мяне на дзень нараджэньня – я не пайшоў, ён азьліўся…***

**Анатоль ня мог быць арыентырам у жыцці. Яму самому патрэбны быў арыентыр…**

**У выніку, мэтанакіраваны Бяляцкі ў сваіх беларускіх пошуках 1981-га года знаёміцца з мастаком Міколам Купавам і мовазнаўцам Вінцуком Вячоркам. Пад уплывам новых сяброў цалкам пераходзіць на класічную беларускую літаратурную мову (да таго, у асяродку “тройцы” дамінавала беларуская “трасянка”). Едрусь падтрымвае Бяляцкага ў гэтым. Падтрымвае сябра і ў рашэнні далучыцца да падпольнай мінскай студэнцкай групы Вячоркі-Сокалава-Сушы, якія закладалі ладны кавалак падмурка будучага беларускага Адраджэння канца 80-х – пачатку 90-х гадоў.**

**Анатоль пэўны час кпіць з “нетутэйшай” белмовы Бяляцкага і Акуліна, але і сам пакрыху на яе пераходзіць. Тым больш, што ўласная паездка ў Каралішчавічы пад Мінск да маладых беларускіх літаратараў толькі надае аргументаў на карысць перспектыўнасці моўнага выбару малодшых сяброў.**

## Каралішчавічы, снежань 1981

**Ішоў апошні пяты курс Анатолевага “ўнівермага”. Па ўспамінах Бяляцкага *“На 5-м курсе ён хадзіў у тоўстым паліто на ваціне са штучным, пад сабаку, каўняром. Ён быў ня шмотачнік, хаця любіў прыгожае адзеньне, а калі не было чаго, то апранаў і сьмешнае паліто”.***

**З Ярацам, кіраўнікам літаб'яднання, Анатоль на той час пасварыўся, маўляў, Ярац анічога з маладымі ня робіць. У значнай ступені так і было: Ярац даваў маладым пляцоўку для самавыражэння, дапамагаў надрукавацца ў "Гомельскім універсітэце", але прасоўваць іх куды яшчэ намаганняў не прыкладаў. Ды па пасадзе, фармальна, і ня быў абавязаны.**

**Сыс выйшаў на старшыню Гомельскага аддзялення Саюза Пісьменнікаў Івана Сяркова і праз яго даведаўся, што напрыканцы года ў Каралішчавічах будзе тыднёвы семінар маладых беларускіх літаратараў, на які можна паехаць.**

**Гэта стала "шчаслівым білетам", які даў Сысу мажлівасць пазнаёміцца са многімі калегамі па паэзіі з іншых рэгіёнаў Беларусі.**

**Верагодна пад уплывам Віктара Яраца, і крыўда ўплыў той не надта пахіснула, паэтычным арыентырам для Анатоля быў, і ў немалой ступені застаўся на ўсё жыццё Алесь Разанаў. Але гомельскія знаёмцы раілі Анатолю, каб надрукавацца, пісаць так, як піша Віктар Шніп. У Каралішчавічах адбылося асабістае знаёмства Сыса са сваім "арыентырам практычным".**

**Семінар трапіў на час "ззяння" на беларускім паэтычным небасхіле Уладзімера Арлова, Алега Мінкіна, Сяргея Верацілы. Але найбольш папулярным, нягледзячы на сваю сціплую пасаду электрыка ў Клецку быў тады Леанід Галубовіч.**

**Па ўспамінах Шніпа, *"на той час сярод усіх гэтых імёнаў Анатоль Сыс амаль нічым не вылучаўся – яго ў Мінску не ведалі. Пара вершаў у "Чырвонай змене" і, здаецца, больш нічога надрукаванага. На семінары ў Сыса, акрамя вершаў, з сабой быў нейкі дзесятак пародый, якія вялікага ўражання ні на кога не зрабілі… І Анатоль часцей за ўсё сядзеў у сваім пакойчыку, у які неяк зазірнуў і я. Пазнаёміліся. Сыс чытаў вершы… У той жа вечар***





***ПСАЛТЫР: Прароцтва пра царства Месіі***
***Псальма Давідава. Навошта бунтуюць народы, і намышляюць плямёны марнае?***
***СЫС: Пацеркі***
***Гэтыя драўляныя пацеркі з шыі маёй бабулі***
***Насампраўдзе бурштынавыя.***

**Бунту народаў псалтыра беларуская альтэрнатыва процістаўляе валоданне гістарычнай матэрыяльнай каштоўнасцю. Маеш такую "прэлесць", што дасталася ад продкаў – дафантазуй, дадумай гісторыю пра яе – і табе досць. І нечага бунтаваць!))**

***ПСАЛТЫР: 2. Паўстаюць зямныя цары, і ўмаўляюцца разам князі супраць Госпада і супраць Памазанца Ягонага:***
***3. «Парвёмце ж іхнія кайданы і скінем зь сябе іхнія аковы».***
***СЫС: Штоночы яны***
***падкочваюцца да маёй галавы***
***і самотным голасам***
***пытаюцца пра сваю гаспадыню.***

**Беларус унікае бунта, унікае змовы супраць. Беларус енчыць ды стогне, задае пытанні. Кшталту Купалаўскага: А хто там і дзе? Ці Дубаўцоўскага: Як?**

**ПСАЛТЫР: 4.Той, Хто ў нябёсах жыве, пасмяецца, Гасподзь паганьбіць іх.**
**СЫС: Адчуваю, як мяне пранізваюць бурштыновыя**
**промні, і я, зачараваны, узіраюся ў іх мэту,**

**Псальмяр углядаеццца ў нябёсы, у Госпада. Беларус канцантруецца на сабе і сваіх адчуваннях.**

***ПСАЛТЫР: 5. Тады Ён у гневе Сваім скажа ім, і лютасцю Сваёй іх настрашыць;***

4. Той, Хто ў нябёсах жыве, пасмяецца, Господзь паганьбіць іх.
5. Тады Ён у гневе Сваім скажа ім, і лютасьцю Сваёй іх настрашыць;
6. «Я памазаў Цара Майго над Сіёнам, сьвятою гарою Маёю.
7. Я абвяшчу пастанову: Гасподзь сказаў Мне: «Ты Сын Мой; Я сёньня Ця спарадзіў;
8. прасі ў Мяне, і дам народы ў спадчыну Табе, і ўладаньні Твае – аж па край зямлі!
9. Ты паб'еш іх жалезным жазлом, патаўчэш іх, як посуд ганчарны».
10. Дык вось – урымсьціцеся, цары; навучэцеся, судзьдзі зямныя,
11. служэце Госпаду богабаязна, і радуйцеся з трымценьнем.
12. Ушануйце Сына, каб Ён не загневаўся, і каб не загінуць вам у дарозе вашай, бо гнеў Ягоны загарыцца неўзабаве. Шчасныя ўсе, хто на Яго спадзяецца.

Анатоль Сыс. Пацеркі

Гэтыя драўляныя пацеркі з шыі маёй бабулі
Насампраўдзе бурштынавыя. Штоночы яны
падкочваюцца да маёй галавы
і самотным голасам
пытаюцца пра сваю гаспадыню.

Адчуваю, як мяне пранізваюць бурштыновыя
промні, і я, зачараваны, узіраюся ў іх мэту,
а там немаўлячы беларусік у прыполе
сівой бабулі гуляе бурштынавымі manісткамі.
– А ў перапёлкі галоўка баліць… -
Замест калыханкі спявае яму бабуля.
– А ў перапёлкі ручкі баляць…
Хлапчанё засынае і ўсё жыццё
Задумваецца пра гарортніцу-перапёлку.

…Гэныя драўляныя пацеркі насамправўдзе
бурштынавыя. Іх згубіла перапёлка,
калі нагнулася расы папіць…





*мы абмяняліся адрасамі. У Анатоля быў фатапарат…"*

"Гарошкаўскі самародак" заявіў, што хоча сфатаграфавацца са Шніпам. Яны сфоткаліся. Па ўспамінах Сыса, да войска яны на тым знаёмстве міжсобку *"толькі і бачыліся, вярней размаўлялі хвілінаў пяць"*.

Тым не менш, паэты, можна сказаць, пасябравалі, пачалі перапісвацца (натуральна, праз звычайную пошту, што для цяперашніх пакаленняў выглядае нейкім рарытэтным дзівацтвам, ну хіба што, калі ты сядзіш за кратамі, ці за краты пасылаеш, бывае так даводзіцца пісаць). Але з тога часу Анатоль узгадваў (узгадваў, а не ставіўся) пра сваю "арыентацыю на Шніпа" з іроніяй.

Па вяртанні з Каралішчавічаў у Гомель, Сыс, па ўспамінах Бяляцкага, адзначыў:

– Мне сказалі, вельмі сьмела пішаш. Цяжка будзе што-небудзь надрукаваць.

## Сыс і Баскі

Па ўзгадцы Эдуарда Акуліна, у 1981-м, пад яго кіраваннем, пры Гомельскім універы ўзнікла рок-каманда "Баскі". Апроч самога Едруся, у яе склад увайшлі яго сябры: Бяляцкі, Скачынскі, Кавалёў. *"Толя прыйшоў на адну з нашых рэпэтыцый і папрасіўся, каб мы ўзялі яго да сябе. Я заўважыў яму – ты ж ня ўмееш граць ні на адным музычным інструмэнце. А ён кажа: "Бас-гітара ў вас ёсьць?" – "Ёсьць," – кажу. – "Сола-гітара ёсьць?" – "Ёсьць." – "І барабаншчык у вас ёсьць, а калі ёсьць барабаншчык, то патрэбны і завывальшчык. Я ні на чым ня ўмею граць, але ўмею па-мастацку выць. І калі Скачынскі будзе пілікаць на гітары (а той ня меў музычнай адукацыі і сапраўды пілікаў, як умеў), я буду ўпрыгожваць гэтыя паўзы сваім мастацкім выцьцём". І – прадэманстраваў тое сваё выцьцё… Толя нават сваю*

***назву прапаноўваў: “Вось вы назваецеся “Баскі”, але гэтую назву вельмі лёгка зьмяніць на “Басыскі”.***

**Прапанова была занахабная. І пагрозлівая тым, што фактычным кіраўніком “Баскаў” мог вельмі хутка зрабіцца сам Анатоль. Хоць, пагадзіцеся: выццё Сыса на рок-канцэрце – тое была б і ломка шаблону і творчая правакацыя, якая магла надаць “Баскам” і напаўторнае гучанне і непаўторны брэнд. А з тым і больш удалы лёс.**

**Але Акулін Сыса ў каманду ня прыняў…**

## Дыплёмны год

**– 19-82 – эта, в общем, счастливые цифры – чытаў свой верш с экрана навагодяга “Голубого огонька” жывы тады савецкі класік Андрэй Вазнясенскі…**

**У 1982-м Сысу было наканавана абараніць дыпломную работу і скончыць Гомельскі універ. Навуковым кіраўніком работы быў прызначаны Віктар Ярац.**

**“Наезд” студэнта Сыса на Яраца не застаўся без наступстваў. Па ўспамінах Бяляцкага: *Сыс займае першае месца на абласным конкурсе самадзейных паэтаў – Ярац гаворыць Балогу* (тагачасны рэдактар газеты “Гомельскі ўніверсітэт” – А.М.), *што гэта лухта, і той здымае яго падборку з газеты. Ярац пры нас крытыкуе паэзію Сыса (у групе), той піша ў яго дыплом – і Ярац “падкузьмівае” яго так, што Сыс ледзь абараняецца на чацьвёрку. Урэшце яны перасталі здароўкацца адзін з адным.***

**…Я таксама, пазней, вучыўся ў Яраца. Меў досыць часу, каб прыгледзецца да яго і зрабіць высновы. Яны наступныя: каб выклікаць да сябе такое стаўленне, якое выклікаў Сыс – трэба добра прыкласці намаганняў!**

**Знайшоўшы ў Гомельскім універы адносна спакойны**





**Аналагам бязбожнікаў Псалтыра тут для беларусаў праз паэзію Анатоля Сыса выступае хтанічная нечысць – змеі, рэптыліі.**

***ПСАЛТЫР: 6. Бо дарогу праведных ведае Гасподзь***
***СЫС: Неапаленай Купіне – маці – маліліся людзі,***
***і пачуў я ва ўлонні: з пакуты народзіцца***
***Сын...***
***Неапаленай Купіне – маці – малюся адзінай,***
***я ўсмактаў з малаком і любоў, і праклёны яе:***

**Уласная маці бачыцца паэту-беларусу праведніцай, вышэйшаю за вакольных людзей – і ёй яны ў яго ўяленні моляцца. Ці, прынамсі, вінны маліцца. Для беларуса – маці на месцы Бога. Можа таму беларускія жанчыны па працягласці жыцця – адны з першых у Эўропе.**

***ПСАЛТЫР: а дарога бязбожнікаў прападзе!***
***СЫС: хто плюе на жанчыну –***
***той нелюдзь плюе на***
***Радзіму,***
***хто гандлюе святыняй – той маці сваю прадае.***

**Тут беларускі адпаведнік бязбожнікам “Псалтыра” ўжо з чалавечага свету. Прапашчыя душы для беларуса – тыя. хто зневажаюць жанчыну, зневажаюць маці.**
**Што ж, этычна гэта вельмі блізка.**

## ПСАЛЬМА 2

### Прароцтва пра царства Месіі

**Псальма Давідава. Навошта бунтуюць народы, і намышляюць плямёны марнае?**
**2. Паўстаюць зямныя цары, і ўмаўляюцца разам князі супраць Госпада і супраць Памазанца Ягонага:**
**3. «Парвёмце ж іхнія кайданы і скінем зь сябе іхнія аковы».**

стыхіі, так свавольна людзі разважаюць пра наступствы і вынікі іх свавольства – бяздоказна і безадказна.

*ПСАЛТЫР: 3. І будзе ён, быццам дрэва, над плынямі водаў пасаджанае, што родзіць свой плод у свой час, і ліст у якога ня жухне; і ва ўсім, што ён учыняе, пашчасьціць яму.*

*СЫС: Аж нарадзіла я цябе, сынок мой, жывенькага, толькі на твары была чырвоная пляміна. Я думала, след ад пажару, аж аклямаўся ты трохі, і яна знікла, сынок мой. А была я прыгожая да пажару. Ды хіба ў непрыгожай маці мог нарадзіцца такі сынок мой?..*

*Як святарны абраз,*
*людзі вынеслі маці з пажару,*
*бы вужаку, маланку аддзёрлі*
*ад белых грудзей,*
*каб суцішыць пакуты,*
*паклалі пад цёмную хмару*
*і, каб смагу спатоліць,*
*размову вялі аб вадзе,*

*а яшчэ гаварылі: Пярун выбірае шчаслівых.*
*Маці верыла людзям, на шчасце, цяжарная*
*мной,*

Для беларускага паэта, безумоўная дабрашчасная праведніца – гэта ягоная маці. Яна – і дрэва над плыняю водаў, што нараджае свой плод у свой час.

*ПСАЛТЫР: 4. Ня так у бязбожнікаў; яны – быццам пыл, ветрам падняты.*

*5.Таму ня ўстояць бязбожнікі на Божым судзе, а грэшнікі – на сходзе праведных.*

*СЫС: і шаптала замову: калюжыны – гадам*
*вашывым,*
*полю жытняму – дождждык,*
*а рэчка – крывінцы маёй...*
*Бы вужака, маланка смактала ў полымя грудзі*
*і плявала адрыжкі на самых прыгожых*
*жанчын,*





прытулак пасля выключэння з БДУ, Ярац разумеў, што з ягоным мінулым “нацыяналіста” ні яму, ні тым, каго ён будзе актыўна “прадзвігаць”, анічога істотнага ў кар’еры ў Савецкай Беларусі не прадбачыцца – а вось “засвяціць” сябе з непрыемнымі наступствамі – рэальна. Па другое, ціхая творчасць “без выпяндрожу”, павольны рытм жыцця, штодзённыя стабільныя абавязкі – яны адпавядалі характару Яраца, і іх яму хапала. Для таго, каб ускладаць на сябе дадатковае – трэба было ламаць звыклае, а Анатоль, з характэрным для яго націскам менавіта такіх паводзін ад свайго выкладчыка ня проста хацеў – патрабаваў!

Пэўна, з Ярацам у Анатоля ў чымсці паўтарылася сітуацыя з Яфімавым, а можа і з прыёмнай камісіяй тэатральнага інстытута: навязлівы самазакаханы маладзён, які занадта ірваўся “выбіцца ў людзі” раздражняў і выклікаў жаданне паставіць яго на адпаведнае сціплае месца.

Як паказалі наступныя гады, ня толькі мінус атрымаўся з канфлікту Сыса і Яраца. У 83-м ужо намаганнямі Яраца, паехаў на чарговы семінар у Каралішчавічы Эдуард Акулін…

Цяперашні загадчык кафедры беллітаратуры Гомельскага універа Скарыны, прафесар Іван Фёдаравіч Штэйнер дасюль з гумарам узгадвае, як Сыс прынёс яму дахаты дзесь пасля 23.00 сваю дыплёмную работу на рэцэнзію напярэдадні абароны. Вы, тут, маўляў, пачытайце, а я пакуль у Вас футбол пагляджу!” (ішоў чэмпіянат свету-82). Сацыял-рэвалюцыянер Анатоль быў і тады і пасля перакананы ва ўласнай каштоўнасці ды геніяльнасці…

Пазней, з войска, паэт пісаў сябру-Бяляцкаму:
“*Абавязкова перадай прывітаньне Івану Фёдаравічу. Пабольш бы такіх вучоных ад нас.*”

Стаўшы прафесарам, Штэйнер нямала публікацый

і цэлую манаграфію ("Свае руны мне не вышыць…) прысвяціў Сысу. На яго думку, "жыццё і творчасць А.Сыса – *гэта своеасаблівы эксперымент, праведзены нейкай сілай з адпаведнай мэтай – вызначыць змест, сутнасць, перспектывы развіцця беларускага прыгожага пісьменства мінулага стагоддзя, а ягоная творчасць – гэта "кароткі паўтарыцельны курс" (М. Багдановіч) усёй беларускай паэзіі, развага аб яе значнасці і незапатрабаванасці, ідэалах і арыенцірах… ягоная паэзія з'яўляецца іерогліфам, сімвалам пошукаў айчыннай паэзіі XX стагоддзя і яе своеасаблівым вынікам, бо ўжо ў традыцыйным выглядзе існаваць не будзе ці будзе зусім нядоўга… Перш за ўсё, ён вярнуў у беларускую культурную традыцыю міф…"*

Пры жыцці, па словах Штэйнера, Анатоль папракаў яго, што, маўляў ня здолеў той разгледзець моц паэтычнага дару Сыса-студэнта. Прафесар пагаджаўся, але ў той жа час лічыў, што жорсткі падыход да творцы быў абумоўлены.

Хаця, ізноў падкрэслім: хлапцоў на філфаку выкладчыкі, збольшага, аберагалі…

***

Па сканчэнні ўнівера, увосень 1982-га Сыс быў прызваны ў войска. Як асоба з вышэйшай адукацыяй, на паўтары гады. На провады вырашыў запрасіць усіх, каго памятаў па студэнцкай "абшчазе" на гомельскай вуліцы Кірава, заказаў дзеля тога аўтобус.

## Беларускі акупант у братняй Польшчы

Служыць паэт патрапіў сувязістам у сапёрныя войскі ў Польшчу. Пад час вайсковага становішча, уведзенага генералам Ярузельскім пад пагрозай уваходу значна больш сур'ёзнага кантынгенту савецкіх войскаў.





**Неапаленай Купіне – маці – маліліся людзі,**
**і пачуў я ва ўлонні: з пакуты народзіцца**
**Сын...**
**Неапаленай Купіне – маці – малюся адзінай,**
**я ўсмактаў з малаком і любоў, і праклёны яе:**
**хто плюе на жаныну –**
**той нелюдзь плюе на**
**Радзіму,**
**хто гандлюе святыняй – той маці сваю прадае.**

*ПСАЛТЫР: Два шляхі*

Псальма Давідава. Дабрашчасны той муж, што ня ходзіць на раду бязбожных, і не стаіць на дарозе грэшных, і не сядзіць на зборні распустаў;

*СЫС: НЕАПАЛІМАЯ КУПІНА*

Калі я быў малы, дык часта думаў, чаму ў мяне маці такая старая і непрыгожая, а аднойчы адважыўся запытацца пра яе шнары на твары, якія глыбока ў душы любіў, якія тысячы разоў цалаваў.

Псальмяр пачынае першы псалом з умовы дабрашчасця – не хадзіць на раду бязбожных, не стаяць на дарозе грэшных, не сядзець на зборні распустаў.

Сыс пачынае першы верш таксама ад адліку кропкі шчасця – "калі я быў малы". Малы, ва ўяўленні многіх людзей, па азначэнні – бязгрэшны – хай ён сабе і ходзіць да бязбожных, стаіць ля грэшнікаў і сядзіць з распустамі.

*ПСАЛТЫР: 2. а ў законе Гасподнім воля ягоная, і пра закон Ягоны ўдзень і ўначы разважае!*

*СЫС: – Ох, сынок мой! Гэта ж здарыўся пажар, і яшчэ з адной жанчынай абгарэлі крэпка. Жанчына тая памерла. І ў мяне былі абпаленыя і рукі, і грудзі, і твар... І была я цяжарная табою, сынок мой, і ўсе казалі, гэта я даведалася потым, што ці я памру, ці дзіця народзіцца мёртвым.*

Законам Гасподнім для беларускага свету – свавольства стыхіяў. І як хазваляюць сабе свавольнічаць

6. Бо дарогу праведных ведае Гасподзь, а дарога бязбожнікаў прападзе!

Анатоль Сыс: НЕАПАЛІМАЯ КУПІНА

Калі я быў малы, дык часта думаў, чаму ў мяне маці такая старая і непрыгожая, а аднойчы адважыўся запытацца пра яе шнары на твары, якія глыбока ў душы любіў, якія тысячы разоў цалаваў.

– Ох, сынок мой! Гэта ж здарыўся пажар, і яшчэ з адной жанчынай абгарэлі крэпка. Жанчына тая памерла. І ў мяне былі абпаленыя і рукі, і грудзі, і твар... І была я цяжарная табою, сынок мой, і ўсе казалі, гэта я даведалася потым, што ці я памру, ці дзіця народзіцца мёртвым. Аж нарадзіла я цябе, сынок мой, жывенькага, толькі на твары была чырвоная пляміна. Я думала, след ад пажару, аж аклямаўся ты трохі, і яна знікла, сынок мой. А была я прыгожая да пажару. Ды хіба ў непрыгожай маці мог нарадзіцца такі сынок мой?..

Як святарны абраз,
людзі вынеслі маці з пажару,
бы вужаку, маланку аддзёрлі
ад белых грудзей,
каб суцішыць пакуты,
паклалі пад цёмную хмару
і, каб смагу спатоліць,
размову вялі аб вадзе,

а яшчэ гаварылі: Пярун выбірае шчаслівых.
Маці верыла людзям, на шчасце, цяжарная
мной,
і шаптала замову: калюжыны – гадам
вашывым,
полю жытняму – дожджык,
а рэчка – крывінцы маёй...

Бы вужака, маланка смактала ў полымя грудзі
і плявала адрыжкі на самых прыгожых
жанчын,





Пад час службы Анатолю, з яго словаў, быццам бы, атрымалася з’яднаць саслужбоўцаў-землякоў-“срочнікаў” у салідарную супольнасць, незалежна “дзяды” яны, “маладыя” ці “салабоны”. Ці праўда атрымалася – пэўна могуць распавесці тыя, хто ў супольнасці апынуліся. Пакуль шчэ маем шанцы застаць іх жывымі і ў цвярозай памяці. Толькі б знайсці!..

Як філолаг з вышэйшай адукацыяй, у войску Сыс атрымаў месца ў батальённай бібліятэцы. Пэўны час служба праходзіла, збольшага, за друкаркай. Як пісаў паэт з войска Віктару Шніпу *“сваёй машынкай я абслугоўваю зампаліта батальёну, парторга, камсорга, а яны нясуць, нясуць і нясуць паперы, як у маўзалей. Цяпер у бібліятэцы зноў займаюся рэвізіяй, за апошнія два гады зьнікла кніжак на 200 руб.* (па афіцыйным тагачасным курсе – ля 300 даляраў – А.М.). *І ўсе самыя лепшыя. З-за гэтага быў скандал, вярней, сварба. Мяне былі ледзь ня выгналі за тое, што я праўду начальніку сказаў у вочы дзе ёсць, у каго ёсць гэтыя кнігі.”*

Нягледзячы на даволі “камфортныя” для войска ўмовы – у першыя дзве траціны службы, за выключэннем месячнай “ссылкі” на “свінарнік, мой ляўкоўскі перыяд, мая болдзінская восень” (так пра яго Сыс пісаў сябрам) – у пазнейшых успамінах, Анатоль узгадваў войска, як вельмі жорсткі асяродак, і стуль паведаміў: *“Пра армію я ніколі не буду пісаць. На тэмы ў мяне свае віды.”* Хоць пра штосьці з войска, апроч свінарніка, успамінаць і абяцаў: *“канцэрт на стадыёне… яна хадзіла над намі, пела, гладзіла па галоўках лысых – Ала Пугачова”.*

У войску ён пачаў паліць *(“на месяц выдавалі па васемнаццаць пачкаў цыгарэтаў. Усе запаляць, а я – не, сумна. Так і ўцягнуўся*) і парваць з гэтай звычкай ня здолеў да скону.

У 83-м, у “вельмі жорсткім асяродку” Сыс меў, збольшага, досыць часу на вершы: “Бывае і такое, ня

сплю, а загад хоць кроў з носу, *трэба выканаць. Ну гэта бывае раз у месяц, а так займаюся толькі сабой: чытаю-пішу, падыхаю, потым зноў чытаю-пішу… Я кідаю ўсю службу і пішу дзень, два, тры, магу тыдзень – у выніку гатова – радкоў дзесяць. Яны мне здаюцца залатымі, але не маімі. Прыгледжуся – аказваецца перад гэтым я начытаўся…* (на пасадзе бібліятэкара можна было шмат якіх паэтаў начытацца – А.М.) *Спыніцца не магу, і паехаў… Па сутнасці я магу паўтарыць любога амаль паэта. Сябе паўтараю рэдка… Забываюся, што я меў на ўвазе, калі пісаў… “* Паведамляў сябрам, што можа рэгулярна дасылаць ім свае новыя вершы (“але вы іх усур’ёз не ўспрымайце”), прасіў дасылаць і іх вершы яму *(“крытык з мяне ня важны, але я магу дакладна сказаць дзе дрэнна – дзе добра”).*

Як у многіх творцаў, у Анатоля тады з’явіўся свой рытуал: *“вершы пішу выключна на канвертах. Прычым, чым даражэй адпраўіцель – тым лепшы настрой і мой, і верша. Больш за ўсё напісаў на канвертах Шніпа.” У лістах да гомельскіх сяброў, Сыс папікаў іх: маўляў, са Шніпам “толькі і бачыліся, вярней размаўлялі хвілінаў пяць”, а вось жа, “усю армію ён мне акуратна піша… ня вам ў прыклад”.*

Пад час службы Сыс ствараў тое, што пасля склала зборнік “Агмень”. Працягнуў і завяршыў распачаты ва ўніверы найдаўжэйшы свой паэтычны твор – паэму “Алаіза”, прысвечануюЭлаізе Пашкевіч – беларускай пісьменніцы, больш вядомай пад псеўда Цётка. Паэма была напісаная, як казаў сам Анатоль, пад уплывам творчасці Алеся Разанава. У Польшчы шчэ жылі сваякі Цёткі, а ў іх захоўваліся асабістыя рэчы паэткі. Паэт загарэўся ідэяй, што можа атрымаецца сустрэцца ды што з яе рэчаў перадаць у Беларусь, прычым пры яго, Анатолевым удзеле. Тут жа ў Польшчы жыла тады яго сястра Валянціна, разам з мужам-вайскоўцам; на другім годзе службы Анатолю атрымалася ў іх тыдзень пагасцяваць на Каляды (і там, у сястры, як сведчыць





ры” дзяцей раней вучылі чытаць. Кавалкі “Псалтыра” прысутнічаюць на ўсіх багаслужбах, асобныя псальмы прамаўлюцца ў экстрымальныя ды адчайныя моманты жыцця. “Псалтыр”прачытваюць ля труны памерлага хрысціяніна, калі ён не свяшчэннаслужка. У “Псалтыры” яшчэ няма Хрыста, але ёсць чаканне Богачалавека, прароцтвы пра Яго.

Анатоль Сыс меў прароцкі дар. Ды скарыстаўся ім толькі ў малой ступені. Збольшага дар быў збаёданы, пайшоў на падмены і рэчы ня самыя важныя і значныя. Але творчасць Сыса стала сведчаннем пра Беларусь – з яе моцнымі бакамі, хібамі, праблемамі і забабонамі. У адрозненне ад трапнай, але пераважна “чарнушнай” прозы калегі Анатоля па “Тутэйшым” Адама Глёбуса, сведчанне Сыса выглядае патэтычна-рамантычным. Магчыма і Глёбуса з Сысам варта чытаць паралельна. Дарослым і адказным чытачам.

Памеры нашай кніжкі абмежаваныя. Таму змясціць тут развагі пра ўсе псальмы і адпаведныя ім вершы зборніка “Сыс” нерэальна. Абмяжуемся тымі псальмамі і тымі вершамі Анатоля Сыса, якія “уклаліся ў ліміт”.

## ПСАЛЬМА 1

### Два шляхі

Псальма Давідава. Дабрашчасны той муж, што ня ходзіць на раду бязбожных, і не стаіць на дарозе грэшных, і не сядзіць на зборні распустаў;

2. а ў законе Гасподнім воля ягоная, і пра закон Яго ны ўдзень і ўначы разважае!

3. І будзе ён, быццам дрэва, над плынямі водаў пасаджанае, што родзіць свой плод у свой час, і ліст у якога ня жухне; і ва ўсім, што ён учыняе, пашчасьціць яму.

4. Ня так у бязбожнікаў; яны – быццам пыл, ветрам падняты.

5. Таму ня ўстояць бязбожнікі на Божым судзе, а грэшнікі – на сходзе праведных.

## "Сыс"-2002

У 2002-м выдавецтва "Мастацкай літаратурай" выпусціла паэтычны зборнік "Сыс". На выданне ахвяравала грошы пераехаўшая да сына ў ЗША выкладчыца мастацкай акадэміі Валянціна Якімовіч – самаадданая апякунка Анатоля і ягонай творчасці. Валянціна зарабіла тыя грошы даглядам за старымі і нямоглымі амерыканкамі ды амерыканцамі.

Знешне, Анатоль паставіўся да выхаду свайго трэцяга зборніка абыякава. Больш таго, ён выказваўся ў тым ключы, што лепей бы Валянціна на гэтыя грошы праставіла яму выпіўкі. Але тое, мяркую. была поза, чарговая роля на сцэне жыцця, якую паэт прагнуў згуляць насуперак здароваму сэнсу.

Зборнік змяшчаў у сабе вершы з выдадзеных раней у Беларусі кніг Анатоля "Агмень" і "Пан Лес" ды яго ж вершы з сабранай, але так і ня выдадзенай асобна кнігі "Ягамосць".

Рэдактары кнігі "Сыс" чамусь вырашылі некалькі змяніць паслядоўнасць зборнікаў пад сваёй вокладкай.

У выніку ў "Сыс"е першым па паслядоўнасці стаў пазнейшы за "Агмень" напісаннем "Пан Лес". "Агмень" апынуўся другім, прычым з яго прыбралі паэму "Агонь-птушка".

Усё разам пры паралельным чытанні са знакамітым біблейскім "Псалтыром" нечакана стала выглядаць каментаром да "Псалтыра", беларускім сведчаннем пра наш светапогляд, нашыя святыні, нашыя здані і пачвары. Ад першага верша "Неапаленая купіна", паралельнага з першай псальмай, да апошняга "Пра сына", паралельнага са сто пяцьдзесят першай псальмай, якая таксама пра сына.

"Псалтыр" – гэтай думкі прытрымваецца большасць даследчыкаў – першая беларуская друкаваная кніга. Выданне Скарыны ад 6 жніўня 1517 года. Па "Псалты-





адзін з вайсковых лістоў паэта, ён стаў выпіваць. Тады, а не пазней шматразова ўзгаданыя Анатолем 26 гадоў сталі рэальным адлікам пачатку яго алкагольнага шляху, пакуль шчэ вельмі дазаванага). Праз адносна паспяховага на ніве прызнання і знаёмстваў Віктара Шніпа, з якім ліставаўся, Сыс спадзяваўся паўплываць на старшыню Беларускага Саюза Пісьменнікаў Ніла Гілевіча, каб той парупіўся аб набыцці ў польскіх сваякоў Цёткі яе рэчаў, у прыватнасці габеленаў. З тога ж ліставання са Шніпом можна зрабіць выснову, што Гілевіча ні сваякі ні габелены Цёткі не зацікавілі, нават у выніку некалькіх візітаў да яго Лідзіі Арабей, якая пісала пра Цётку і апекавалася яе спадчынай. Каму, апроч пісьменнікаў, прапанаваць разбірацца з Цётчынай спадчынай, Анатоль ня ведаў. І адмовіўся ад далейшых намаганняў у тым кірунку.

Тое, чаго Сыс не казаў медыям, але што можна прасекчы, чытаючы "Алаізу": у расповядзе пра Цётку з фактамі яе жыцця, Сыс кажа, перадусім пра свае пачуцці і сваё стаўленне да рэчаіснасці…

***

Дапісаную ў войску паэму Анатоль вельмі прагнуў паказаць Разанаву. Ізноў-такі праз Віктара Шніпа. Той прапаноўваў дасылаць вершы для "Полымя" і "Маладосці", але Сыс (па версіі Сыса) пераслаў толькі некалькі верлібраў для "Дня Паэзіі-84" (яны туды пасля не ўвайшлі). Да сваіх вайсковых твораў паэт ставіўся няўпэўнена, прасіў папярэдне адрэцэнзаваць іх Бяляцкага і Акуліна ("асабліва паказвайце пальцам, дзе ў мяне памылкі"), а слаць Шніпу можа й саромеўся.

Па успамінах Шніпа ("Крыніца" №6 за 2001г., і іх Сыс не абвяргаў) *"Сыс дасылаў мне свае вершы і пароды, а я іх разносіў па рэдакцыях. Тое-сёе было надрукавана, але большасць, як кажа Сыс, "праляцела". Даслаў быў з Польшчы Анатоль і сваю паэму "Алаіза" з просьбай паказаць Алесю Разанаву. Аднёс. Але безвынікова – нідзе*

***не ўладкавалі".***

**Адсутнасць публікацый пасля ўнівера, сумненні ў вартасці ўласнай паэмы, нецікаўнасць да паэзіі вайсковага асяродку, у якім апынуўся, маўчанне ў адказ на лісты да многіх літаратурных знаёмцаў – усё разам сеяла ў Анатолі сумневы ў перспектыўнасці прызнання яго як паэта па-за колам сяброў. Ды і ў трываласці сяброўства з імі Сыс сумняваўся*: "Вы ж… ганарлівыя, бы шляхцюкі, можаце і сапраўды мяне адцурацца."***

**Паэт піша ў войска свайму сябру, земляку і аднафамільцу Сяргею Сысу ў лютым 1983-га*: "Добры дзень, Жорж Кунц! (Наколькі я зразумеў у цябе ўжо новы псеўданім). Можаш, Сяргей, пакінуць сваё сапраўднае прозьвішча. Ты, відаць, у літаратурнай Беларусі будзеш адзін мець яго. Мяне ніколі не прызнаюць: я нават сам ня ведаю, што сабой уяўляю, маю да паэзіі вялікія прэтэнзіі, а ці заслугоўвае гэтага мой "сьветлы лоб"? А яна (паэзія) сапраўды сьветлая і чыстая, і такіх змрочных тыпаў, як я і мае страданьні, афармленыя па яе законах і незаконах, прымае ў сто год усяго адзін раз. Баюся – я лезу не ў сваё карыта… А ЯНА мне ўжо амаль шэсць год перашкаджае жыць, як усе людзі. Напэўна, таму я і стаў нелюдзем, філантроп і мізантроп ува мне… Хто я – першы ці другі? А можа трэйці?..."***

**Калі будучы "беларускі псальмяр" сутрэўся ў войску з самым вялікім творам "псальмяра савецкага часу" масквіча Булата Акуджавы – раманам "Путешествие дилетантов", і прачытаў яго, то зрабіў катэгарычны вырак: *"лухта, часу шкада".***

**Такое бывае. Творца, які пабачыў сабе падобнага, у люстэрцы іншага часу, традыцыі, культуры, адукацыі – і не прызнае яго і ўвогуле намагаецца выкінуць з памяці. Люстэркі, яны часам забалюча выкрываюць: раптам бачыш там не каханае аблічча, а набор уласных недапрацовак, комплексаў і прабелаў у развіцці… І калі не гатовы прыняць – лепей не падыходзь да люстэрак…**





**на пенсію ранейшай увагі.**

**"Тое, што прарок прыйдзе паэтам, - гэта прыгожая беларуская казка" – падвадзіў вынік разважанням пра Сыса ў тым часопісе Ўсевалад Гарачка.**

## Частка ІІІ. СЫСАЎ ПСАЛТЫР

***Кожная нацыя жыве чаканнем Паэта.***

***Бо ў ім і праз яго яна бачыць самую сябе.***

***Але як толькі ён з'яўляецца – нацыя жахаецца,***

***бо тое, што яна бачыць у ім і чуе ад яго, страшыць.***

***Яна не хоча даць веры ўласнаму адлюстраванню…***

***Леанід Галубовіч***

### Самота

**Напрыканцы свайго 37-га года зямнога жыцця, пасля мінскай лякарні №2, Анатоль Сыс стаў заўважна і няўхільна здаваць фізічна. Ранейшая прага ператвараць любое месца прысутнасці ва ўласную сцэну для выступаў ужо не давала жаданага эфекту ў Мінску: сталічны нацыянальны бамонд стаміўся ад Сыса і, усё больш дэманстратыўна цураўся яго. Затое тыя, хто перасякаўся з ім упершыню, асабліва ў рэгіёнах амаль нязменна траплялі пад уплыў Анатолевай абаяльнасці і энергетыкі. Паэт цяпер кожны цёплы сезон ірваўся ў Гарошкаў, пераконваючы знаёмых, што даглядае там за маці. Магчыма, ён насамрэч так думаў. Сёстры ж ацэньвалі тыя прыезды па-іншаму: апроч маці ім даводзілася клапаціцца і пра Анатоля.**

**Суб'ектыўна, паменшылася натхненне. І паэт стаў баяцца заставацца адзін – сам-насам з уласным адчаем…**

вакольных, дабраўся да аднаго з акенцаў з маім квітком і за хвіліну давёў касірцы, што квіток трэба замяніць на бліжэйшы цягнік да Гомеля.. Бліжэйшы ішоў досыць неўзабаве, і хоць давялося некалькі даплаціць, але касірка забрала мой ранейшы квіток паспяхова перааформіла… Харызма Анатоля шчэ магла змяняць прастору!

З таго, што не запісаў дыктафон. Вяртаючыся ў Мінск з Гародні, Сыс набыў агульны квіток на цягнік да Мінска, але на платформе сустрэў Вячорку. У Вінцука квіток быў на той жа цягнік, у купэ. Сябры 80-х праразмаўлялі ўсю дарогу у агульным вагоне, а неўзабаве пасля (тут дадаю сам, па храналогіі) у Анатоля атрымалася некалькімесячная штотыднёвая падпрацоўка ў газэце “Звязда”, дзе ён дбайна і адказна пісаў тэксты для рубрыкі “Анталогія беларускай паэзіі”: пра Багрыма, Караткевіча, Янішчыц, Дубоўку, Стральцова… Усяго выйшла дванаццаць выпускаў. Пасля Сыс сарваўся, не зрабіў сваечасова чарговы. Некалькі тыдняў зрыву. Падпрацоўка закрылася, Анатоль ізноў абрынуўся ў вір уласнага бязладдзя…

Але як тады яшчэ магла падтрымаць яго простая сяброўская ўвага!

## “Крыніца” № 6 (66)

Гэты нумар літаратурнага часопіса за 2001 год, які рэдагавала тады суседка Сыса па дому Ала Канапелька стаў, фактычна, апошнім прыжыццёвым бенефісам паэта. Там былі і вершы Анатоля, і крытыка, і дыфірамбы і развагі пра яго і інтэрв’ю ад лютага 2000-га, якое паказвала, што Сыс хутчэй жывы і адэкватны, чым наадварот.

Ды фактычна, літаратурная Беларусь ужо развітвалася са сваім былым кумірам, праважала яго





Пэўна і таму, у савецкіх войсках традыцыйна не любілі масквічоў: ня толькі з-за шматлікіх недахопаў, а і з-за тога, што яны аказваліся занадта “прадзвінутымі” люстэркамі ў краіне развітога “сацыялізма галаўнога мозга”…

З Акуліным у ліставанні Анатоль дзеліцца такімі развагамі: *“Я зразумеў – каб друкавацца, трэба, каб верылі, што ты не матылёк-аднадзёнка… каб ты прымялькаўся ў газетах, часопісах, нават размовах. Тут цэлая палітыка.”* Бадай, тое “першая ластаўка” будучага прыходу будучага вялікага беларускага паэта ў палітыку.

Пад час Анатолева войска адбылася, бадай, першая яго пацверджаная артэфактамі публікацыя ў рэспубліканскім друку (ранейшых, пакуль(?) не выяўлена): у №1 за 1983 год часопіса “Маладосць” аказаліся надрукаванымі некалькі яго пародый. Але прайшлі яны, фактычна, незаўважанымі (так вось дбайна чытаўася ўзгаданы часопіс дзесяцігоддзямі), і не былі вядомыя даследчыкам творчасці Анатоля, ажно пакуль у 2010-м не натрапіў на гэты нумар “Маладосці” ў Нацыянальнай бібліятэцы Сяргей Сыс.

За межамі Беларусі, у нейкай газэце тры вершы Анатоля надрукаваў яго знаёмец-калега па гомельскай “Крыніцы” літаратар Сяргей Сцешац. Газеты былі дасланыя Сысу ў войска. Далейшы іх лёс і якія там былі вершы – адказваць даследчыкам.

***

Глыбокай восенню 83-га камфорт пры батальённай бібліятэцы з багаццем кніг, друкаркай, тэлевізарам і саўнай для паэта з нейкай прычыны скончыўся. Ён патрапіў у іншы полк (дзе *“ніхто ня ведае, што я пішу вершы, дарэчы, я іх ужо не пішу тры месяцы”*) у пантонную каманду з азіяцкім асабістым складам і

работамі на рэчцы ды ў лесе, з частымі трывогамі. Дзе, нават, хлопец з Падмаскоўя падаваўся яму блізкім земляком: *"тут нехаця прыходзіцца размаўляць па-руску… і калі земляка сустрэну, і кніжкі дастаю, даю, нават прымушаю іх чытаць беларусаў, вось тут мяне лічаць дзіваком… Вы ня ведаеце, што такое плакаць на родная мове, а я плакаў горкімі слязьмі…"*

На новым месцы Сыс нейкі час быў качагарам, пасля стаў мастаком-афарміцелем – у лісце з войска пісаў, што афармляе ленінскі пакой: *"Я тут стаў зьверам. Кожны дзень праходжуся па мордах".*

У планах аб сваёй будучыні пасля службы Сыс ня меў стабільнасці: то яму ўсёй існасцю карцела ў Мінск, дзе *"мая мара, там усё жыццё: футбол, людзі, вечары літаратурныя ці мала яшчэ куды можна пайсці…"*, то ён усур'ёз задумваўся пра Гомель: *"Я б у Гомелі застаўся, каб там добрую работу знайсці."* Але, як аказалася ў далейшым, трапна прадказваў, што яго найбліжэйшыя сябры *"закончаць…універ і раз'едуцца хто куды".*

Адышоўшы на адзін абзац ад расповяда пра Сыса, адзначым, што Гомель і быў і застаецца тым абласным горадам Беларусі, у якім найбольш амбітныя асобы надоўга не затрымваюцца. Гомель з радасцю наведваюць (там *"лягчэй дыхаецца… менш сьмярдзіць"* – па выразе Бяляцкага), але дзесяцігоддзямі абіраюць жыць у іншых месцах. Калі іх у Гомель, канешне не выціснуць, як Мікалая Румянцава. А так: ад Уцёсава і да Сярогі (які "Чорны бумер") "раз'язджаюцца хто куды"…

Вяртаемся да нашага героя.

У лісце да Алеся Бяляцкага ад 10.01.1984-га Сыс піша: *"Алесь, я нават ня ведаю ці змагу я ўліцца ў "Беларусы". Я – эгаіст… хачу прыгожа жыць. Ці не затрымаўся я ў дзяцінстве."*

Тады шчэ ён меркаваў паспрабаваць ісці ўласным шляхам, незалежным ад супольнасцяў, груповак,





У мяне быў запланаваны цягнік на Гомель. А шчэ трэба было аддаць у "Нашу ніву", рэдакцыя якой тады месцілася побач з вакзалам, дыктафон. Анатоль запрашаў заставацца на ноч, але тое мне было ні для чаго – я верыў, што ў Гомелі мяне чакаюць… Сыс узяўся мяне праводзіць.

Калі Анатоля ўжо не будзе ў жывых, я слухаючы той запіс 99-га выразна пачуюў запрашэнні мяне заставацца ноткі адчаю: Сыс баяўся самоты. І таму, верагодна, быў навязлівым у пэўны перыяд жыцця…

У трамваі мы нядоўга працягвалі размову на дыктафон, затым стала зразумела, што вакольны тлум нармальна расшыфраваць сказанага не дасць. Паразмаўлялі без дыктафона. Сыс настойліва прапаноўваў на колькі хвілін заскочыць у рэдакцыю часопіса "Полымя" ля Плошчы Перамогі, маўляў, шчэ нармальна паспеем, калі пасля на мэтро.

Заскочылі. Сябра Андрэя Федарэнкі на месцы не аказалася. Галоўрэд Законнікаў, да якога Сыс упэўненна рушыў у кабінэт, раздражнённа амаль выштурхаў Анатоля – маўляў, у мяне там замежны госць (ці то немец, ці то швэд – не памятаю – А.М.).

З такімі бескантактнымі вынікамі даехалі з Сысам да прывакзалля і рушылі ў "Нашу ніву". Там, апроч заўсёднага складу, аказаўся і Дубавец. Паставіўся да нас, штось падобнае, як да зубнога болю – выхавана, але без імпэту (што нядзіўна, калі ведаць пра іх ранейшыя з Анатолем сутычкі). Астанія прысутныя, праявілі салідарнасць з Дубаўцом, прынамсі, знешне.

Пакінуўшы дыктафон для Адамовіча, мы панесліся да платформаў. І пабачылі хвост адыходзячага патрэбнага мне цягніка…

І тут Сыс, самаахвярна,у цесна набітым тады шчэ старым будынку касаў з доўгімі чэргамі да кожнай, нейкай неспасцігальнай для мяне моцай пераканання

***апрацавалі… Нават калі я загіну ў гэтым свеце, дык гэта ці лі маці, ці лі сёстрам, ці лі пляменніцам застанецца, ці лі Тані пляменніцы застанецца. Кажу абы што… (чутныя гукі руху трамвая)***

***М: Рагін за цябе вельмі перажывае, я з ім сустракаюся кожны тыдзень.***

***С: Валера?***

***М: Аўген.***

***С: Яўген, так? Учора мы з ім паздароваліся, сігарэтаў папалілі. Чуеш, калі я працаваў у газэце (іншыя зайздросцяць камусьці, там, супернікі), а мы як працавалі ў Ветцы ў адной газеце… Я ж не ўрубаюся ў гэта, ён мне дапамагаў, чуеш?***

***М: Ён жа маладзейшы, нават?!***

***С: Ён мне тлумачыў, як, што. Ён малайчына. Добра кажу, так. Але хай будзе так. Прыгожы чалавек. Яшчэ Міша са мной вучыўся на гістарычным факультэце, працаваў у газэце. Як яго завуць? Разам з Рагіным, са мною. У мяне самы лепшы ўспамін пра Ветку, гэта як было пахаванне стралы і як мы па жыце качаліся з Валяю, з Ларысаю. Лапін. Яшчэ як ствараў Шкляраў музэй гэты – дык ён нікога не дапускаў да сябе. А мне паверыў. Дык я заўсёды пасля працы да яго прыходзіў – і ён мне (яшчэ музею не было) ўсё расказаваў, паказваў, ну як дома. Алега ведаю, я ж яго направіў у Рыгу вучыцца. Гэта ж я ўсё зрабіў, а ён не давучыўся. Андрушка Гуцаў давучыўся. Андрэй да мяне як прыязджае ў Мінск. Мы ж тады Андрэя ад “Тутэйшых” адправілі ў Рыгу і Чыжа Алега, ці Чыжа. А маторам ў “Тутэйшых” быў Бяляцкі. Бяляцкі – малайчына, я люблю гэтага чалавека. Я быў душою, а ён быў целам “Тутэйшых”.***

***М: Ну давай трошкі пройдземся!***

***С: Што выходзім?***

***М: Да, да “Нашай Нівы”.***





**палітыкі… Але нядоўгія спробы рухацца так пасля войска засведчылі бесперспектыўнасць для паэта Сыса індывідуальнага шляху.**

**Між тым, Бяляцкі (пра яго з войска, з павагай, Анатоль напісаў да іншага сябра: *“Штосьці, відаць, з яго будзе. Мне б яго настойлівасьці… Бяляцкі – аднаверац. Трымайся яго. З ім не прападзеш, але гора цяпнеш”*, які ў 84-м скончаў Гомельскі ўнівер, ужо тады, у запісах для ўласнага карыстання звязваў з Сысам вялікі спадзеў на будучыню:**

***“…расьце Вялікі паэт, па магчымасьцях сваіх, па таленце… ён больш, чым рэаліст… калі адным словам – сюррэалізм. І ў яго ён ужо ярка індывідуальны.”***

**Месца свайго ярка-індывідуальнага сябра-сюррэаліста настойлівы Бяляцкі бачыў менавіта ў *супольнасці* свядомых беларусаў, пашырэнне і ўзмацненне якой меў сваёй мэтай.**

***

**Канец службы быў азначаны для Анатоля удзелам у маштабных вучэннях войскаў краін Варшаўскага блоку “Дружба-84”, якія, насамрэч, дэманстравалі не сяброўства, а здольнасць савецкай сыстэмы паграseverжаць астатняму свету ў новых умовах.**

**Паўтара халодных месяцы, пачынаючы з лютага, давялося правесці ў намётах на неспакойным паветры і, часам, у халоднай вадзе...**

## Пасля войска. Прыступкі “кар’еры”

**У аповесці Ўладзімера Арлова “Танцы над горадам”, ёсць эпізод, дзе апісваецца вяртанне Анатоля Сыса з войска: *“Памятаю, калі ён вярнуўся з вайсковай службы, якую называў катаргай, мы сустрэліся ў агульнага сябра, і Паэт, цвярозы як слязінка немаўляці, ноч навылёт***

***чытаў нам вершы – улюбёныя і ўласныя. Ягоныя часта гучалі мацней: ім яшчэ не ставала дасканаласці, ды тое кампенсавалася магутнай энергетыкай і выразным пульсам паэтычнай стыхіі. Узрадаваны такім адкрыццём, пад раніцу я заснуў, але Паэт бесцырымонна раскатурхаў мяне і працягваў дэкламацыю”.***

**Той эпізод Арлоў узгадвае і ў дакументальных “Імёнах свабоды”: сустрэча адбывалася на кватэры Вінцука Вячоркі ў Зялёным Лузе у Менску. Арлова Сыс знаў па Каралішчавічах-81, а Вінцук быў адназначным моўным аўтарытэтам для гомельскіх сяброў Анатоля.**

**Зняверaны доўгай адсутнасцю ўдзячных слухачоў і сведчаннем пра сябе ў друку, Сыс адчуваў вялікую сымпатыю да гэтага, хай сабе пакуль і невялічкага асяродку Беларусаў. Тут яго прымалі і цанілі, такім які ён ёсць. Яго прымала Сталіца!**

**Натхнёны, ён завітаў да старшыні саюза пісьменнікаў БССР Ніла Гілевіча (размаўлялі, узгадваў Сыс, *“пра Гомель, пра ўсё”* і пра Алеся Бяляцкага з яго будучым паступленнем у аспірантуру), пазнаёміўся з буйным літаратуразнаўцам Міхасём Тычынам. Мінскія сустрэчы Анатоля радавалі, але работу шукаць давялося ўсё ж у Гомелі. Пакуль шукаў, начаваў у сяброў у студэнцкім інтэрнаце Гомельскага ўнівера.**

**Увёсну 84-га Анатоль падрыхтаваў сцэнар радыёперадачы на Гомельскім радыё са сваімі вершамі. Ці прагучала яна ў эфіры? Ня ведаю.**

**Увосень Сыса прынялі на працу ў веткаўскую раёнку «Перамога Кастрычніка”. У сельскагаспадарчы аддзел. Як узгадваў тагачасны загадчык тога сяльгасаддзелу Яўген Рагін *“Тэлефанаванне ўвечары: “Я беларускі паэт Анатоль Сыс, хачу ў вас працаваць”.***

**Па словах Рагіна, Анатоль вызначаўся “уседлівасцю ды адказнасцю”. Неяк на паэта скінулі работу за якую аніхто не хацеў брацца з-за яе безперспектыўнасці:**





***(Голас: “Следующая остановка – “Парк имени Горького”. Чутны скрып трамвайных дзвярэй, ляскат – трамвай набірае хуткасць)***

***С: (спявае) Ой – ёёё-ёой!***

***М: Нармальна. Дваццаць…***

***С: Якіх дваццаць? Та-ак: пяць, дзесяць, пятнаццаць, дваццаць. … Мы… Калі Дынько будзе, дык мы цябе правядзем разам з ім да цягніка.***

***М: Ты яго ня ведаеш, а ўжо кажаш…***

***С: Ну калі мне Пушкін тады… Я гэтаму чалавеку веру… (Нейкі час чутны ляскат трамвая) А калі ты наступны раз прыедзеш?***

***М: Наступным тыднем.***

***С: Адразу Але звані! Пераначуеш. І можаш жыць у мяне. У мяне яшчэ ватняя коўдра ёсць. Ты будзеш на маім ложку спаць, а я ватнюю коўдру на палах расцялю. Ты нікуды не ідзі, не набівайся. У Сыса будзеш. Толькі гітару вазьмі. Я табе пакажу, як пішу вершы. Я калі пішу вершы – дык у мяне істэрыка. Я плачу, я смяюся. Трэба пабачыць. Скрытая камера была б, і гэта ўсё зняць, а я прасіў у Адамовіча, каб ён даў яшчэ адну касэту. Што такая маленечкая і хапае?***

***М: На 90 хвілін. Адзіная праблема, што не на кожным магнітафоне паслухаеш яе – трэба перавадзіць. А дыктафон – гэта такая вельмі зручная рэч, у руцэ змяшчаецца.***

***С: Во (закашліваецца) Чарнобыльская паліклініка, я тут зарэгістраваны. Мне трэба ў яе сходзіць, чуеш, яшчэ раз праверыцца.***

***М: Дык ты прапісаны ў Мінску?***

***С: Што?! Ты дурны, ці што? У мяне хата прыватызаваная. Ты ж быў у хаце. Гэта я, думаю, шчэ куды патраплю, хату адбяруць, дык мы з Валяй узялі***

***Багдановіча ёсць песня: “Гукі трамваеў…” – памятаеш, так?***

***М: (неразборліва)***

***С: “Гукі трамваеў” у Алеся Камоцкага быў альбом. Глёбус гарадскія песні ўсё піша. А хоць бы хто… (гукі травмая) Вось, як ты думаеш, дазволіць Глёбусу афармляць “Лён”? Ён жа шалапякаў сваіх намалюе, я не люблю гэтага. Не дазваляць? “Агмень” аформіў мне. А можа Федзю Кашкурэвіча папрасіць?***

***М: Старэйшага Кашкурэвіча?***

***С: Федара. Сына.***

***М: Тодара?***

***С: Так. Глёбусу не даваць? Кажы. Як скажаш, так і будзе.***

***М: У мяне няма. Мне падабаецца ў Глёбуса то што ён піша. То што ён малюе – індыферэнтна.***

***С: Я называю – шалапякі.***

***М: Кашкурэвіч мне больш падабаецца як мастак.***

***С: Скажу, Валодзя, чуеш, мне Андрэй Мельнікаў казаў, што Федзя мне афармляў “Пан Лес”, мне Андрэй Мельнікаў сказаў, каб ён аформіў “Лён”. Быццам бы там налёпана-налёпана. А ты ўгледзься – вочы знайдзі. Там – вочы! “Пан Лес” гэты -- Бог. Мы ў лес заходзім і нічога не бачым, а ён за намі сочыць. Ты ўгледзься трошачкі, знайдзі вочы! Я Федара завёў у кнігарню “Дружба”, замежныя выданні. Кажу: “Вось прыкладна так-так-так мне падабаецца”. І ён аформіў мне “Пан Лес” так, як я хацеў. Дома ёсць? Паглядзі.***

***Вочы там знайдзі на вокладцы. Ну добра тады. Трэба яго выванiць. Няхай Федзя будзе. Мы з ім так дружылі, так дружылі. А як мы з ім пазнаёміліся! Прыедзеш наступным разам -- не забудзь у мяне папытацца, як мы з Федзем пазнаёміліся, гэта…***





***“прымусіць пазаштатнікаў (загадчыкаў мехдвароў і гаражоў, старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў) падрыхтаваць серыю публікацый пра інжынерныя рацыяналізатарствы ды вынаходніцтвы… Думалі, дуба дасць паэт. Але… Сеў Толя ціхенька за тэлефон і штосьці з тыдзень нудна мармытаў у слухаўку. А потым з месяц цягнуліся да яго сугнеістыя дзядзькі ў драпавых палітонах з зашмальцаванымі партфелямі, перадавалі стосікі камечаных спісаных папер…серыя артыкулаў падалася тады вельмі годнай ды разумнай…”***

**Рагін з Сысам разам *“боўталіся па раёне, бралі інтэрв’ю ў даярак ды камбайнёраў, бегалі ў знакамітую нашую кнігарню, багатую на дэфіцыты…***

***Быў тады Сыс… ціхмяным, крыху дзіўнаватым, не курыў і чарку амаль не браў, размову з любым незнаёмым пачынаў з фразы: “Што параіш пачытаць?”***

**Веткаўшчына да Чарнобыля была цудоўнай мясцінай для адпачынку. Лясы, пляжы… У самой Ветцы дбайна назапашваў экспанаты на будучы легендарны музэй краязнаўца-энтузіяст Фёдар Шкляраў…**

**Было адносна недалёка ездіць да бацькоў і адносна лёгка друкавацца ў раёнках кшталту “Камуніста палесся”.**

**Была магчымасць і друкаваць свае вершы і дапамагаць друкавацца ў “Перамозе Кастрычніка” Эдуарду Акуліну, які з Веткаўскага раёна і паходзіў…**

**Але хацелася непараўнальна большага.У тую ж восень у Гомелі Бяляцкі пазнаёміў Сыса з Сяргеем Дубаўцом – сябрам Вінцука Вячоркі, тэарэтыкам, ідэолагам і ў значнай ступені рэжысэрам таго маладзёвага беларускага Адраджэння, буйныя практычныя ролі ў якім было наканавана адыграць і Бяляцкаму і Сысу.**

***

**У снежні 1984-га ў Смольні ля Мікалаеўшчыны – малой радзімы апостала беларускай надзеі Якуба Коласа – Сыс бярэ ўдзел у стратэгічнай нарадзе прадстаўнікоў моладзевых беларускіх арганізацыяў. Гэта яго дэбют на ўсебеларускіх падпольных сходках, і тут ён адчувае сябе, нават, лепей, чым у літаратурных Караліщчавічах. Там – людзі імкнуцца давесці сваё першынство, тут – усе свае, ці прынамсі, пакуль так выглядае. Палітыка робіцца каханнем Анатоля на некалькі, магчыма, лепшых яго гадоў.**

**Напачатку студзеня 1985-га Сыс едзе шукаць работу і жытло ў Мінску… Невядома, колькі б тое працягнулася, але на дапамогу прыходзіць клапатлівы Шніп. Знаходзіць Анатоля сярод наведвальнікаў выставы ў Палацы мастацтваў, тэлефануе на тэлебачанне, дзе даведваецца, што ёсць месца…**

**Так Анатоль атрымвае работу на тэлебачанні. Праўда, ня творчую – яго пасада завецца тэхнік. Затое даецца пакойчык у інтэрнаце велазаводу на вуліцы Авангарднай,61.**

**Работа аказваецца не асабліва напружнай, ды яшчэ і дае магчымасць раз'язджаць па Мінску, знаёміцца з новымі людзьмі, мацаваць ранейшыя знаёмствы…**

**У службовыя абавязкі Сыса ўваходзіла тры разы на тыдзень праехацца па ўстановах, дзе ПТС (перасоўныя тэлевізійныя станцыі) збіраліся зрабіць запіс, скласці дамову, а ў дзень запісу пракантраляваць, каб тэхніка была падключана і разлічыцца з электрыкам.**

**У тэхнічным аддзеле БТ, апроч Анатоля, працавалі два адстаўнікі. Напачатку месяца, пры размеркаванні планаў яны звычайна выбіралі сабе для здымак дзяржаўна-партыйныя мерапрыемствы, а Сысу даставаліся мастацка-спартыўныя. Чым кепска?! І спорт і мастацтва паэт любіў…**





***як засякаў – дваццаць пяць хвілінаў. А хто, Дубавец там сядзіць? Дык можа мне з табой паехаць?***

***– Ты сам глядзі.***

***– Можа там Адамовіча якога… Во – маці мая. (неразборліва) Во – мы каля маёй хаты. (неразборліва, затым, як металічны скрып)***

***– Спыняю ход.***

***– Можа сапраўды мне паехаць?***

***– Глядзі сам. Я не ведаю: дарэчы ты там будзеш, недарэчы…***

***– (неразборліва) Тады можа ў «Крыніцу» заедзем? …там працуе… Ён мне бел-чырвона-белы значак падарыў. У яго была вечарына ў Доме Літаратараў. Вера Палтаран вяла вечарыну. І на вечарыне ён мне падарыў бел-чырвона-белы значак.***

***(Працяглая паўза з рэдкімі і нягромкімі шумамі, затым неразборлівы тэкстам голас Сыса) (ізноў даволі працяглая паўза, падобна з адключэннем дыктафона, а затым новае ўключэнне)***

***– Навучыўся карыстацца трошачкі? Ілі ізноў не так урубіў? О, бачу, круціцца, круціцца… Але нам нада на метро выйсці і мы хутчэй тады будзем. Колькі?***

***– Сорак чатырнаццаць.***

***С: Няшмат, але паспяваць – паспавяем. А не – здасі білет.***

***(чутны гук трамвая па рэйках)***

***М: Я ведаю, што зараз…***

***С: Спакойна. (ізноў працягла гукі трамвая па рэйках) Што, урублены матафон, або?.. Давай яшчэ. Мы – гукарэжысёры. Гукі горада. Чуеш? Можа калі фільм будзем здымаць, дык патрапіць табе чаво. Ну а на хвоне тралейбусаў, трамваеў, як у Алеся Камоцкага Максіма***

*самасвале прыехалі – на кузаве – чалавек пятнаццаць… На Кірава эта, ведаеш? За Шклоўскім этым паркам, дзе могілкі… Значыць, ты ня з Гомлі.*

*– А, ты пра Гомель кажаш!*

*– Ну… Во мой клас. У 86м…*

*– Калі яшчэ…?*

*– У мяне ж клікуха ў войску была – Дзед. Я ж набраў у хозузвод усіх беларусаў. Звычайна армяне ўсё гэта ўябляюць… А я сабраў усіх беларусаў… Батальён эвакуіраваў… Інжынерныя войскі. Такая: па Одэры сярод зімы крыгі плывуць. А я плаваў. Пантон не раскрые – і ў воду, у рэку прама кідаесся во так во. Усе кідаемся і раскрываем пантон – нераскрыты пантон раскрываем. Нашы гавораць не чэмадан, а чэмайдан… Шостага кастрычніка… Я скончыў універсітэт… Што за вучыцель у войску?… Ну што? Час! Час выбраў нас. Час выбраў. Дык куды табе трэба ехаць?*

*– На Гомель.*

*– Сёння? Эх! Я пераживу. На Вольге перадай! Ты перадай. Я яе можа пабачу, а можа і не пабачу. А ў колькі ты едзеш? У колькі? У шэсць? Ну ад мяне ехаць… Ты адразу ад мяне едзеш? І куды?*

*– Заскочу ў «Нашу Ніву»…*

*– Дык ты ж не паспееш…*

*– Яны ж там побач.*

*(Гук невялічкай колькасці вадкасці, якая заліваецца ў шклянку)*

*– А дзе гэта "Наша Ніва"? (Двойчы кашляе) Мяжа паміж дрыгавічамі і радзімічамі праходзіць праз Днепр…*

*– І з тога боку.*

*– Я не ведаю. А квіток у цябе ёсць? Эта ў 18.05? Ад мяне да вакзалу ехаць максімум трыццаць хвілінаў. Ну я*





**Шніп паступова знаёміў Анатоля з новымі і новымі асобамі беларускай літаратуры: Бембелем (пазней Анатоль назаве яго сваім настаўнікам), Скоблам (пазней Анатоль будзе надта сур'ёзна ўспрымаць Міхасёвы парады), Гарадніцкім… Удваёх яны хадзілі да Глёбуса ў майстэрню, каб паказаць таму рукапіс будучага зборніка "Агмень". Па ўспамінах Шніпа, *"З усяго рукапісу… Глобус пахваліў нейкую пару вершаў. Сыс заплакаў… Пазней мне Глобус казаў, што рукапіс вельмі сыры і слабы, а да ўсяго – з Сыса нічога асаблівага не будзе (выдасць пару кніжак, і ўсё) і закончыць ён вельмі дрэнна…"***

**Кепскія для Анатоля ацэнкі яго паэзіі, падштурхоўвалі на грамадска-палітычную сцэну – настолькі, наколькі лічылі дарэчным тое яго больш абазнаныя ў грамадстве ды палітыцы сябры. Такой грамадска-палітычнай з'явай было, напрыклад, адзначэнне гадавіны дня народзін Янкі Купалы ля яго помніка ў парку 6 ліпеня. Там можна было і вершы пачытаць голасна перад дзясяткам слухачоў (сёння ў Беларусі гэта было б расцэнена як несанкцыянаваны сход і пацягнуць адміністратыўную адказнасць са штрафамі, а можа і суткамі) і кветкі ад сябе ўсклaсці…**

**У сярэдзіне 85-га зборнік "Агмень" (тады шчэ пад умоўнай назвай "Краіна верасоў") паставілі ў план выдання бібліятэчкі часопіса "Маладосць" на 1988 год. Гэта можна было лічыць поспехам. Глёбус раіў Сысу сядзець ды пісаць далей, маўляў, больш карысці будзе. Але, ірвалася душа паэта Анатоля да публічнасці! Хоць і пісаў ён тады сябру Бяляцкаму, якога прызвалі ў войска *"у апошні час акрамя футболу не хачу ведаць нічога"* – такія "апошнія часы" ў Сыса, насамрэч, былі непрацяглымі…**

**Напачатку кастрычніка 85-га на прэзыдыюме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Сыс быў афіцыйна ўзгаданы сярод маладых, побач з Глёбусам. І**

тое можна было лічыць поспехам. У тагачасным СССР любыя афіцыйныя ўзгадкі рабіліся ў адпаведнасцю з ярархіяй і перспектывамі, таксама як і далейшыя, магчымыя няўзгадкі. Але для Сыса пачынаўся час *рэгулярных афіцыйных узгадак* – тое, пра што ён марыў у войску з меркаваннляў “палітыкі”.

У 1986-м Анатоль *афіцыйна* дэбютаваў падборкай вершаў у №4 часопіса «Маладосць».

***

Далейшыя асноўныя падзеі ў жыцці Сыса апісаны шматразова і з розных бакоў. Таму далейшы аповед пра паэта можна бадай, весці, праз многія этапы, як той казаў, пункцірам. Ітак…

Анатоль робіцца адным з самых заўважных у мінскай “Талацэ”, бярэ ўдзел, бадай ва ўсіх яе імпрэзах і, бадай, ва ўсіх намагаецца выглядаць лідарам, што яму, збольшага, удаецца.

Анатоль піша аб’ёмны артыкул да 80-годдзя Сяргея Новіка-Пяюна і яшчэ шэраг артыкулаў.

Анатоль удзельнічае ў адкрыцці музэя Паўлюка Багрыма ў Крошыне Баранавіцкага раёна; выступае ў друку па праблемах багрымазнаўства…

У канцы 1986-га вяртаецца з войску Алесь Бяляцкі, паступае ў аспірантуру і атрымвае пакойчык у інтэрнаце ля Акадэміі Навук, па адрасе: вул. Акадэмічная, 3, дзе неўзабаве утвараецца напаўпадпольнае-напаўлегальнае, пакуль, аб’яднанне “Тутэйшыя”

## Сыс і “Тутэйшыя”

Большасць успамінаў пра “Тутэйшых” сходзіцца на тым, што на першым іх паседжанні было шэсць чалавек. Старшынём стаў Бяляцкі. Сысу была даверана паэтычная частка і роля, як цяпер





*– Сяржука ведаеш?*

*– Так.*

*– Дык яны ж у мяне тутака былі колькі разоў. Гэта я ў іх у хаце быў, дык (неразборліва). Таксама на мове размаўляе. Некалькі разоў быў у яго ў хаце… Карацей, я ведаю ўвесь свет і ён мяне ведае… Гэта – я. Валя пашпарт падмалявала… Гэта я ў Ветцы. Гэта я хацеў Вользе аддаць. Во Валя. Во – Рагін. Як я працаваў у Ветцы ў раённай газэце, дык мы з Рагіным ездзілі. Во я сяджу інтэрв’ю з дзедам запісваю. Гэта Рагін. Гэта Ігар. Пракаповіч, Пракаповіч. У прынцыпе, яны… Яшчэ Кавалёў быў, ён таксама з беларускага факультэту, ён у іх барабаншчыкам. Я ня ведаю, дзе ён падзеўся? Ты не ведаеш Кавалёва? Ён пісаў таксама трошачкі.*

*– А лідэрам у іх быў Бяляцкі ці Акулін?*

*– Лідэрам? Гэта трэба ў іх запытаць. Можна сказаць, яны абое. Абое рабое… Максім Лужанін. Гэта ў Гомелі. Гэта Скоблы. З архіву… З архіву Максіма Лужаніна перадаў Міхась Скобла. Я быў у Максіма Лужаніна, дык Лужанін… А эта ў Гарошкаве… праводзілі – 84ры. Ноччу гулялі. Пад вечар як прыходзіў, дык там гарэлкі шмат… Танцы былі. Гэта я. Гэта брат старэйшы. Старэйшы.*

*– А Сяргей Сыс?*

*– З суседняй вёскі. Чуеш? Мой прадзед з Заспы, адкуль Ліпскі, і адкуль Сяргей Сыс. Гэта ў нас адзін калхоз “Савецкая Беларусь”. Дык можа мы яго шчэ… Во, мы ў Ісiачы. У Ракаў з’ездзілі: гарэлкі набралі, закускі… Во – Андрэй Федарэнка, во – Оль(неразборліва). Во – я, во – Скобла, во Сяргей Кавалёў, во Эдзік… На Маскву ездзілі.*

*– А дзе Сяргей Кавалёў работае?*

*– Ай ня ведаю! Нядаўна… Ох, як мы тады пагулялі! Мы пахерылі ўвесь гэты… кілішкі іхныя… во – мой брат… А гэта на Кірава – як я вучыўся ва ўніверсітэце – гарошкаўцы ездзілі туды на самасвале. Чуеш?… На*

***друкавалі. Ноч, 18 сакавіка.***

***Дзяўчына з вачыма колеру піва,***

***калі я ад смагі канаў,***

***цыцкою сваёю мяне адпаіла,***

***паслала пасцель,***

***перад гэтым памыла,***

***прылегла са мною,***

***цнатлівасць згубіла…***

***Я пальцам яе не кранаў.***

***– Я яйцам яе не кранаў, можна і так, калі хочаш урубіцца. Але яна ўсе адно цнатлівасць згубіла!***

***– Я не ўрубаюсь.***

***– А, надаела! Гэта як кажуць беларускія нацыяналісты, мэтахвары. Я ж пісаў дыпломную - “Версіфікацыя Максіма Багдановіча”, а папытайся ў мяне, што такое ямб, што харэй… Я быў мужык, а гэтыя як бы … Я тады адзіны ва ўніверсітэту ва ўсім размаўляў па-беларуску. Тады мне далі клікуху Белая Варона. Эдзік Акулін з Бяляцкім смяяліся. А калі я пісаў этую дыплёмную, чуеш, Эдзік і Бяляцкі, , ўсё мяне пад’ябвалі. У мяне была такая фраза: “У чым соль санэта?” Яны ўсё, як мяне сустрэнуць – ні здароў ні пацалуй у сраку – “У чым соль санэта!?” …быў такі. Я ім падарыў такія во… Мне матка перадала бульбу, сала. Чалавек прывёз. Дык а прыехаў… Дык у яго ў хаце начаваў. У Эдзіка ж машыны не было… А во ў Рэчыцы. Тады, як ён у мяне быў. Я не хвалюся. Я сапраўды і Эдзіка ў літаратуру прывёў і Бяляцкага. Усіх на свеце.***

***– Яны да цябе па-беларуску не размаўлялі?***

***– Во, Міра Лукша. Валя малявала. Андросавы?! Эта ў “Сотвары” раздрукоўвалася.***

***– Я ведаю яго добра.***





**прынята казаць, спікера. У адрозненне ад “Талакі”, якая “спецыялізавалася” ў значнай ступені на фальклоры і традыцыях, некалькі аддзяліўшыя сябе ад яе “Тутэйшыя” меркавалі прысвяціць сябе шчэ і надзённым пытанням беларушчыны й літаратуры.**

**Ад пачатку быў у “Тутэйшых” і свой куратар-ідэолаг-шэры кардынал-складальнік у далейшым ільвінай долі яе “Маніхвэсту”. Ён на паседжанні супольнасці не завітваў, бо жыў тады разам з жонкай у Гомлі, але пільна назіраў за дзейнасцю свайго ў вялікай ступені “дзецішча”. Сяргей Дубавец, даўні і некалькі старэйшы сябра “моўнага аўтарытэта” Вінцука Вячоркі.**

**Пад час “Тутэйшых” у Анатоля Сыса сталі заўважаць рарітэтны тады расійска-крыўскі слоўнік Вацлава Ластоўскага (у 1990-м у Беларусі слоўнік перавыдадуць і ён перастане быць рарытэтам), які ці не да канца зямнога жыцця стаў галоўнай кнігай у яго бібліятэцы, у чымсці падмяніўшы і “Біблію”. Менавіта з яго, перадусім, Анатоль абагачаў сваю лексіку, з яго ўзяў назоў для свайго зборніка “Агмень”.**

**Напаўпадпольнасць “Тутэйшых” праяўлялася ў тым, што на іх паседжанні запрашаліся адно “праверанsocial” людзі, на якіх ускладаліся нейкія нацыянальныя, перадусім, спадзевы. Пра напаўлегальнасць сведчыў той факт, што пра існаванне супольнасці вельмі хутка даведаўся старшыня Саюза Пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч, вельмі моцна раскрытыкаваў назву і вельмі параіў удзельнікам прачытаць аднайменную п’есу Янкі Купалы.**

**12 лютага 1987 года “Тутэйшыя” і прысвяцілі чытанню забароненай тады цэнзурай п’есы Янкі Купалы пра саміх сябе 20-х гадоў выдання.**

**Дакладней, усю п’есу адразу за паседжанне адолець было немагчыма, абышліся некалькімі кавалкамі, ды сталі абмяркоўваць уласную назву – а ці варта змяняць?**

**Саманазва ўжо была звыклай, падабалася. Адпаведна, знайшліся аргументы каб з ёю і застацца.**

**А пасля, 21-га, яны ўпершыню сабраліся пад дахам Дома Літаратара. Па ўспамінах Алеся *Аркуша “З гэтага паседжаньня й пачалося… Глёбус сварыўся з Сысам, кожны бок ведаў, як і што пісаць, і даводзіў сваю рацыю… Гэта было камэдыйнае супрацьстаяньне. І зараз цяжка патлумачыць, за што паміж сабой змагаліся гэтыя два лідэры – адносіны між імі часам межавалі з мардабоем. Рэч ў тым, што ніхто зь іх не прэтэндаваў на кіраўніцтва «Тутэйшымі», безальтэрнатыўным кіраўніком быў Бяляцкі. Кожны з супернікаў меў ўласныя перакананьні й свае каманды падтрымкі, у нейкім сэнсе, гэта было «ідэалягічнае» супрацьстаяньне. Сыс узначальваў «патрыётаў», Глёбус - «касмапалітаў»…Сыс часта патасна казаў пра любоў да Радзімы, пра змаганьне за Беларусь. Глёбус – пра прагматычныя рэчы (трэба пісаць дэтэктывы, маляваць коміксы, ствараць мас-культуру). На паседжаньні 21 лютага паміж Сысам і Глёбусам усчалася сварка наконт «Маніхвэста «Тутэйшых». Вядома, Сыс патрабаваў больш радыкальнага зьместу…”***

**Карацей, каму цікава болей пра “Тутэйшых” – звяртайцеся да напісанага Алесем Аркушам. І ёсць шчэ з дзесятак пярсонаў, якія пра “супольнасць Т” пакінулі свае ўспаміны.**

**Аўтара ж гэтай кнігі ў “Тутэйшых” не было. Хіба, што магу ўзгадаць як больш чым пра дзесятак гадоў пасля Домлітаратараўскіх разборак унутры “Тутэйшых” для многіх Сыс з Глёбусам будуць выглядаць бацькамі-заснавальнікамі аб’яднання і легенду тую здзекліва абыграе ў постмадэрнісцкім нумары часопіса “ARCHE” Андрэй Дынько, узяўшы для артыкула пра Адама Глёбуса псеўданім Эва Сыс.**

**Можна сцвярджаць: у аб’яднанні Глёбус быў для Сыса і галоўным крытыкам і галоўным апанентам. Аўтар патэтычнага “Божа, забяры маё жыццё”, ён шчэ**





***І таму, як памру – закапайце ў палескую гліну.***

***жыць хачу, землякі, і легенду***

***аддам задарма,***

***а за тое, што жыў, —***

***пасадзіце ў нагох арабіну.***

***Так у рыфму патрапіў, Адно дрэўца пасадзіце. Ну якая розніца? Бярозку можна, можна клён. У мяне каля хаты кляны растуць. (Ціха) За што? Ці за каго? Ці лі як?.. Мо-ры-на. Так, канфетаў мы і не купілі. У Гарошкаве кажуць не “катлеты” а… два варыянты: кантлеты альбо каклеты…***

***– Цікава***

***– А хто там сапраўды ў мяне браў інтэрв’ю? Добра што зайшоў. Адамовіч гэта інтэрв’ю не пачуе? Алесь Наварыч, Алесь Асташонак, Мікола Сцепаненка. Усе мае сябры. Я нават не магу ўспомніць як мы пазнаёміліся, але мне здаецца – усё жыццё. Я ўчора быў у Міколы. Ён, мабыць у бальніцу лёг ужо, будуць разрэзаць там корань. Разразаць. На працы не было.***

***– А кім ён там?***

***– Ну ў аддзеле нарысаў. Гомельскі універмаг. Зараз мы з табой пра піва размаўлялі.***

***– А такіх персанажаў, як Гарэцкі?***

***– Ведаю ўсіх. Масляніцына з Багадзяжам пішуць выбітныя кнігі, выбітныя. Я не ведаю як кажуць па-беларускі. “Постаці”, ну “Жанчыны Беларусі”, так? Дык у “Звяздзе” я нарыс чытаў пра Барбару Радзівіл. Яна была самя прыгожая жанчына. І летапісцы, яе сучаснікі, пра яе ў гэтых сваіх летапісах пра яе пісалі, што жанчына, вельмі прыгожая жанчына, з вачыма колеру піва. Гэта я пра піва. Усё ж такі не да піва – я знаю. Я нідзе тое шчэ не друкаваў гэты тэкст. Тут мяне гэты вобраз уразіў. Вочы колеру піва. Дык я напісаў такое… Нідзе тое не***

*у Разанава ёсць паэма…? Не чытаў? Гэта было… Можа тут дзе? Ну дык, усе ходзяць, ходзяць… А Разанаў напісаў паэму. Кніга называецца. Бл.ць! А я сяджу ў хаце, п'ю, п'ю і п'ю, думаю: што за кніга такая?.. За.балі мяне гэтаю… Во - "Гліна". За.балі мяне гэтаю "Глінаю". Я нэ чытаючы гэтай паемы, набраўся сілы і напісаў сваю "Гліну". Прыходжу да Разанава, кажу, бл.ць, што ў цябе там напісана? А Алесь Разанаў – гэта мой у паэзіі духоўны бацька. Я ад яго трошачкі навучыўся. Ад яго, ад Някляева, ад Барадуліна, ад Янкі Купалы, ад Максіма Багдановіча – ад усіх навучыўся трошачкі пісаць! Ад Віктара Шніпа, ад Андрэя Федарэнкі – ад усіх. Кажу, дык, слухай! Кажуць у цябе якаясь "Гліна" ёсць, слухай, я напісаў таксама "Гліну". Я табе ўчора чытаў. Ну ладна. Бог з ім. Ну дык пачытаў я яму гэтую "Гліну". Тады ён даў мне сваю паэму. У прынцыпе, ён эта ў паэме напісаў, а я ў адным вершы – і ўсё сышлося! "Што ён хацеў сказаць?" "Што я хацеў сказаць? Дзякуй, Алесь, што ты е!" (Рэзка кашляе)*

*Як іду – дык у мяне мая скронь баліць,*

*а душа – уся ў балячка, бы вопратка сейбіта ў зернях.*

*Я памру. Але нендзу пакіньце сабе,*

*а дакучлівых вошай шукайце ў пакінутых цернях.*

*Ёсць прыгожыя словы, прыгожых паэтаў няма.*

*Ды вы іх беражыце, як маці апошняга сына.*

*Але, зрэшты, што зробіш, я ведаю – будзе вайна,*

*як адзін з вас сказаў пра жыццё: усё – гліна.*

*Па ёй птушка прайшла і закрэсліла руны крылом*

*Пэўна, нехта шчаслівы з пацехі параніў анёлка*

*Ёсць паэтка ў вас, яе рукі зрасліся з кайлом*

*во як праўду яна вушывала танюткаю голкай.*

*Ёсць агідныя словы. Агідных паэтаў няма.*





**і прафесійна маляваў і пісаў прозу і меў схільнасць да філязофіі, ня кажучы пра выразна гарадскія паводзіны. У супрацьвагу Анатоль мог прад'явіць толькі вершы ды гучны артыстызм, які не заўсёды выглядаў дарэчным і густоўным. Тым не менш, для пераконвання і сябе і іншых ва ўласным першынстве часам тога аказвалася дастаткова.**

**Бадай, менавіта з часу "Тутэйшых" Сыс *"пачынае ўсім і ўсяму рабіць выклік, а супярэчнасці, анамалію, надлом, ненармальнасць прымаць за норму, устойлівы побытавы стыль, такім дзіўным чынам падмацоўваючы слушнасць раней зробленых уласных, ды і трывала замацаваных літаратурнай практыкай высноў, аб горкай нядолі творцы, што мае звычай знаходзіцца сама"*(цытата з доследу аб ім Вольгі Шынкарэнкі). Але шчэ доўгія гады тыя разбуральныя праявы вырываліся з Анатоля ў адносна мізэрных дозах.**

**1 лістапада 1987-га на адноўлены дзень памяці Дзяды ля сталічнага помніка Янкі Купалы адбываецца найбольш значная грамадская прамова сацыял-рэвалюцыянера Сыса. Яна прысвечаная памяці ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Сыс упершыню за часы савецкай улады галасна агучвае прысутным прозьвішчы сотні рэпрэсаваных беларускіх дзеячаў, пісьменнікаў, палітыкаў…**

**Неўзабаве на радзіме памірае бацька Анатоля – Ціхан Цярэнцевіч.**

**16 мая 1988 года ў выніку актыўных перамоваў, пераважна з ініцыятывы Адама Глёбуса і пры падтрымцы многіх вядомых і ўплывовых пісьменнікаў нацыянальнага кірунку аб'яднанне робіцца Таварыствам маладых літаратараў "Тутэйшыя" пры Саюзе Пісьменнікаў БССР.**

**Цяпер многія лічаць, што разам з афіцыйным статусам, аб'яднанне пачало імкліва губляць сваю**

жыццяздольнасць і ўрэшце натуральным чынам сканала. Сыс прыпыніў у ім сваю дзейнасць “на год” незадоўга перад сконам “Тутэйшых”.

## Флагман Перабудовы і “Дзяды-88”

Амаль адразу пасля з’яўлення ў тыднёвіку “ЛіМ” 3 чэрвеня 1988-га з прадмоваю Васіля Быкава артыкула Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва “Курапаты – дарога смерці”, дзе лясны масіў на поўнач ад Мінска, дзе адбываліся масавыя растрэлы пад час сталінскіх рэпрэсій ўпершыню зваўся такім імя, Анатоль Сыс затэліў галоўрэду штотыднёвіка Анатолю Вярцінскаму і падрабязна таго пра Курапаты распытаў. Потым наведаў іх самастойна.

Прачытаць той даўні артыкул Пазняка і Шмыгалёва можна напрыклад на http://knihi.com/Zianon_Pazniak/Kurapaty.html#chapter2

Нягледзячы на ўжо афіцыйны статус “Тутэйшых”, прэзыдэнт акадэміі навук БССР, пісьменнік Іван Навуменка не дае аб’яднанню выступіць у актавай зале акадэміі і тым набывае ў асобе Сыса сабе ворага: паэт драматычна апісвае той эпізод карэспандэнту рускамоўнай камсамольскай беларускай газеты “Знамя юности» Алесю Ліпаю, які ў далейшым робіцца яго сябрам. Знакавае і вялікіх памераў інтэрв’ю бярэцца ў кастрычніку 88-га з нагоды даўгачаканага Анатолем выхаду яго паэтычнага зборніка “Агмень”, амаль увесь наклад якога, па словах газеты, раскуплены за некалькі тыдняў. Газета перабольшвае, ды на слова Сыса, і ня толькі паэтычнае, сапраўды, у беларускай сталіцы ёсць попыт – паэт асацыюецца з сапраўдным беларускім “флагманам перабудовы”, з якой людзі тады шчэ звязваюць вялікія спадзевы.

Ва ўзгаданым інтэрв’ю Сыс заяўляе: *“плачу… над страчанымі ці самаўхіліўшыміся пакаленнямі, над сваімі*





*(Свісток. Праз паўзу – шчэ адзін)*

*– А конь хай будзе мне, таму што самага першага каня знайшлі ў Гарошкаве на гарадзішчы, на маім гародзе (адкуль “Пагоня” пачалася)…*

*(Ізноў свісток)*

*– Самага першага глінянага каня знайшлі ў Гарошкаве. На маім гародзе. Матка мая знайшла. Працавала ў экспедыцыі прафесара Мельнікавай у 50-х гадох.*

*– (энергічнае мычанне разумення)*

*– А бацька ўсе гэтыя чарапкі адвозіў у Рэчыцу на самазвале на сваім. На цягнік – і ўсё ў Ленінград аддавалі. Назад адсылалі… Падарунак прыгожы?!*

*– Так. Добры.*

*(свісток)*

*– Гэта канец свету! (доўгія і шматлікія свісткі) Гэта… Мельнікаў! Для мяне гэта… Для мяне гэтая (неразборліва) даражэй золата. Чаму я яе табе падарыў, таму што ты яе заслужыў. Сапраўдны друг. Давай вуп’ем!*

*– Гэта ў вас так у Гарошкаве кажуць – “вуп’ем”?*

*– (крычыць) вуляць …з кукурузы! (далей сцішваецца) П’яць. М’яса. А ведаеш, як на атвёртку кажуць? Ваўёртачка.*

*– Ваўёртка (смяюся) – вельмі цікава.*

*(Чутна, як штось наліваецца і пара свісткоў)*

*– А я “Гліну” чытаў табе верш?*

*(Свісток)*

*– “Гліну” не чытаў?*

*(Ізноў свісток)*

*– (кашляе) Калі найдзёцца тая “Гліна”… Памятаеш,*

***мне чытаў свае вершы… Кажа: “Алесь, можна я верш напішу?” Ён кажа: “Можна, вядома!” Суша са мной пабеларуску размаўляў. Я кажу:”Алесь, тут кажуць пра цябе такое… Ты беларушчыну памятаеш?” Ён кажа: “Памятаю.” І яшчэ бывае, ён беларушчыне дапамагае.***

***– (энергічнае мычанне разумення)***

***– Да яго пад’ехаць, хай ён мне плоціць. Альбо – стыпендыю хай плоціць. Вершы напішу. Зараз я табе пакажу адчыняць як трэба. Ну-ка!***

***– А вось Андрэй Федарэнка, як вы з ім пазнаёміліся?***

***– 27-га! Я яго прывёў у літаратуру, я яго навучыў пісаць. …Але я заўсёды яго падзужваю, кажу: “Ху-ёва пішаш!” А ён … слухае, ён крытыку да сабе пагана ўспрымае. Не дай Бог, хто пра яго … слова скажа – ён ужо з гэтым чалавекам не размаўляе. Толькі Шыш яму можа праўду ў вочы казаць. Я заўсёды … ягоную прозу. Я – яго бацька ў літаратуры.***

***– А на тваю думку, чаму яго ў “Нашай Ніве” не друкуюць?***

***– Адкуль я ведаю?! Гэта іхныя справы! Нядаўна ў яго быў. Як да Дануты ехаў. Мы ў “Полымі” з ім і Кучмель… Да Скобл ы ў “Роднае слова” – там выпілі.***

***(Рыпенне. Дзверы?)***

***– (Радасна) Самы лепшы сябрук! Такі чалавек! Глядзі…***

***– Дзеці мне, пасля майго ўжо выступу, маленькія такія, чуеш? Ім па дзесяць гадоў самым маленькім і яны … Свістулькі мне падарылі… Я табе адную падару ю, добра?***

***– Добра.***

***– Выбірай! Глядзі… А Скобла: “Ня йдзі! Ня йдзі! Ня йдзі!” А я шчаслівы, што я пабыў тамака.***





***старэйшымі таварышчамі па пяры: Крапівою, Танкам, Панчанкам, Барадуліным, Стральцовым, Някляевым, над земляком Шамякіным…”, разважае пра “жахлівыя наркотыкі” “касмапалітызм… інтэрнацыяналізм, кар’ерызм, культ жывата ды задніцы…”, заклікае: “любіце нас такімі, як стварылі… маліцеся за нас – пісьменнікі, вучоныя, партыйныя работнікі – калі вы сапраўды любіце Беларусь”,* распавядае пра аб’яднанне “Тутэйшыя” і сваю там актыўную дзейнасць, у тым ліку пра паездку ў Львоў з рок-гуртом “Мроя”, пра зборнік “Агмень” і зададзеныя там пытанні, на якія, калі не адкажуць *тыя “каму па штату гэта трэба рабіць – адкажа сам народ. І так адкажа…”*, тлумачыць сэнс і вытокі сваёй творчасці, абгрунтоўвае неабходнасць трыбунных вершаў, запрашае прыходзіць 30 кастрычніка на мітынг “Дзяды” да ўрочышча Курапаты…**

**Львоўская паездка прыносіць вынікам дзясяткі затрыманых міліцыяй тамтэйшых пасля харызматычнага выступу Сыса ля помніка Івану Франко, дзе ён, змяніўшы канец свайго верша з “запалі прад Купалам свечку” на “Шаўчэнкам” выклікае і масавы ўздым і масавы “хапун”. Новыя ўкраінскія сябры пасп яхова выводзяць Анатоля ад небяспекі…**

**Заяўку на правядзенне стаўшага пасля знакамітым мітынга 30 кастрычніка 1988 года падалі ўладам Сыс і Бяляцкі. Мітынг ператвараецца ў Шэсце на Курапаты. Бяляцкі, разам са многімі паплечнікамі, знаёмымі і незнаёмымі, збіты і затрыманы міліцыяй…**

**Сыс там ня быў ні пабіты ні затрыманы, ні атручаны “чаромхай”. З-за працы ён на гэтую акцыю істотна спазніўся… Час Сыса-сацыял-рэвалюцыянера завяршыўся.**

# Частка II. СЫС-КУМІР

*З беднай сялянскай хаты ў вечным прыгнёце грошай можна выбіцца ў людзі, але душа будзе рабскай.Толькі ў вольныя грудзі дух уваходзіць Божы… А мы цэлы край зраўнялі з беднай хатай сялянскай.*

Гэты эпіграф – ня з Сыса. Гэта – з яго равесніка, скідальскага паэта Алеся Чобата. З паэмы пра Максіма Багдановіча, якога Сыс называў сваім братам. Так жа, як і Максім, Анатоль не зважаў на прыгнёт грошай, і яны яго мала цікавілі. Яго сялянская хата не была беднай. І яго грудзі, як і грудзі Максіма аказаліся дастаткова вольнымі, каб туды ўвайшоў дух Божы…

Роўным беднай сялянскай хаце аказаўся іншы, фармальна сталічны беларускі асяродак, у якім панятак “выбіцца ў людзі” быў мэйнстрымам. Там (хай сабе й ня толькі) Сыс стаў кумірам.

Па ацэнцы літаратуразнаўцы ” Ганны *Кісліцынай “… не мелася сярод яго сяброў і паплечнікаў нікога, хто быў бы роўны яму па таленце, хаця б і напалову.”*

Па выхадзе ў 1988 годзе першага паэтычнага Анатолева зборніка “Агмень”, яго прынялі ў Саюз Пісьменнікаў. Рэкамендацыю на ўступ далі вядомыя Ўладзімір Някляеў ды Аляксей Дудараў, а таксама Васіль Жуковіч. На таемнае галасаванне 17 лістапада былі выстаўлены тры кандыдаты ад “Тутэйшых” – Сыс, Мінкін і Глёбус, але ў выніку прынялі толькі Сыса. Разам з шэрагам не”Тутэйшых” літаратараў, якія і дацяпер, бадай, ня меюць ні той вядомасці ні той чытабельнасці як Мінкін і Глобус тады…

Апроч прызнання відавочнага таленту Сыса тут, мяркую, адыграла ролю і прызнанне Анатоля “класава сваім” ды “адпавядаючым гістарычнаму моманту”. Перамогу пазіцыі Сыса ва ўнутрытутэйшаўскай спрэчцы засведчыў якраз той ранейшы і





*дамоў да жонкі. А ён мабыць адчуваў, што трэба праз майстэрню прайсці. Прыходзіць – амаль што хату патушылі, хата згарэла. А я толькі адправіў – званок у дзверы: Алесь чакае. Тамака ўпаў – у прадбанніку, плача, рыдае. Я спужаўся, што такое? Кажа: “Майстэрня мая згарэла.” Я кажу: “Ты не паддурваеш мяне?” Ён кажа: “Не.” Ну я думаю, ён мяне паддурвае. У нас жарты такія.*

*– (мычанне згоды і разумення)*

*– Нагнуўся, а ён упаў і плача. Я апрануўся, мы пайшлі, паглядзелі. Але – пяты паверх. Гар. Пажарнікі толькі 100 даляраў яму аддалі. Патушылі. Мо яны і забралі. … Я яго супакоіў… Сабралі ўсіх сваіх сяброў -- …наццаць чалавек. І ўсе – як умелі, так дапамаглі. …кола… Зрабілі рамонт усім людзям, якія… У яго фірма свая. У яго свая фірма – “Шанэль”, магазіны свае. Мне Вінцук казаў, што ён трошачкі ад беларушчыны адышоў, але… выпадкова… малады паэта Мікола Касцюковіч…*

*– Чакай, дык ён не з Дубровенскага раёну?*

*– Філіповіч матка яго. Дык ён нам на бутэльку пазычыў, даў нам свае тэлефоны, апрануў нас у гэтыя форменныя свае касцюмы. Усё ж такі, як была “Талака”, гэта ў 85-86год, мы ж з ім такое Адраджэнне… газеты везлі, прама на газэтах паехалі ў Наваградак шукаць беларускіх нацыяналістаў, якія сядзелі па турмах, лагерох. Знайшлі. “Уліс.” Магнітафон з намі быў. “Уліс.” А цераз год “Студыя-7” называлася гэтая група. “Уліс”. Слухалі – першая рок-група беларуская. Па гэтым замку Наваградскім хадзілі. Нацыяналістаў знайшлі, на магнітафон пазапісвалі. Усё на свеце. А зараз ён у камерцыю падаўся… Касцюмы… Я ўчора ў касцюме быў, пры гальштукі. Такія во касцюмы! Лазоўская, якая на “Радыё-Свабода” працавала жонка ў яго новая. Ён развёўся. Вінцук кажа, што ён падсеў, што ён ад беларушчыны адышоў, але калі ён пазычаў нам на бутэльку, не пазычаў, а проста дабавіў нам з Алесем Філіповічам, гэта я разок у яго ўзяў, выпівалі, ён*

*Прадпрымальнік. На дне нараждэння ў мяне быў, падарыў мне асадку. А эта даўно было. Эта быў канцэрт у Доме Літаратара. Дарэчы… Ну ладна, у обшчым…У мяне быў трохтомнік Маркса і Энгельса… Я… Валеру Янушкевіча… Прыехалі прама ў Міністэрства замежных справаў… Анатоля Казлова, мяне, Бяляцкага – ўсех… Канкрэтна, чуеш, усё-такі АнатольСыс… І шатланскае віскі – натуральная фасоўка… Карла Маркса і Энгельса…*

*– Не было, дзе жыць, дык жыў у Бембеля. Бацька яго Андрэй яшчэ жывы быў. Дык ляжам і цэлую ноч размаўляем. Паўжыдак. Але шмат добрага для Беларусі зрабілі, ён – і Навум Гальпяровіч. Ну я кажу: “Барадулін, раскажы, як ты пішаш! Грыша, ну раскажы!” Мы з ім вялікія сябры з Барадуліным. Ён жа быў рэдактарам маёй першай кніжкі… Не першай, а “Пан Лес”. …Добры чалавек. Проста я не люблю жыдоў пархатых, а так для мяне – усё людзі як людзі. Вось я беларусам нарадзіўся. А калі б я жыдам нарадзіўся? … Пушкін… Проста я агрэсіўным быў, а апошнім часам да людзей стаў больш лагодным. Проста я дзяцей не нарадзіў. … Ці лі што? Проста я стаў такім богабаязненным. … Карацей я больш… “Лён”. Дык я ўсім дарагім людзям буду дарыць, дарыць, дарыць…*

*– У прыватным выданні?*

*– Не, у “Мастацкай літаратуры”. Яна павінна была выйсці. Але я загуляў і не храна не аддаў кніжку. Аксана з часопіса “Полымя” мне набрала яе. Можа Глёбус будзе афармляць. Можа Пушкін. А можа Алесь Суша… У яго нядаўна хата згарэла, як мы гулялі. У яго сядзелі-выпівалі. Перасяліліся да мяне сюды. І хтосьці бычок кінуў. І ўсё згарэла, і ўсе карціны, што ён напісаў. Хацеў ён каталёг свой выдаць, пазычыў 2000 даляраў у людзей і (пасміхаецца) даляры згарэлі. Хата згарэла, зато – клапоў ляснула! (пасміхаецца) – як у нас дома кажуць. Сябрук Пазняка. Мы тут сядзім, гуляем, свечкі гараць… Дзяды. …Побач. Я ўжо ўсіх адправіў. Алеся апошняга адправіў*





“самаўхіліўшыйся” пісьменніцкі асяродак, які аб’яднанне горача крытыкавала.

## 1989-ты і “Пан Лес”

15 мая па завяршэнні рэспубліканскай нарады “Тутэйшых”, на якой Сыс трымаўся, надзіва малазаўважна, Анатоль з некалькімі сябрамі паехаў наведаць у лякарні аўтарытэтнага і прызнанага дзяржавай паэта Пімена Панчанку. Тады, калі Панчанка *“неяк няўдала паваліўся” і “зламаў сабе скабы… Сыс ледзь не штодня наведваў яго ў шпіталі… размаўляў з Панчанкам па-сяброўску, як далучаны, як пераемнік”*. Сыс супрацьстаяў прызнанаму класіку ў вершаваным поглядзе таго на сумную будучыню беларускай мовы і выбачаўся за сваю вершаваную рэзкасць.

На змену спрэчкам з “касмапалітамі” прыйшло асабістае (ужо не ад “Тутэйшых”) апаніраванне жывым беларускім велічыням. Часцяком таленавітае і дарэчнае, пры ўсіх нюансах.

Са старэйшымі пісьменнікамі Сыс паводзіў сябе ўсё больш і больш фамільярна. Канчаткова зацвердзіў такую форму паводзін выхад да чытача ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” накладам 5000 асобнікаў яго другога паэтычнага зборніка “Пан лес”, адрэдагаванага Рыгорам Барадуліным.

Прысутнічаў у зборніку пэўны момант піяру ды маніпуляцыі: ладная частка вершаў мелі прысвячэнні вядомым і ўплывовым асобам беларускай гісторыі і сучаснасці. Але моц таленту тут, збольшага перакрывала штучнасць пасылу, творы выглядалі цікава і без прывязкі да “адрасатаў”, цэльнасць канцэпцыі перамагала недахопы.

Бадай, з часоў Максіма Багдановіча ні адзін з беларускіх паэтычных зборнікаў не выклікаў такой

**удзячнай зваротнай сувязі: некалькі дзесяткаў вершаў з "Пана Леса" сталі песнямі, прычам пэўныя з іх – песнямі з рознымі мелодыямі, ад розных аўтараў. Апроч заслуг у тым Анатоля ня будзем адмаўляць і ўнёску ў поспех кнігі яе рэдактара.**

**"Пан Лес" стаў адкрыццём паэзіі Сыса і асабіста для мяне. Прабяжаўшыся вачыма па некалькіх вершах, я раптоўна зразумеў: вось тут і вось тут могуць быць песні. Прынамсі, гэтыя вершы хацелася спяваць. І неўзабаве я іх заспяваў. Тры вершы Анатоля Сыса са сцэны: "Маналог Апанаса Філіповіча" (У гэтай краіне ня маю я дому…), "Вільня, 1864" (Перад смерцю зязюля Кувае…) і "Сабака" (верш, прысвечаны Алесю Гаруну).**

**Рыгор Барадулін ці то жартам ці то ўсур'ёз, але трапна-шматсэнсоўна пачаў першым з пісьменнікаў старэйшага пакалення зваць Сыса Анатоль Ціханавіч.**

**У адносна вузкіх, але вартых колах антысавеччыкаў словазлучэнне Анатоль Ціханавіч наўпрасткі звязвалася з простым хлопцам украінскага паходжання з прозвішчам Марчанка, які, патрапіўшы маладым у лягер для палітзэкаў, здолеў напісаць пра тое магутнай моцы ўспаміны, а затым стаў гарачым і самахвярным, больш за тое, нязломным змагаром за вызваленне палітычных вязняў СССР, паважаным і цанімым і куды больш адукаванай дысыдэнцкай элітай. У выніку некалькіх адсідак, пасля чарговай галадоўкі Марчанка сканаў у лагеры ў снежні 1986 года ва ўзросце сарака шасці гадоў, але яго галадоўка прывяла да афіцыйнага вызвалення мноства, калі ня большасці савецкіх палітзняволеных; у тым ліку быў вернуты са ссылкі славуты акадэмік Андрэй Сахараў.**

**У Сыса, з улікам паправак на час і месца, паралелі з Марчанкам можна знайсці і ў лёсе. Пры тым, што ў 89-м у ім шырока і бясспрэчна бачылі магутнага паэта – надзею беларускай літаратуры.**





***…адкевіча. Грошай у мяне няма на дарогу. Побач Ігар Жук. Пайшоў – яго няма, яны толькі атрымалі кватэру новую, а ён на кафедры сядзіць, там друкуе штосьці з жонкаю. Кватэру новую атрымаў двухпакаёвую вось такую. Свіння ты расейская, у мяне прымаўка такая. Жонка такая радушная, так добра мяне сустрэла, малайчына. Я адчыняю дзверы. "Яшчэ ў маёй хаце ніхто не начаваў, ты самы першы!" Селі. Яшчэ дзве бутэлечкі. І жонка разам з намі. Яна мне пасцірала майку. Паклалі мяне спаць… Пабыў на гэтым сэмінары… З Толікам Брусэвічам вершы пачытаў. У рэстарацыі… Вячорка даў грошай… Мяне правёў… Мы з ім яшчэ прама на вакзале выпілі піва, купілі… Трэба б каб тады быў мікрафон, як мы з Вячоркам ехалі і размаўлялі, чуеш? Прыехалі ў Менск… на таксоўку дамоў… Гэта даволі знакавая фігура… Уладзік Дубатоўка з Гародні быў… Гарэлку… Бутэльку прынеслі. Скоблу паслалі яшчэ па гарэлку… А ён… Даляраў… І ўсё. Давай! І усё… бывала такое: мы напіваліся і людзям … рабілі… А дзе ты яго набываеш?***

***– Проста заходжу.***

***– Пісьмянкоў жа галоўны рэдактар… Та-ак, гады ў рады. Тут жа Зміцер Бартосік быў з Севярынам у мяне інтэрв'ю бралі.***

***– Не памятаю, каб чытаў.***

***– Ну дык ты ў Бартосіка папытайся, як мы з музэю Янкі Купалы вясною да мяне прыйшлі… І інтэрв'ю і проста мы размаўлялі. Тады яшчэ Севярын для "Радыё-Свабода" ў мяне браў інтэрв'ю. І ў "Нашай Ніве" таксама друкаваўся.***

***– Квяткоўскі?***

***– Да. Квяткоўскі.***

***– Я можа першы, які прыйшоў (неразборліва)***

***– (неразборліва) бутылечку… Нават Пеця Краўчанка прыходзіў. Нават гэты прыдурак Карагін…***

***яны выстраіліся браць у мяне аўтографы на дзённіках на сваіх. Чуеш? Хваляцца мне сваімі адзнакамі. Я пайшоў тады ў пятую клясу, урок беларускай літаратуры правёў. Яны чыталі ўрывак з Якуба Коласа прозай. Я б ніколі не запомніў такі сціх – вялікі-вялікі. Крамянёвыя стрэлы там, гаршкі, усё на свеце! Хто і запінаўся, я ўсім пяцёркі паставіў. Чуеш? А тады настаўніцы сабраліся пасля гэтага ў аднаго з настаўнікаў. У Алега. Якраз яны парася забілі. Матка таксама – настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Усе пайшлі да яго на свежыну. Мора самагонкі. Там усе гоняць самагонку, чуеш? Мы так красіва сядзелі! З сабою палку кравянай каўбасы мне далі.***

***– А чаго парася яны забілі?***

***– Дык зіма на насу, яны і забілі. Ну, кажу, хлопцы, (карацей, мы абмяняліся адрасамі) – правадзіце мяне на трасу і пасадзіце на Менск! Выйшлі на трасу, узялі з сабой гарэлкі, паесці. Завіру-уха! І ні адна машина не спыняецца ля нас. Цёмна. Было ўжо дзесьці гадзінаў пяць вечара, ніхто не спыняецца. Я кажу: “Тады давайце: вы - на адзін бок трасы, я – на другі. Якая машына першай спыніцца – на той я і паеду, Ці на Гародню, ці на Мінск”. Машына спынілася на Гродню, і я зноў да Дануты. Яны далі мне грошай з сабою на бутэльку, каб я Дануце праставіў бутэлечку. Дануце і Чобату. Адчуваю, што я пакрыўдзіў. А па дарозе – ой як доўга распавядаць. Я стомлены. Па дарозе я з гэтым шафёрам размаўляю. Ён таксама крэпка Беларусь любіў, у Польшу едзе… Ён даў мне свой адрас, тэлефон. Побач з імі жыве дырэктар школы. Ён яшчэ на бутэльку грошай даў. Я яму заплаціў. Прыязджаем да Дануты. Мой равеснік. Я да Дануты заходжу, бутэльку там, кілбасу Яна кажа: “Ідзі адсюль! Алесь злы-злы, злы гэта страшны чалавек Ён з усімі сварыцца, чуеш?***

***– Я з ім правёў дванаццаць гадзін і не пасварыўся.***

***– Ён усіх крытыкуе, прычым крытыка такая злосная. Я не люблю такога. Што ж рабіць? Я пайшоў далей да***





**Беларускі саюз пісьменнікаў адпраўляе яго ў Маскву на ўсесаюзны семінар пісьменнікаў. Ён едзе разам з землякамі-палешукамі Аляксандрам Лукашуком, Алесем Наварычам, Андрэем Федарэнкам. Натуральна, перад імі ўсімі цяпер адкрываецца добрая перспектыва друкавацца ў рускім перакладзе. Але Анатоль прынцыповы: яго публікацыя ў 1988-м у “Литературной газете» вінна застацца апошняй, ён забараняе перакладаць свае вершы на рускую мову, пакуль родная беларуская мова не стане сапраўды раўнапраўнай сярод моваў СССР.**

**Праз шмат гадоў на падобны крок – свядомы няпродаж сваёй прадукцыі на рускай мове ва Ўкраіне пойдзе выдатны ўкраінскі паэт і гаспадар дзіцячага выдавецтва “Абабагаламага” Іван Малковіч. Чаго тут болей: вернасці карпаратыўнай салідарнасці ці прароцкага бачання? Напэўна, ня нам судзіць.**

***

**Неўзабаве пасля майскай рэспубліканскай нарады “Тутэйшых” Сыс абвясціў, што ад іх стаміўся і бярэ на год адпачынак. “Тутэйшыя” ж у тым жа выдавецтве “Мастацкая літаратура” ў 89-м выпусцілі свой уласны зборнік, які склаў Сяргей Дубавец. З Сыса ў зборніку адзін верш - “Нашчадку Уладзіміра Караткевіча”.**

**Незалежна ад “Тутэйшых” у “Мастацкай літаратуры” выйшаў калектыўны зборнік сатыры і гумару “Асцюкі за каўняром”, дзе далі месца даўнім Анатолевым пародыям. Там яны былі змешчаныя пад псеўданімам Толік Ганарар.**

**Значная частка накладу зборніка “Агмень” чамусь пераляжала на складах ажно да распродажу “Пана Леса” і толькі цяпер патрапіла ў кнігарні. Чытачы, ураженыя “Панам Лесам”, набывалі “Агмень”, часцяком, без прагляду. Пасля іх збольшага чакала расчараванне. Але Сысаў паэтычны аўтарытэт тая недарэчнасць**

**пахіснула мала.**

**За два зборнікі ён атрымаў ганарар, дастатковы для таго, каб набыць кватэру ў цэнтры Мінску. Ды на той час ахвяраваць сцэнічнымі эфектамі дзеля банальнай бытавухі падалося Сысу ганебным.**

**26 кастрычніка 1989 года на трыццацігоддзе Анатоля ў Менскім Доме літаратара з аншлагам прайшла літаратурная вечарына паэта, на якой прысутнічала і мама – Марыя Іванаўна…**

## Тарзан у мінскіх джунглях

**Ганарарныя грошы Анатоль стаў траціць вельмі паруску: у кабаках. Спасцігаў "Мінск злачны" пад апекаю знаўцаў ды аматараў тэмы Уладзіміра Някляева і Аляксея Дударава – тых самых, якія рэкамендавалі Сыса ў Саюз Пісьменнікаў.**

**Тых, хто здаўна знаў Сыса-непітушчага, такая перамена ў паэце, сур'ёзна занепакоіла. Тых, хто знаў Анатолева бацьку – занепакоіла ўдвая. Паэт Сяржук Сокалаў-Воюш абвясціў, *што "хто з Толікам вып'е"*, таму ён не падасць рукі." Але многія лічаць выпіць з Сысам больш важным за рукапацісканне Воюша.**

**У адрозненне ад Някляева з Дударавым, якія дысцыплінавана аддзяляюць работу ад выпіўкі, Анатоль цяпер стаў піць і на рабоце. З дзесяткамі старых і новых знаёмцаў, з выпадковымі сустрэчнымі. Для чаго яму тое?..**

**Ганна Кісліцына адказвае на гэнае пытанне амаль пафасна: *"чаму п'е Сыс, я магу зразумець, а чаму іншыя – не… Сваім паэтычным агнём ён спрабаваў абудзіць іншых, а згарэў сам. Ён крычаў, каб абудзіць, а дакрычаўся да нематы. Здавалася, што ён жыве і гаворыць за ўсіх, але не змог пакуль пражыць і сказаць за сябе… Мажліва, выгукаўся дарэшты. Пустата, што ўтварылася ўнутры***



Анатоль Сыс—псяльмар дэфармаванай Беларусі ● *А. Мельнікаў*

***Раней як пачынаў пісаць …***

***Я ж быў у Дануты нядаўна. Сядзелі. Выпівалі. І па чарзе чыталі вершы. Як яны на мяне накінуліся. І паехаў я тады са Скоблам да Менску. Выходжу я ў людзі папаліць сыгарэту – два хлопцы бутэльку адкаркавалі. Я кажу: "Ні хуя сабе, блядзь, бяз Сыса піць будзіце". Я кажу: "Дык, хлопцы, не бойцеся. Я неўябенны беларускі паэт Анатоль Сыс". Давай, паўбутэлькі выпілі, Я кажу: "Дык вось, хлопцы, за тое, што вы незнаёмаму чалавеку …вось вам па цыгарэце, я яшчэ вам вершы пачытаю". Гэты верш "Паміраюць ад кулі шалёнай" як свайго прынялі. Мне прыпісваюць яшчэ гэты верш "Стаю на асфальце я, ў лыжы абуты". Гэта не я напісаў. Гэта фальклорнае. Я пачытаў ім вершы Анатоля Вярцінскага, кажу: "Гэта я напісаў". Залезлі ў аўтобус, і з імі цэлую дарогу размаўлялі. І ў аднаго маці – настаўніца беларускай мовы, і ў другога маці – настаўніца беларускай мовы. Вёска Морына, гэта на поўдарозе ад Ліды да Менску. Гэта ўжо гадзін дзесяць вечара было, мы ўсе злезлі, "Дык слухай, пайшлі ў нашую школу, пачытаеш вершы". "Гарэлачка будзе?".- "Будзе, вядома". У нас усё на свеце. Гуд бай. Ён выскачыў са мною з аўтобуса. Бяжыць. "Што не вытвараце, кажу, я іду ў школу дзецям вершы чытаць". Сярод ночы прыйшлі да хаты да настаўніцы. Валодзю аднаго завуць, другога – Алег. У Валодзі я начаваў. Бацька Брат Матка – настаўніца беларускай мовы. Я ім цэлую ноч вершы чытаў. І мы так добра пасядзелі, раніцай са школы ідзець дырэктар, я прчнуўся, яны мяне памылі, адгладзілі, далі мне пахмяліцца самагонкі ізноў, і ў школу сабралі ўсіх дзяцей, а ў клясе там па пяць, па сем чалавек. Сабралі ўсіх у актвую залю: такое дзіва – Паэт прыехаў. У Менску…А далей хто там прыходзіў. Урокі ўсе кінулі – Паэт прыехаў... А дзеці культурныя Спачатку былі прыціснутыя, але я ўсё зрабіў. Ну, быццам бы спектакль адбываўся. Ёсць такія спектаклі, калі і гледачы ўдзельнічаюць у гэтым спектаклі. Я усё зрабіў, каб так было. Каб ты пабачыў, як там прыгожа ўсё было!. Як***

***– Мы з табой проста размаўляем і ўсё. Сяброўская такая размова. Непрынуждзённая. Гарэлка можа толькі вочы засціць…***

**Ён распавядае мне пра “Расейска-крывіцкі слоўнік” Ластоўскага. Я яму – пра слоўнік Янкі Станкевіча.**

***– Яго дачка мне выклік у Амэрыку прыслала. А я такі і не паехаў. Мяне і маці Данчыка вызывала, а я так і не паехаў. Там трэ дакументы афармляць, а ў Пушкіна я кантаваўся . Зайцам. Жыў у інтэрнаце. Яшчэ 91-92 год. Так, здаецца. Маці прыязджала, дык у мяне ўжо выклік, усё на свеце ёсць. Сябе пакажу ў Амерыцы, як гарэлку піць трэба… Ды у у Пушкіна я ў інтэрнаце жыў. Іду я ў прыбіральню пасцаць, выходжу з пакоя, два арабы на белага чалавека наязджаюць. Я: “Ну-ка, ідзіце сюды”, а яны такія нахабныя, карацей, я іх адяпошыў. Як я быў у сталовай, ва умывальніку была вада разлітая, дык я паслізнуўся і нагу зламаў. Тады мне паставілі гэты гіпс, і я не паехаў у Амерыку.***

***Ну давай вуп’ем!***

***Учора і за Чаропку пілі і за Пазнякевіча і за Зіну Каваленку. І за Адамовіча. І я крэпка рады, што яны нарэшце памірыліся: Чаропка і Славамір.***

***– Чаму ты крыўдзішся, калі цябе называюць Сысом?***

***– Ведаеш што? Мяне нават нейкія мовазнаўцы гэтак называюць. Я не крыўджуся, проста я папраўляю. Проста я веру народу. Як мой бацька казаў, як мая маці казала, як мае аднавяскоўцы кажуць. Як каменьчык абкатаны… А гэтыя мовазнаўцы што напішуць – дык гэта я і сам магу напісаць.***

***Чаму я кінуў журналістыку? Пасля войску я прыйшоў…***

***Якая розніца? Я магу і тут пісаць. Іншая справа – няма ладу ў душы, гармоніі няма ў душы. Давай вып’ем.***





***яго, патрабуе напаўнення. Гарэлка – вогненная вада – якое ўсё-ткі сімвалічнае яе з’яўленне ў аўтара вершаў “Як я прадаў сябе агню”, “Агонь”, “Неапалімая купіна”, паэмы “Агонь-птушка”, у таго, хто сваю першую кнігу назваў “Агмень”.***

**Напярэдадні 7 лістапада 1991-га на начной рэпетыцыі вайсковага парада па Ленінскім праспекце, Сыс, з сябрамі і сабутыльнікамі Алесем Асташонкам ды Міколам Сцепаненкам перагарожваюць сабой праспект перад танкавай калонай – пэўная алюзія на падзеі жнівеньскага путчу ў Маскве. Камедыя? Пародыя? Перфоманс? Прароцтва пра надыход іншых часоў?..**

**Што б не там было, але вайсковы парад на 7 лістапада ў Мінску ў 1991-м праходзіць у апошні раз.**

**Неўзабаве Анатоль апошні раз выходзіць на сваю работу тэхніка на БТ. Больш ні яна яму не патрэбная ні ён, пітушчы, ёй.**

*******

**Улетку 1992-га Анатоля адзіным з неспяваючых беларускіх паэтаў запрашаюць выступіць на “Басовішчы” – фестывалі беларускай музыкі на Беласточчыне. Яго прымаюць як жывую легенду, ён сябе так і паводзіць.**

**Увосень, на 33-годдзе паэта, сябра, экс-кіраўнік “Тутэйшых”, малады дырэктар музэя Максіма Багдановіча на Траецкім прадмесці Алесь Бяляцкі арганізоўвае буйную паэтычную вечарыну Сыса ў сваім музэі. Домлітаратараўскі трыюмф-89 амаль паўтараецца…**

**Афіцыйна Анатоль больш анідзе не працуе. А не зусім афіцыйна – яму знаходзяць месца накшталт “вышыбалы” ў кавярні Дома Пісьменнікаў. Ён і так там заўсёднік…**

**Цягам 90-тых гадоў з Сысам неаднаразова**

звязваюцца прадстаўнікі прыватных выдавецтваў (якіх у тагачаснай Беларусі хапае) з прапановамі выдаць яго чарговы паэтычны зборнік. Вершы на яго ёсць і аўтарская назва ("Ягамосць") зборніка – сакрэт Полішынэля, але Сыс прынцыпова адмаўляецца – яму карціць, каб яго выдала заслужанае дзяржаўнае выдавецтва з аўтарытэтным імя.

## Ці ж варта было сустрэцца?

У канцы красавіка 1994-га з Сысам мне ўпершыню атрымалася сутыкнуцца блізка і нават нешта яму выказаць…

У мінскім Доме Літаратара праходзіла тады не надта шматлюдная тусоўка беларускай моладзі свету (!). Памятаю, стаяў мікрафон перад сцэнай у самай вялікай зале будынка. Былі нейкія выступы, у тым ліку, здаецца, і мой з гітарай, бо без гітары мяне на падобныя сустрэчы рэдка калі запрашалі.

А потым без запрашэння з'явіўся Сыс. Заўважна п'яны і заўважна нахабны. Дабраўся да мікрафона, пачаў нешта вярзці, кшталту "стаю на асфальце я ў лыжы абуты…", бадзяцца па сцэне, як я пасля зразумеў, у канцэпцыі свайго перманентнага перфоманса.

Прысутныя рэагавалі млява і неяк паблажліва. Я падышоў да мікрафона таксама і пачаў Анатолю выгаворваць. Маўляў, такія выдатныя вершы і такія нягодныя паводзіны… Сыс сышоў. Пасля, хтось з добрых знаёмцаў з крывой усмешкаю ціхенька выдаў мне: "Андрэй, ты добра казаў. Але Сыс, наўрад ці, тое пачуў…"

## "Іконе месца ў царкве"

Мастак Алесь Марачкін падарыў Анатолю вялізную





былі шчэ шматлюднымі і досыць радаснымі. Паэт, амаль цвярозы, паглядзеў на мяне з неразуменнем, запытаўся, што за Аршанская бітва, прабурчэў штось наконт беларускіх нацыяналістаў (словазлучэнне "беларускія нацыяналісты" – ад яго я чуў выключна з ірoніяй) ды пра футбол, які збіраецца глядзець па тэлеку…

У футболе, Анатоль, на маёй памяці, заўзеў (калі гульня была не з беларусамі) за зборную Расеі. Нягледзячы на ўсю антырасейскасць вершаў.

Часам мы ненадоўга перасякаліся, нядоўга размаўлялі, выпівалі разам у абшчазе, у якой жыў наш знаёмы паэт Славамір Адамовіч. Але, усё адно, трымаліся на пэўнай адлегласці. Нас ядналі, хіба, толькі вершы…

*У другой палове красавіка 1999-га* пад час чарговага "перасячэння", Анатоль прапанаваў завітаць да яго ў госці з бутэлькай ды дыктафонам. Тое, што мы меркавалі рабіць паралельна з выпіўкай, Сыс прапанаваў назваць "сяброўскай такой размовай".

Дыктафон з мікракасетай я папрасіў у Славаміра Адамовіча, які тады падпрацоўваў на "Нашай ніве", бутэльку набыў у бліжэйшай да Сысавага жытла краме, разам з закуссю…

Размова атрымалася, сапраўды, досыць сяброўскай. Анатоль, хоць і рэгулярна казаў "Давай, вып'ем!", але піў пакрыху, зарыентаваўшыся больш на размову, а не на выпіўку. Дыктафон я уключыў далёка не адразу, а калі ўключыў, то там нас як бы тут жа стала ўтрох: Сыс зрабіў свае інтанацыі выразна-сцэнічнымі, а рухі – амаль тэатральнымі, бы апроч аўдыё, запісвалася і відэа.

Я задаў колькі пытанняў, якія мяне сапраўды цікавілі, Анатоль распавёў тое, што хацеў распавесці па пытаннях і без.

Падобна Распуціну, Сыс узяў завядзёнкай за сяброўскім сталом ва ўласнай кватэры на вуліцы Крапоткіна, якую атрымаў ад Саюза Пісьменнікаў, з самаўпэўненым і пафасным выглядам настаўляць малодшых па ўзросце беларускіх творцаў. У запрашэнні маладога творца дахаты звычайна прысутнічала пэўная праверка запрошанага "на вашывасць": яму, раптам, даводзілася трацінца на незапланаваную бутэльку, незапланаваныя прадукты, незапланаваныя падарункі… Пры тым, Анатоль, напаўпрыхавана-іранічна прыглядаўся да таго, ЯК запрошаны трацінца: сквапна, злосна, прымусова ці лёгка-безалаберна, хай сабе й на апошнія грошы…

На асобных маладых гасцей "чары" Сыса не ўздзейнічалі ні на каліва. Так маладзенькая Аксана Бязлепкіна, завітаўшы, проста выказала багемнай кампаніі разам з яе "босам" і рытуаламі сваё "фі" і думкі сваёй на падобныя дзействы ў далейшым не змяніла. Будзь такіх паболей – магчыма, пасядзелкі змяніліся б да лепшага…

Быў выпадак, калі Сыс выпрасіў у аднаго пісьменніка-"сынка" з крутога пісьменніцкага кляну "панасіць" некалькі дзён ягоны швейцарскі "Ролекс" – наручны гадзіннік, цана на які, бывае, даходзіць да некалькіх тысяч даляраў, а калі наспеў час вяртаць, выдаў: "Згубіў…"

Больш, кажуць, "Ролекса" таго аніхто ня бачыў і было падобна, што Анатоль яго згубіў насапраўды… Да гонару небаракі-пісьменніка, той "праверку" вытрымаў без істрэрык…

## Сяброўская такая размова…

8 верасня 1995-га, сустрэўшы Сыса ў Доме Літаратара, я запрасіў яго на шэсце да чарговай гадавіны Аршанскай бітвы. Тады гэтыя тэатралізаваныя дзеі





карціну-ікону Божай Маці Чарнобыльскую.

Чарнобыльская ікона – бадай, самы вядомы і грамадска-значны твор Марачкіна. Штогод на "Чарнобыльскі шлях" 26 красавіка яе нясуць па Мінску разам з Чарнобыльскім звонам і бел-чырвона-белымі сцягамі. Яе спісы занялі трывалае месца ў праваслаўных храмах Беларусі – прычым спісы даволі дакладныя, дзе пры жаданні і ўважлівым аглядзе можна пазнаць за Марыяй з немаўляткам адметнае аблічча Зянона Пазняка…

Марачкін, як і многія мастакі, не абмежаваўся адным уласнаручным асобнікам іконы, а стварыў з яго і свой спіс – у крыху іншай колеравай гамме і без Зянона. Той спіс і падарыў Сысу.

Анатоль, як і належыць, прыняў дар класіка беларускага мастацтва з піетэтам, але маці і сёстрам сказаў, што аднясе ікону ў Заспінскую царкву, што ў пары кіламетраў ад роднай Гарошкаўскай хаты.

Імідж заспінскага "бацюшкі", трэба сказаць, быў у многім адмоўным. Пазбаўлены месца служэння ў Гомелі за неадпаведныя паводзіны, ён і ў вёсцы аўтарытэт меў нязначны: казалі, што з царквы за час яго святарства зышло нямала каштоўнага. Карацей, да Анатолевай ідэі з іконай сваякі паставіліся негатыўна: маўляў, можа з заспінскай царквы знікнуць, як і іншыя…

Зададзім пытанне самім сабе: вось Марачкін нам прэзентуе які са сваіх векапомных твораў метр на два – няўжо ж не патрымаем іх у сваёй хаце ну хаця б некалькі гадоў – перад сябрамі ды сваякамі папантавацца троху, ды і самім у эстэтычнае задаваленне, а там мо і ў спадчыну пакінем на свой будучы музэй… Хіба не?...

Моцнапітушчы Сыс, як паказалі прайшоўшыя з таго часу дзесяцігоддзі, з іконай паступіў правільна. Чарнобыльскую ікону пэнзэля Марачкіна і дасюль можна пабачыць у Заспе у царкве на ганаровым месцы.

## Распуцін беларускай літаратуры

*игнорируя насмешки и осуждения… явился…*

*ярким и страстным… в настоящем народном стиле,*

*будучи разом и невежественным и красноречивым…*

*и святым и грешником… в каждую минуту актёром…*

Цытата – з успамінаў начальніка дэпартамента паліцыі Бялецкага (ня блытаць з Бяляцкім!) стогадовай даўніны – пра пецярбурскую “зорку” часоў заката імперыі Грыгорыя Распуціна. Хіба хоць адно слова з цытаты – не пра Сыса?..

У інтэлігенцкім асяроддзі беларускай літаратуры 90-х гадоў Анатоль Сыс, бадай, наўмысна, імкнуўся падкрэсліць сваю “простасць”, што часам выглядала юродствам, а часцей беспардоннасцю і хамствам. Ды падобна Грыгорыю Распуціну ў расейскай “эліце”, у эліце беларускіх пісьменнікаў з такімі паводзінамі калегі звыкліся, і калі не ўспрымалі іх прымальнымі, то, прынамсі, такімі, ад якіх падобнага чалавека не адвучыш.

*…бросалось в глаза, что он терпеть не мог навязчивых особ. Но с другой стороны, он надоедливо преследовал…*

*З успамінаў Сімановіча, сакратара Распуціна*

Ідэя-фікс заўжды быць бачным, чутным і дасягаючым жаданага, у 90-я рэалізоўвалася Сысам бязмерна. Нярэдка даходзіла да боек з нармальнымі хлопцамі, і нярэдка і нармальныя хлопцы і Анатоль хадзілі пасля з фінгаламі ды некалькі пашкоджанымі сківіцамі… На шчасце, бойкі не былі зажорсткімі – Сыса ცанілі, ды і ён быў,хутчэй, міласцівым, чым бязлітасным. Але аднойчы, ужо ў часы “развітога прэзыдэнцтва”, Анатоля, пасля таго як ён дзесь за штось уступіўся, моцна збіла міліцыя…





*Витте… до последних дней, зная подвиги Г., говорил,что у Р.возвышенная душа, что он – человек больших добродетелей*

*З манаха Илиодора*

Увёсну 1995-га перад рэферэндумам па шэрагу антыбеларускіх пытанняў, па БТ некалькі разоў паказалі дакументальны фільм таленавітага прыслугача новага рэжыма Азаронка “Дети лжи”. З фільма добра запаміна́ўся негатыўны вобраз п’яна-брутальнага Сыса: маўляў, вось такую Беларусь нам жадаюць навязаць бел-чырвона-белыя нацыяналісты… На канчатковыя вынікі рэферэндума фільм паўплываў нязначна, але колькасна тое былі, верагодна, дзесяткі (а мо і сотні) тысяч людзей, якія адвярнуліся ад нацыянальнай Беларусі, пабачыўшы агіднага Сыса. Пра тое, што агідна выглядаць – далёка не самае страшнае – ім давядзецца задумацца, бадай, ужо ў наступным тысячагоддзі…

У тым жа 95-м Сыс надоўга трапляе ў гастраэнтэралагічнае аддзяленне мінскай бальніцы №2. Ягоны страўнік, праблемны шчэ ў войску, цяпер цягне на інваліднасць. Урэшце, праз дзесяцігоддзе са страўнікавым крывацёкам Анатоль і сканае…

*Он вернулся… вполне выздоровевший после тяжёлого ранения,которое подвергло его жизнь такой большой опасности.*

*Но всё склоняло к предположению, что со времени его возвращения им слегка пренебрегали…*

*З успамінаў пра Распуціна П’ера Жыльяра*

У сярэдзіне 90-х Сыс, казалі, актыўна карыстаўся календаром пісьменніцкіх дат народзінаў, каб завітваць да імяніннікаў на пачастунак. Хтось сустракаў дабразычліва, хтось – з жахам, але класіка трэба было трываць…